



# Літаратура і мастацтва

**газета творчай інтэлігенцыі Беларусі**

20 КРАСАВІКА 2001г. № 16/4100 КОШТ 124 РУБ.










# На чужым падмурку

Мяркуючы па старых фотаздымках, у 20-я гады мінулага стагоддзя Мінск збольшага быў горадам двух- і трохпавярховым. А вызначалі сілуэт горада вежы касцёлаў і купалы цэркваў. Карціна атрымлівалася даволі гарманічная. Будынкі архітэктара Лангбарда (30-я гады) гэтую гармонію мусілі, безумоўна, парушыць. Ягоныя Дом урада, Акадэмія, Опера і Дом Чырвонай Арміі (цяпер — Дом афіцэраў) глядзеліся напачатку як танкі пасярод вясковай вуліцы.

З усіх рэалізаваных у Мінску праектаў Лангбарда найбольш спрэчным падаецца Дом афіцэраў, пабудаваны ў 1934—1939 гадах. Хаця б ужо з той прычыны, што каб яго ўзвесці, знішчылі комплекс Архірэйскага падвор'я. Ад "установы культа" застаўся толькі двухпавярховы дамок у так званым "псеўдарускім" стылі (зараз у ім Дом мастацтваў). Дом афіцэраў стаіць на падмурку знішчанага сабора.

Хаця будынак і належыць Арміі, але па сутнасці гэта культурніцкі комплекс агульнагарадскога прызначэння. Але атрымалася, што для армейскага клуба будынак занадта шыкоўны, а для горада — непаўнавартасны. Не любяць артысты іграць на ягонай сцэне, не любяць мастакі ладзіць там выставы. Атмасфера не тая... Нават вонкава будынак нагадвае той танк, што стаіць на пастаменце побач.

Падаецца, што будынак упаўзае на гару, зачапіўшыся за вяршыню "гусеніцамі" бакавых рызалітаў.

У свядомасці мінчукоў Дом афіцэраў яшчэ не стаў паўнавартасным помнікам часу, таму і стаўленне да яго (як і да ўсёй спадчыны савецкай эпохі) даволі крытычнае. Але пабудовы 30-х гадоў у стылі канструктывізму адрозніваюцца ў лепшы бок ад так званага "сталінскага ампіру" 40-х — пачатку 50-х. Пасля вайны савецкія дойліды шчыравалі на ніве "архітэктуры фасадаў". Парадны фасад, што выходзіў на вуліцу, багата аздабляўся ляпнінаю, а са двара будынак часам уяўляў вартае жалю відовішча. Канструктывісты ж імкнуліся зрабіць будынак выразным з усіх бакоў. Своеасаблівая, праўда — змрочная прыгажосць ёсць і ў абрысах Дома афіцэраў. Гэткі феадальны замак першай паловы XX стагоддзя. Як ілюстрацыя да слушнай думкі, што "ў кожнага стагоддзя сваё сярэднявечча".

**П. В.**

*Фота М. ПРУПАСА*







# КОЛА ДЗЁН

***Вось і адсвяткавалі Вялікдзень. На жаль, на гэты раз надвор'е нам не паспрыяла. І ўсё ж свята — гэта свята. І былі малітвы ў Храмах, і былі песні валачобнікаў, і была чарка, і была скварка...***

***А 24 красавіка — Радаўніца.***

### *ГАЛАСАВАННЕ ТЫДНЯ*

У Авальнай зале Палаты прадстаўнікоў адбылося абмеркаванне і галасаванне за Пагадненне паміж Рэспублікай Беларусь і Расійскай Федэрацыяй аб увядзенні адзінай грашовай адзінкі і фарміраванні адзінага эмісійнага цэнтра Саюзнай дзяржавы. Прадстаўляў Пагадненне на суд парламентарыяў старшыня праўлення Нацыянальнага банка Пётр Пракаповіч. Адзіная валюта павінна будзе ўведзена з 1 студзеня 2008 года. А з 2005 года на тэрыторыі Беларусі мяркуецца ўвесці расійскі рубель у якасці адзінага плацежнага сродку. Праўда, увядзенне расійскага рубля запатрабуе дадатковага міжурадавага пагаднення і выкліча неабходнасць унясення змянення ў Канстытуцыю. Пасля шэрагу выступленняў адбылося галасаванне. 95 дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў прагаласавалі за Пагадненне паміж Рэспублікай Беларусь і Расійскай Федэрацыяй аб увядзенні адзінай грашовай адзінкі і фарміраванні адзінага эмісійнага цэнтра Саюзнай дзяржавы. І толькі 3 дэпутаты выступілі супраць яго прыняцця.

### *УКАЗ ТЫДНЯ*

Хто не служыў у войску, той не ведае, што для юнака значыць указ "Аб звальненні ў запас ваеннаслужачых, якія выслужылі ўстаноўленыя тэрміны ваеннай службы, і аб чарговым прызыве грамадзян на тэрміновую службу". Такі ўказ з'яўляецца два разы на год. Адны яго з нецярпеннем чакаюць, каб вярнуцца на "гражданку", другія — часам нават пабойваюцца гэтага ўказа, бо трэба ісці служыць. А служба салдацкая — нялёгкая, але, як кажуць, пачэсная. І вось у друку з'явіўся Указ Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь № 196, згодна з якім у маі — ліпені 2001 года на тэрміновую ваенную службу ва Узброеныя Сілы Беларусі прызываюцца грамадзяне, якім да дня прызыву споўнілася 18 гадоў. Словам, адным радасць, а другім — трывога...

### *ЮБІЛЕЙ ТЫДНЯ*

Заўтра спаўняецца 80 гадоў газеце "Чырвоная змена", якую сёння ўзначальвае вядомы ў нашай краіне журналіст і краязнаўца Алесь Карлюкевіч. Віншуючы калег-журналістаў "Чырвонкі" з юбілеем, жадаем ім і надалей поспехаў на ніве выхавання моладзі.

### *ТРЫВОГА ТЫДНЯ*

Апошнімі гадамі часта даводзіцца чуць пра тое, што нешта здарылася на Смаленскай АЭС. Вось і зноў у друку з'явілася паведамленне прэс-службы канцэрна "Росэнергаатам", што 16 красавіка ў сувязі з выяўленнем дэфекту ў электрычнай частцы спынены першы энергаблок Смаленскай АЭС. Пагрозы бяспечнай эксплуатацыі атамнай станцыі няма. Радыяцыйнае становішча на пляцоўцы АЭС і прылеглай тэрыторыі без змяненняў і радыяцыйны фон знаходзіцца ў межах натуральнага радыяцыйнага фону. Так што, жыць можна і далей спакойна. І ўсё ж...

### *СПІС ТЫДНЯ*

Амерыканцы апошнім часам любяць складаць розныя спісы, але асабліва ім падабаюцца чорныя. Вось ізноў Служба іміграцыі і натуралізацыі ЗША склала "чорны" спіс, у якім ёсць і наша краіна. Зыходзячы з "чорнага" дакумента, ЗША ўвялі ў дачыненні да беларусаў візавы рэжым пры транзітным пераездзе праз іх тэрыторыю. Разам з намі ў спіс трапілі таксама Кітай і Расія. За што?

### *УВЯДЗЕННЕ ТЫДНЯ*

З 16 красавіка 2001 года Нацыянальны банк Рэспублікі Беларусь увёў у абарачэнне білет Нацыянальнага банка РБ вартасцю 10000 рублёў узору 2000 года. Паміж увядзеннем 5000 купюры і 10000 прайшоў амаль год. І гэта нядрэнна, бо раней новыя купюры з'яўляліся часцей. І ў гэтым нічога дрэннага няма... Хаця, як сказаць. Але...

### *ВЫЗВАЛЕННЕ ТЫДНЯ*

Абвінаваўчая палата Жэневы прыняла рашэнне аб вызваленні Дзяржсакратара Саюзнай дзяржавы Беларусі і Расіі Паўла Барадзіна з-пад варты пад заклад у 5 мільёнаў швейцарскіх франкаў (больш за 3 мільёны долараў). Заклад быў унесены, і Павел Барадзін вярнуўся ў Расію. Але на гэтым гісторыя з Дзяржсакратаром яшчэ не скончылася — яму трэба будзе ездзіць у Жэневу на допыты. Хаця, калі справа была надуманай, то, можа, на гэтым уся гісторыя і скончыцца...

### *ВАНДАЛІЗМ ТЫДНЯ*

Могілкі — гэта святое месца не толькі для тых людзей, якіх сваякі там пахаваны, але і для ўсіх. Дакладней, павінна так быць. Аднак, відаць, не ўсе так лічаць, бо як можна было, зайшоўшы ў святое месца, пакінуць пасля сябе разбурэнні. Так на гарадскіх могілках Трышынскія, што па вуліцы Маскоўская ў Брэсце, вандалы, а інакш іх і не назавеш, павалілі і разбілі 80 надмагільных пліт. Па гэтым факце ўзбуджана крымінальная справа па арт. 347 ч. 1 — апаганенне могілак.

### *НЕПРЫЕМНАСЦЬ ТЫДНЯ*

З самага пачатку красавіка па сёння амаль па 3-4 разы на тыдзень на Сонцы адбываюцца ўспышкі, якія даходзяць да Зямлі геамагнітнымі бурамі. Ужо некалькі разоў адбыліся самыя магутныя ўспышкі падчас 11-гадовага перыяду сонечнай актыўнасці. Магутнасць гэтых успышак была прыкладна ацэнена ў 22 балы, прытым, што стандартная шкала ацэнкі даходзіць толькі да 20. Геамагнітныя буры аказваюць вельмі неспрыяльны ўплыў на самаадчуванне людзей. Нават ёсць статыстыка, згодна з якой ад змяненняў электрамагнітнага поля Зямлі пакутуюць каля 10 працэнтаў насельніцтва ўсёй планеты. І асабліва адчувальныя да геамагнітных бур жыхары вялікіх гарадоў. Таму і не дзіўна, што апошнім часам у многіх жыхароў нашай сталіцы і абласных цэнтраў вельмі дрэннае самаадчуванне. Аднак вызначана дактарамі, што людзі лепей пераносяць магнітныя ваганні, калі добра адпачываюць уначы, сплючы пры гэтым пад коўдрамі з натуральных тканін.

### *РАШЭННЕ ТЫДНЯ*

У друку з'явілася інфармацыя, што ў сувязі з рэзкім пахаладаннем сталічныя ўлады прынялі рашэнне аб паэтапнай падачы цяпла ў кватэры мінчан. Падключэнне жылога фонду, інтэрнатаў і гасцініц пачалося 17 красавіка і закончыцца на працягу 3-4 сутак.

# У Саюзе беларускіх пісьменнікаў

На традыцыйную сустрэчу ў пісьменніцкую бібліятэку прыйшлі вучні 91-й сярэдняй школы Мінска. На гэты раз яны знаёміліся са старонкамі штотыднёвіка "Літаратура і мастацтва". Пра гісторыю выдання, яго сённяшні дзень расказаў галоўны рэдактар "ЛіМа" паэт Алесь Пісьмянкоў. З цікавасцю слухалі вучні выступленні Віктара Шніпа і Навума Гальпяровіча, задавалі пытанні, бралі аўтографы.

●

На адрас Саюза пісьменнікаў прыйшоў ліст ад намесніка кіраўніка Заходне-Казахстанскай вобласці Рэспублікі Казахстан Ш. Уцямісава, у якім ён паведамляе, як ягоныя землякі рыхтуюцца да 115-годдзя класіка беларускай літаратуры Змітрака Бядулі. Як вядома, З. Бядуля памёр у 1941 годзе на дарозе ў эвакуацыю і пахаваны ў г. Уральску на брацкіх могілках.

Ш. Уцямісаў паведамляе, што ў фондах Заходне-Казахстанскага абласнога краязнаўчага музея ёсць багаты матэрыял пра беларускага пісьменніка, атрыманы ў розныя гады з Дзяржаўнай нацыянальнай бібліятэкі Беларусі, музеяў гісторыі літаратуры і Я. Купалы, ад жонкі пісьменніка М. Плаўнік. У гонар 115-й гадавіны з дня нараджэння З. Бядулі ў вобласці пройдзе шэраг мерапрыемстваў, прысвечаных гэтай даце.

Разам з лістом удзячнасці Саюз беларускіх пісьменнікаў адправіў у далёкі Уральск кніжкі з творамі Змітрака Бядулі для бібліятэк горада, у якім знайшоў апошні прытулак слаўны сын Беларусі.

**Н. К.**

●

У ПТВ № 8 адбылася сустрэча з беларускімі літаратарамі Зміцерам Вішнёвым і Сержам Мінскевічам. Паэты распавялі пра літаратурныя тэндэнцыі апошніх гадоў і пачыталі свае творы. Праграма атрымалася цікавай і насычанай. Было вырашана і надалей праводзіць літаратурныя сустрэчы з навучэнцамі дадзенай установы.

●

У вялікай зале Дома літаратара прайшла аўтарская вечарына "За экалогію прыроды і чысціню душы" кампазітара Ігара Добрага. У выкананні гурта "Легенда" прагучалі песні на вершы М. Гусоўскага, Я. Купалы, Я. Коласа, М. Багдановіча, П. Броўкі, М. Танка, К. Буйло, Л. Геніюш, В. Іпатавай і інш. У мерапрыемстве ўзялі ўдзел маладыя паэты В. Корбут, З. Вішнёў, В. Гапеева, А. Туровіч.

**З. В.**

●

Сярод пошты, якая прыходзіць у саюз з розных куткоў Беларусі, трапляюцца лісты з падзякай у адрас нашых пісьменнікаў, якія праводзяць вялікую асветніцкую работу сярод юных аматараў літаратуры.

Такі ліст прыйшоў днямі з Брэста. У ім намеснік загадчыка Маскоўскага раённа аддзела адукацыі ... Г. Фрыдрык ад імя адміністрацыі раёна выказвае падзяку Зінаідзе Дудзюк за дапамогу ў арганізацыі творчых сустрэч з кіраўнікамі школьных літаратурных аб'яднанняў настаўнікаў беларускай мовы і літаратуры, за ўдзел у журы на раённым конкурсе чытальнікаў і ўдзел у раённых чытаннях, прысвечаных юбілею Міхася Рудкоўскага.

●

Адбылося пасяджэнне бюро секцыі прозы, на якім разгледжана творчасць маладых літаратараў — Валянціны Куксы, Сяргея Рублеўскага і Паўла Гаспадыніча.

У абмеркаванні твораў гэтых аўтараў прынялі ўдзел Леанід Левановіч, Барыс Пятровіч, Алесь Масарэнка і іншыя. Станоўча ацэньваючы кнігі празаікаў, яны выказалі і слушныя заўвагі і пажаданні.

Бюро секцыі вырашыла рэкамендаваць Валянціну Куксу, Сяргея Рублеўскага і Паўла Гаспадыніча для прыёму ў Саюз беларускіх пісьменнікаў.

●

Ужо на працягу многіх гадоў ваенна-шэфская камісія Саюза пісьменнікаў разам з Беллітфондам традыцыйна ладзіць у гонар свята Перамогі над фашысцкай Германіяй урачыстыя сустрэчы пісьменнікаў-ветэранаў Вялікай Айчыннай вайны, на якія збіраюцца ўсе, хто мае сілы, не хварэе, здаровы.

Збяруцца ветэраны і на гэты раз — убачыць адзін аднаго, пагутарыць, успомніць незабыўныя франтавыя дарогі. Сустрэча адбудзецца, — так вырашылі члены ваенна-шэфскай камісіі на сваім чарговым пасяджэнні — напярэдадні свята ў Доме літаратара.

У майскія дні пісьменнікі наведаюць таксама пагранічнікаў, сустрэнуцца з вайскоўцамі.

**Я. ІВАНОЎ**



ВЫСТАВЫ

# "Мой боль вырастае да зор..."

У Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры адкрылася літаратурна-мастацкая выстава "Мой боль вырастае да зор...". Гэта словы паэта Міколы Мятліцкага, чыя "малая радзіма" вось ужо 15 гадоў за калючым дротам. Трагедыя, якую перажывае ўвесь наш народ, знайшла сваё адлюстраванне ў літаратуры і мастацтве. Журналісты, пісьменнікі, мастакі — кожны з іх сказаў нешта сваё, прапушчанае праз розум і сэрца. Толькі невялікая частачка ўсяго гэтага прадстаўлена на выставе.



Але можна пазнаёміцца з рукапісамі твораў пра чарнобыльскую трагедыю Алеся Адамовіча, Міколы Мятліцкага, Васіля Зуёнка, Сяргея Законнікава, Генадзя Бураўкіна, Анатоля Зэкава, Эдуарда Акуліна, Віктара Казько, Валянціны Паліканінай, Васіля Жуковіча, Янкі Сіпакова.

Побач з паэтычнымі словамі, напісанымі чырвоным алоўкам, паўстаюць мастацкія творы — два трыпціхі Віктара Барабанцава "Зона", карціны Уладзіміра Кожуха "Ачышчэнне", "Павадыр", "Палеская плашчаніца".

Пачуццё горычы, трагізму выклікаюць мастацкія творы Сяргея Давідовіча "Жудасны цень", "Сустрэліся два горы", "Люстэрка лёсу", "Бязлітасныя часціцы", калаж Уладзіміра Стальмашонка, трыпціх Уладзіміра Крукоўскага "Дзень ікс", скульптура Льва Гумілеўскага "Чорная быль". Свае перажыванні паказалі ў мастацкіх творах і керамісты Алена Ярмоленка і Сяргей Ліфанаў і Анатоль Волкаў.

Завяршаюць экспазіцыю работы скульптара Эдуарда Астаф'ева "Чорнае воблака" і "Анёл-ахоўнік Беларусі" Ігара Засімовіча.

На адкрыцці выставы выступілі Ніл Гілевіч, Сяргей Законнікаў, Сяргей Давідовіч, Мікола Мятліцкі, Анатоль Зэкаў, Віктар Барабанцаў, Эдуард Астаф'еў, Уладзімір Стальмашонак, а таксама вучаніца 10-га класа Бараўлянскай СШ. Малітву аб загінуўшых прачытаў айцец Ігар Карасцялёў, настаяцель храма ўшанавання іконы Божай Маці Усіх Тужлівых Радасце. Царква была закладзена 26 красавіка 1991 г. у памяць ахвяраў Чарнобыля. Айцом Ігарам былі выказаны і словы веры ў розум чалавека, яго светлую будучыню. Засталося пачуццё надзеі.

**Вольга ГУЛЕВА**

*Фота Дзмітрыя ЛАГУНОВА*



ІМПРЭЗЫ

# "Залатагорская ліра" кліча...

Кемлівы мінчук адразу расшыфруе гэтую назву і зразумее: на Залатой Горцы адбываецца музычная імпрэза. Так, ужо другі год запар тут ладкуецца велікодны фэст. Яго ініцыятар — старшыня музычнага таварыства "Ліра" пры касцёле Найсвятой Тройцы (св. Роха) Віктар Кісцень. Кампазітар, арганіст, ён скончыў Беларускую акадэмію музыкі, цяпер займаецца там у магістратуры. Арганізатары "Залатагорскай ліры" падкрэсліваюць сваю ўвагу да рэлігійнай музыкі розных эпох, у тым ліку XX ст., а перадусім — да беларускіх твораў хрысціянскага зместу. Прынамсі, у рэпертуары выканаўцаў — сучасныя партытуры А. Безансон, А. Літвіноўскага.

Адкрыццё фэсту адбылося 16 красавіка канцэртам арганнай і вакальнай музыкі. За велічным, чарадзейным інструментам змянялі адно аднаго музыказнаўца і арганістка С. Немагай ды В. Кісцень. Яны гралі сола і акампанавалі спявачкам Т. Цыбульскай ды Т. Рэмез. Бах і Манюшка, Рэгер і Сен-Санс, Гендэль і Вердзі...

А колькі цудоўнай і рознай музыкі ў праграмах іншых удзельнікаў залатагорскага свята! Сярод іх парафіяльныя хоры, маладзёжны вакальны калектыў, нават струнны квінтэт. Бліжэйшы канцэрт — а 16-й гадзіне ў нядзелю. Закрыццё фэсту — 29 красавіка.



**С. Б.**

ФЕСТЫВАЛІ

# Свой пачэсны пасад...

**Працягваецца Міжнародны фестываль "Мінская вясна". Як вядома, сёлета яго канцэрты ладкуюцца пад агульнай назвай: "Еўрапейскія музычныя сустрэчы". І падчас гэтых сустрэч можна пераканацца, што беларуская музыка займае "свой пачэсны пасад" у сучаснай сусветнай культуры. Мы паведамлялі ўжо, што да арганізацыі некаторых фестывальных канцэртаў спрычынілася Беларускае таварыства сучаснай музыкі. Каардынатар гэтых праграм кампазітар Дзмітрый ЛЫБІН, прынамсі, зазначае:**

— Добра, калі творы розных эпох і стыляў гучаць на роўных, як гэта, дарэчы, заўсёды было. Але сёння ў нас пазначылася не зусім правільная тэндэнцыя: аддзяляць сучасную музыку ад усёй іншай. Таму Беларускае таварыства сучаснай музыкі, дамаўляючыся наконт правядзення ў межах "Мінскай вясны" сваёй імпрэзы, падтрымлівала якраз ідэю ўключэння ў рэпертуар і даўніх, і новых твораў. У выніку перамоваў з кіраўніцтвам Беларускай дзяржаўнай філармоніі на фестывальных афішах з'явілася некалькі канцэртаў "пад грыфам" нашага таварыства.

Так, 17 красавіка з аншлагам прайшло выступленне маладых беларускіх гітарыстаў, сярод якіх лаўрэаты міжнародных конкурсаў Я. Скрыган, Н. Ліпніцкая, П. Шамшура, П. Бельскі, ансамбль пад кіраўніцтвам Я. Грыдзюшкі. Яны ігралі музыку XX ст., у тым ліку беларускіх аўтараў: Г. Гарэлавай, В. Кузняцова, А. Літвіноўскага, В. Жывалеўскага. Адбылася прэм'ера п'есы "Бах, які... бяжыць" грэчаскага кампазітара Л. Хаджылеанціядзіса. Сёлета Грэцыя адзначае 180-годдзе вызвалення краіны ад асманскага ярма і адраджэння нацыянальнай культуры, і мы запрасілі нашага калегу на фестываль у якасці ганаровага госця. Але ён, не толькі музыкант, а і спецыяліст у галіне біяэнергетыкі, па навуковых справах паехаў у Германію, дзе, на жаль, затрымаўся і не змог завітаць да нас.

Запрашалася на мінскую прэм'еру свайго твора "Механічныя песні" ўкраінская кампазітарка К. Цапкаленка. Яна вядомая ў міжнародным музычным свеце, удзельнічае ў прэстыжных кампазітарскіх форумах, да таго ж арганізуе даволі прадстаўнічы міжнародны фестываль сучаснай музыкі ў Адэсе. Праўда, гэты фестываль, які завяршыўся днямі, вымусіў сп. Кармэлу адмяніць свой візіт да нас. Але яна папрасіла даслаць беларускія партытуры — з мэтай уключэння іх у праграмы наступных адэскіх фестываляў.

Творы К. Цапкаленкі, а таксама такіх знаных кампазітараў, як Д. Міё, В. Лютаслаўскі ды інш., прагучалі ў выкананні фартэпіяннага дуэта Г. Гетманава — Н. Пазнякова. Нашы дзяўчаты толькі-толькі вярнуліся з Іспаніі, дзе на міжнародным конкурсе заваявалі першую прэмію. Прыемна, што яны ўдзельнічалі ў выкананні і майго твора "Апошняя працэсія" для двух фартэпіяна, трубы, ударных і магнітнай стужкі.

21 красавіка ў Мінск завітае ўжо знаёмы чытачам "ЛіМа" кампазітар, прафесар Кракаўскай студыі электраакустычнай музыкі М. Халанеўскі. Ён прыязджае з ансамблем "Roca,g Towarowy". У Акадэміі музыкі мае адбыцца імпрэза пад назвай "Цені. Нямыя фільмы з жывой музыкай". Думаю, ураженні будуць незвычайныя. Падкрэслю, што арганізаваў гэты візіт Польскі інстытут у Мінску.

А 24-га ў Зале камернай музыкі — канцэрт з удзелам арганісткі Н. Кафанавай ды спявачкі А. Казанцавай. 1-е аддзяленне складзена з твораў І. С. Баха. Потым будзе гучаць музыка XX, ці ўжо нават XXI, стагоддзя: "Sonata minore" кракаўскага кампазітара В. Відлака, "Refrection" ("Пераламленне") Я. Паплаўскага для разнастайных ударных інструментаў, а таксама мая арганная таката "Да вытоку вяртаючыся". Дарэчы, хочацца выказаць вялікую ўдзячнасць вядомаму педагогу Л. Тунчык, дзякуючы якой у праграме ўдзельнічаюць яе таленавітыя выхаванцы — ансамбль ударных інструментаў Рэспубліканскага каледжа пры Беларускай акадэміі музыкі, а таксама знойдзены рэдкасныя інструменты для ўвасаблення кампазітарскіх задум.

Сёлетняя "Мінская вясна" радуе прадстаўнічым складам нашых суайчыннікаў. Апроч названых твораў, вартыя ўвагі прэм'еры Л. Шлег, С. Бельцюкова. Наогул жа, дзякуючы ўзаемаразуменню ўдзельнікаў Беларускага таварыства сучаснай музыкі і мастацкага кіраўніка сталічнай філармоніі Ю. Гільдзюка, імпрэзы кшталту сёлетняй будуць уключацца ў планы "Беларускай музычнай восені" і наступных вясновых фэстаў.

**Запісала С. БЕРАСЦЕНЬ**

ПОШТА

# "Вам трэба часцей сустракаць сябе з людзьмі..."

Словы, што вынесены ў загаловак, — парада шаноўным пісьменнікам аднаго магілёўца. Калі ж пачынаеш удумвацца ў іх глыбінны сэнс, то і ўвогуле на фармальную памылку перастаеш звяртаць увагу. Рэч у тым, што, напэўна, ніколі за ўсю гісторыю новай беларускай літаратуры наш пісьменнік не быў так моцна адарваны ад свайго народа, як цяпер. Прычын, што стварылі гэту прыкрую сітуацыю, мноства, следства ж адно: творцы ўсё радзей нагадваюць абывацелям пра сваё існаванне. А вядома, што нават і грошы пара-хнеюць, як ляжаць у гаршку.

Я не цешуся надзеяй на згоднае ківанне пісьменніцкіх галоў. Тым больш, што прэцэдэнт ужо быў. Ічуў я ад сябра СПБ звыклае, яму самому даўно абрыдлае: "Не дуры галаву. Мы для цяперашняга грамадства — лішняя лыжка. Нас не хочуць выдаваць, а калі і выдаюць смешнымі накладамі, то людзі не хочуць чытаць..." Мне заставалася толькі з сумнай ironіяй працытаваць у адказ радкі яго расійскага калегі М. Пазднеева:

*Мой последний читатель!*
*Шампанским залей*
*И заешь Бомарше свой зевок.*
*Потому что совок я*
*по крови своей,*
*И поймет меня только совок.*

Банальна пасварыліся. Праўда, я такі паспеў яму параіць учытацца ў трэнасы тых жа расійскіх творцаў, якіх турбуюць падобныя нашым праблемы, нягледзячы на карыстанне "вялікім і магучым". Дык яны хаця суцяшаюць сябе праўдзівай думкай, што сапраўдная літаратура стваралася для эліты грамадства, а значыць наўрад ці можа быць запатрабаванай аматарамі "бульварнай славеснасці"...

У цяперашнюю эпоху татальнага бібліяцыду і эстэтычнай атупеласці хіба варта чакаць, пакуль прачнецца твой чытач? Патрэбна, неабходна варушыць яго, хоць зрэдку адрываць ад спажывання звыклага кічу і даваць "кіслароду" ў выглядзе паўнакроўнай літаратуры.

Пахваліюся, што апошнім часам нам не надта папулярны ў сталічным пісьменніцкім асяроддзі Магілёў пабачыўся з такімі цікавымі людзьмі, адметнымі творцамі, як Генадзь Бураўкін, Алесь Разанаў, Карлас Шэрман, Уладзімір Арлоў і Міхась Скобла... Калі я глядзеў на іх, стомленых да знямогі пасля чатырох-пяці сустрэч з чытачамі, адчуваў зусім не спачуванне, а светлую зайздрасць і гонар. Было радасна ўсведамляць, што, як бы ні ганіў каторы гультай нашу айчынную літаратуру, нашых пісьменнікаў, яны беларускім людзям далёка не чужыя. Іх ведаюць, любяць, **хочуць іх бачыць на свае вочы**. Прычым, бачыць не для таго, каб дапытвацца, "з кім вы, інжынеры чалавечых душ", а каб наталіцца стваральнай энергіяй Асобы. Ці варта казаць пра ўзаемную карысць такіх кантактаў для "абодвух бакоў" (паглядзелі б вы, як цвілі вочы Генадзя Бураўкіна, калі ён падпяваў выканаўцы яго "Калыханкі" першакласніцы 35-й магілёўскай школы Кацярыны, і як зіхацела ў гэты час яшчэ амаль тысяча юных вачэй)...

Тапельцы спрадвеку ратавалі сябе самі. Удавалася ім выбірацца з вады ці не — рэч іншая. СПБ, вядома, не ратавальная лайба, але, пагодзімся, з дзесятак гадоў таму, калі пры ім існавала Бюро прапаганды літаратуры, усім нам — і чытачам, і творцам — надаралася сустракацца часцей. Ва ўсякім разе, сталічныя пісьменнікі мелі магчымасць дабірацца не толькі да "правінцыі" кшталту Уручча...

Задача айчыннага творцы залучыць у шэрагі духоўнай эліты як мага больш беларускай застаецца нязменнай. А таму напярэдадні з'езда цяперашняй радзе СП надзённа было б папацаваць не толькі над праблемай "вялікага расколу", а яшчэ і над **рэальнай** стратэгіяй і тактыкай папулярызацыі беларускага мастацкага слова. Тым болей, што, як нам вядома, нешта падобнае да канцэпцыі ўжо даволі даўно распрацавана Дзяржкамдрукам.

Шаноўныя творцы, хопіць сядзець у будзе і чакаць, што будзе. Вам сапраўды варта часцей "сустракаць сябе" з людзьмі.

**Сяргей УКРАІНКА**

*г. Магілёў*

# Заява

Мы, сябры Саюза беларускіх пісьменнікаў, патрабуем ад уладаў Рэспублікі Беларусь спыніць ганебнае шальмаванне ў дзяржаўных сродках масавай інфармацыі сусветнавядомага пісьменніка Беларусі, ветэрана Вялікай Айчыннай вайны Васіля Уладзіміравіча Быкава, якое не робіць гонару ні нашай краіне, ні яе кіраўніцтву. Такога шалёнага і беспадстаўнага гвалту, паклёпу на Беларусі не было з 30-х гадоў, калі знішчаліся сотні беларускіх пісьменнікаў, навукоўцаў і палітыкаў. Сёння, нібы пераняўшы злачынныя і звыродныя сталінска-берыеўскія метады, Беларускае тэлебачанне, выконваючы волю сваіх гаспадароў, дагаварылася да таго, што змагар з фашызмам, ветэран-франтавік Васіль Быкаў — "літаратурный полицай", што чалавек, які ўсё сваё жыццё намагаўся паказваць у сваіх творах праўду, хоць і горкую, — "Василий, не помнящий родства" (перадача "Тайные пружины политики" ад 17 сакавіка 2001 года).

Улады краіны, з чыёй маўклівай згоды ўжо працяглы час ганьбіцца імя Васіля Быкава, не маюць ні маральнага, ні канстытуцыйнага права рабіць выгляд, што лёс нашага народнага пісьменніка — не дзяржаўная справа.

Мы перакананыя, што ўсё мінецца, а праўда застанецца, і аддадзена будзе кожнаму паводле ўчынкаў яго.

**Сябры Саюза беларускіх пісьменнікаў:** **Рыгор Барадулін**, народны паэт Беларусі, **Уладзімір Арлоў**, **Генадзь Бураўкін**, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі, **Анатоль Верабей**, **Анатоль Вярцінскі**, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі, **Генрых Далідовіч**, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі, **Аляксандр Дракахруст**, **Вольга Іпатава**, **Казімір Камейша**, **Анатоль Кудравец**, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі, **Алег Лойка**, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі, **Алесь Пашкевіч**, **Віктар Праўдзін**, **Васіль Сёмуха**, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі, **Міхась Скобла**, **Валянцін Тарас**, **Ганад Чарказян**, **Карлас Шэрман**.

АБСЯГІ

## ВІЦЕБШЧЫНА...

### Кніжка дзіцячай шчырасці

У Віцебску выйшаў зборнік твораў мясцовых юных паэтаў і кампазітараў "Зоркі Прыдзвіння" пад рэдакцыяй пісьменніка Барыса Беляжэнкі. Склала кнігу (дарэчы, трэцюю па ліку) метадыст аддзела мастацкай творчасці абласнога аб'яднання па арганізацыі пазашкольнай работы, кіраўнік літаратурнай гасцёўні "Крынічка" Ларыса Пабядзінская. Юныя аўтары закранаюць у сваіх творах сур'ёзныя тэмы, уражваюць глыбокімі чалавечымі пачуццямі, адкрытымі шчыраваннямі, смеласцю і мужнасцю.

У прадмове да зборніка Барыс Беляжэнка зазначыў, што ён вельмі ашчадна і карэктна падыходзіў да рэдагавання кніжкі. Хацелася захаваць непаўторную наіўнасць, першароднасць лірычных памкненняў юных творцаў, якія пішуць аб любові да сваёй радзімы і мовы, аб асабістым сталенні і надзеях на лепшую беларускую будучыню.

### Натхніў Караткевіч

У Полацкім дзяржаўным універсітэце прайшла навуковая канферэнцыя "Уладзімір Караткевіч і сучаснасць". Як адзначае доктар філалагічных навук прафесар Аляксандр Гугнін, універсітэт зараз працягвае слаўныя асветніцкія традыцыі. Тут мусіць адкрыцца шэраг літаратуразнаўчых кафедраў. Яшчэ нядаўна лічылася, што былы тэхнічны інстытут не мае права на статус універсітэта з развітой філалогіяй.

Аднак узгаданая канферэнцыя ўшчэнт разбівае складзены стэрэатып. Удзельнікі — гісторыкі і філолагі — аднадушна заўважылі, што канферэнцыя ўдалася, а літаратурны арыстакрат, рыцар свабоды і сумлення Уладзімір Караткевіч паўстаў ва ўсёй сваёй шматграннай творчай натуры.

**Святлана ГУК**

## МАГІЛЁЎШЧЫНА...

### Будуецца царква

У Краснаполлі на працягу трох год будуецца праваслаўная Свята-Успенская царква. Грошы на яе ўзвядзенне пералічвалі працоўныя калектывы раёна, дапамагала дзяржава. Але летась работы спыніліся. Грамадскі савет па кантролі з будаўніцтвам храма звярнуўся да прадпрыемстваў і арганізацый Краснапольшчыны з просьбай дапамагчы. Адным з першых каля 150 тысяч рублёў пералічыў на рахунак будаўніцтва царквы Краснапольскі райвыканкам. Прыхаджане спадзяюцца, што ў гэтым годзе яны ўсё ж ткі змогуць наведаць адбудаваную царкву.

### Гучалі творы Баха і Моцарта

У абласным цэнтры праходзіў творчы конкурс выканаўцаў на фартэпіяна пад назвай "Натхненне". Конкурс праводзіцца ў другі раз. У ім бралі ўдзел выхаванцы музвучэльняў Гомеля, Магілёва і Мазыра. Музыканты выконвалі творы сусветнай класікі. Дзве першыя прэміі атрымалі вучаніцы педагога С. Кундзянок — Насця Стральцова і Таня Сабалеўская (Магілёўская вучэльня).

Дзве другія прэміі таксама ў магіляўчан — Ларысы Алёнушкінай і Наташы Казырэнкі.

**Алесь ПЯТРОВІЧ**

## ГОМЕЛЬШЧЫНА...

### Вясна — час фестываляў

Пачаўся фестываль "Гомельская вясна". Яго арганізатары (упраўленне культуры аблвыканкама і абласная філармонія) запрасілі лепшыя музычныя калектывы рэспублікі: Дзяржаўны канцэртны аркестр пад кіраўніцтвам Фінберга, Дзяржаўны аркестр народных інструментаў імя Жыновіча, ансамбль "Сябры", Віцебскі ансамбль песні, музыкі і танца "Талака", Магілёўскі аркестр народных інструментаў...

Жыхары Гомельшчыны ўбачаць і пачуюць таксама групу "Іванушкі" з Расіі, Нацыянальны тэатр "Фламенка" з Іспаніі, джаз-аркестр з Германіі. Фестываль будзе доўжыцца два тыдні.

### Майстра партрэтаў

Сябра Саюза мастакоў, вядомая акварэлістка Марыя Ягорава нарадзілася ў Баку, але ўсё сваё творчае жыццё звязала з беларускай зямлёй. У 63-м, пасля заканчэння Дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута прыехала ў Гомель. Галоўная тэма творчасці мастачкі — дзіцячы партрэт. Вобразы юных герояў у яе выкананні — радасныя і светлыя. Вельмі маляўнічыя пейзажы і нацюрморты. Творам Марыі Ягоравай уласцівы трапяткі мажорны колерны лад, у кожнай рабоце паўстае веліч палескага краю.

Зараз лепшыя творы мастачкі экспануюцца на персанальнай выстаўе ў карцінная галерэі абласной арганізацыі Саюза мастакоў.

**Аляксей ШНЫПАРКОЎ**

## МІНШЧЫНА...

### З'езд беларусаў свету

На пачатку ліпеня ў сталіцы адбудзецца трэці з'езд беларусаў свету. Рашэнне аб правядзенні гэтага форуму прынята малой радай Міжнароднай грамадскай арганізацыі "Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына" ў адпаведнасці з яе статутам. Дзеля належнай падрыхтоўкі значнай для Беларусі падзеі малая рада "Бацькаўшчыны" стварыла арганізацыйны камітэт і рабочую групу. Сустаршынямі аргкамітэта абраныя Радзім Гарэцкі, Вітаўт Кіпель, Валеры Герасімаў, Іван Саверчанка. Рабочую групу ўзначальвае Алена Макоўская.

Як паведаміла апошняя, з'езд, які "Бацькаўшчына" склікае трэці раз, стаўся найбольш прыдатнай пляцоўкай для ўсталявання кантактаў і шматузроўневага дыялога паміж беларусамі розных краін і кантынентаў. Прынятыя на форуме рашэнні, агульныя адозвы служаць арыенцірам і трывалым падмуркам нацыянальнай згуртаванасці.

Асноўная мэта трэцяга з'езда — кансалідацыя беларускай нацыі, умацаванне грамадзянскай супольнасці, акрэсліванне перспектыў развіцця Беларусі ва ўмовах цывілізацыйных змен. Сярод дэлегатаў — прадстаўнікі беларускай дыяспары з ЗША, Канады, Бельгіі, Аўстраліі, Германіі, Англіі, Францыі, Польшчы, Расіі, Украіны, краін Прыбалтыкі...

**Наш кар.**





## І векавечны толькі край

**У Мар'інагорскім гарадскім Палацы культуры адбылася прэзентацыя кнігі краязнаўца-земляка Алеся Карлюкевіча "І векавечны толькі край", што нядаўна выйшла ў выдавецтве "Полымя". Разам з аўтарам да пухаўчан завіталі народны паэт Беларусі Рыгор Барадулін, паэт Ганад Чарказян, паэт і бард Алесь Камоцкі.**

**Госці чыталі вершы, разважалі пра гісторыю, культуру Беларусі і Пухавіцкага краю. З асаблівай цікавасцю слухалі бібліятэкары, настаўнікі і школьнікі выступленне Р. Барадуліна. Ён даўно ведае Пухавіцкі край. Гасцяваў у Варонічах. Сябраваў з паэтам-пухаўчанінам Г. Кляўко. Рыхтаваў пасля смерці пісьменніка да друку выданне яго выбраных твораў. Сустрэчы, між іншым, папярэднічала наведванне гасцямі старажытнай Блоні, дзе месціцца Пухавіцкі раённы краязнаўчы музей. Змястоўную экскурсію ў ім правёў дырэктар і дасведчаны краязнаўца Аляксандр Пpановіч.**

**На сустрэчы ў Мар'інай Горцы бард А. Камоцкі выканаў песні і рамансы на словы Р. Барадуліна і Г. Чарказяна. Выступалі і пухаўчане. Сярод іх — і мясцовыя літаратары Браніслаў Зубкоўскі і Лявон Дубоўскі.**

**Максім СТАРАСЕЛЬСКІ**

## Ініцыятыва пухавіцкіх бібліятэкараў

**Аддзел бібліятэчнага маркетынгу Пухавіцкай цэнтральнай бібліятэкі выступіў з выдатнай ініцыятывай: распачата выданне серыі рэкамендацыйных краязнаўчых паказальнікаў літаратуры "Нашы землякі-юбіляры". Першы, леташні, выпуск прысвечаны краязнаўцу Міколу Каспяровічу (1900—1937). У паказальніку — біяграфія вучонага і краязнаўца, спіс публікацый пра яго.**

**Пухавіцкі раён багаты на землякоў-літаратараў. Безумоўна, падобная ініцыятыва атрымае працяг. Мажліва, пухавіцкія бібліятэкары заўважаць і плён работы мясцовых краязнаўцаў. Чаму б не выдаць паказальнікі публікацый В. Арлова, Б. Зубкоўскага (па коласазнаўстве), А. Ярохіна, А. Пpановіча, Н. Іллініч, С. Сіпача, Н. Вайцяховіч і іншых аўтараў, якія пішуць пра Пухаўшчыну?**

**Кастусь ЛАДУЦЬКА**

## Анімацыйнае кіно Германіі



**З красавіка ў Музеі сучаснага мастацтва адкрылася незвычайная выстава "Анімацыйнае кіно Германіі". У ёй прадстаўлены эскізы, малюнкі, фігуры, якія дазваляюць не толькі ўбачыць тэхнічны бок стварэння фільмаў, але і дакрануцца да той таемнай, паэтычнай крыніцы, якая і натхняе стваральнікаў фільмаў, разгледзець амаль што жывыя персанажы.**

**Выстава "Анімацыйнае кіно Германіі" прыняла ўдзел ва ўсіх значных міжнародных фестывалях, а фільм "Пошукі", прадстаўлены на выставе, у 1997 г. атрымаў "Оскара".**

**Святлана ЖУРАЎСКАЯ**

*На здымку: бацька і маці Убу ("Бацька Убу", 1997 г.)*

*Фота аўтара*

*САМ-НАСАМ З РАДЗІМАЙ І З ЧАСАМ*

Ніл ГІЛЕВІЧ

# Пасля Чарнобыля

Восенню 1986 года на сусветнай канферэнцыі пісьменнікаў "Мір — надзея планеты", якая праходзіла ў Сафіі, мне выпала расказаць удзельнікам форуму аб тым, якая страшная бяда-гора звалілася на Беларусь і беларускі народ і якая будучыня чакае нас, беларусаў, заложнікаў нечуванай экалагічнай катастрофы. Многія з прысутных да таго дня толькі краем вуха чулі пра жахлівую радыяцыйную паразу, нанесеную нашай зямлі і нам, жыхарам Беларусі, і падыходзілі пасля маёй прамовы да мяне, каб перапытаць ці ўдакладніць некаторыя лічбы і — каб выказаць спачуванне.

Я падзяліўся тады з імі тым, што было ў мяне на душы, пра што думаў і ў што хацеў верыць. А менавіта, што для нас, беларусаў, год чарнобыльскай катастрофы павінен стаць пачаткам новай эры, новага летазлічэння, што ад гэтага часу мы будзем гаварыць так: "Гэта было за трыццаць гадоў да Чарнобыля" або "Гэта было на дзевятым годзе пасля Чарнобыля". А галоўнае, у што мне хацелася тады верыць, — што з гэтага часу ўсе мы ў Беларусі пачнём жыць з непараўнана большым пачуццём адказнасці за свае чалавечыя і грамадзянскія паводзіны, з нашмат-нашмат большым адчуваннем Бога ў сэрцы. Што ў душы кожнага з нас будзе адбывацца свайго роду катарсіс, працэс маральнага пакаяння і духоўнага ачышчэння; што далей жыць так, як жылі дагэтуль, мы не зможам, бо не маем права, бо непамерна вырас, адпаведна маштабам трагедыі, наш абавязак аднаго перад адным і перад усімі (як у часе вялікай усенароднай вайны з ворагам), — абавязак быць адзін да аднаго дабрэйшымі і больш міласэрнымі. А яшчэ думалася мне — мы пачнём у чарнобыльскай эры больш клапаціцца пра высокае і чыстае, светлае і прыгожае ў нашым жыцці, пра тое, што будзе ўзвышаць і ўмацоўваць нашу Радзіму; думалася, што перад тварам такой жахлівай бяды і перад нашай невядомай будучыняй мы, беларусы, станем цясней яднацца і гуртавацца ў любові і веры Хрыстовай, якая ёсць і наша вера беларуская.

І было здалося мне, што пачалі праступаць адзнакі гэтых жаданых перамен, што абраны краінай курс на перабудову, на радыкальнае абнаўленне дзяржаўна-палітычных, эканамічных, сацыяльных і духоўных асноў жыцця будзе спрыяць гэтым дабратворным зрухам у нашых душах. Асабліва — калі пачалі рабіцца ўсё больш відочнымі праявы нашага нацыянальнага адраджэння, адзнакі набліжэння нашай свабоды, нашай дзяржаўнай незалежнасці.

На вялікі жаль, рэальнасць усіх наступных гадоў несла і нясе ў гэтым сэнсе адны горкія расчараванні. І чым далей — тым больш. І не аб'яднала нас наша гора, і не ўзвысіла духам, і не мабілізавала на добрыя справы. Франтальны развал эканомікі, нацыянальнай гаспадаркі, асабліва сельскай, рэзкае зніжэнне сацыяльнага дабрабыту бальшыні насельніцтва цягам усіх апошніх гадоў суправаджалася (і суправаджаецца сёння) заняпадам грамадскай маралі, ростам нядбальства і апушчэнства, павальным, можна сказаць, усенародным п'янствам, небывалым абвастрэннем крымінагеннай сітуацыі. (Наконт апошняга — найноўшыя афіцыйныя звесткі: у 1995 г. у Беларусі прапала без вестак 3622 чалавекі, у 2000-м — ужо амаль 6000. Гл. газету "Советская Белоруссия" за 12.4.2001 г.). Асабліва прыкрай і ганебнай амаральнай з'явай ёсць пашырэнне і ўзмацненне нацыянальнага нігілізму, пагарды да роднае мовы, да гісторыі і культуры Беларусі, культываванне бездухоўнасці, бяскрыласці, "анучнага" меркантылізму, бессаромнай татальнай хлусні, агрэсіўнай пошласці і цынізму.

У чэрвені 1990 года, з групай дэпутатаў Вярхоўнага Савета Рэспублікі, я пабываў у "зоне адсялення", на самым беразе Прыпяці, адкуль, з невысокай вышкі, добра бачны карпусы Чарнобыльскай АЭС. Вярнуўся з паездкі з неймаверным цяжарам на душы (аб гэтым — у паэме "Не хварэй!"). Тады ж на сесіі ВС унёс прапанову абвясціць назаўсёды дзень 26 красавіка Днём Нацыянальнай Жалобы і Смутку і строга захоўваць яго статус. Прапанову не прынялі. Сказалі: пра трагедыю трэба помніць пастаянна, кожны дзень, а не толькі 26-га красавіка. Калі б ды гэта сапраўды сталася так! Калі б ды сапраўды мы помнілі пра нашу нацыянальную катастрофу кожны дзень! Помнілі — і актыўна ратаваліся ад яе наступстваў. Ну хоць бы не дазвалялі на ўсыпаных радыенуклідамі землях жыць і займацца гаспадаркай, вытворчасцю прадуктаў харчавання. Дык нават на гэта ў нас не стае нацыянальнай волі і жаласці да саміх сябе. Ці, можа, нацыянальнага розуму? Бо калі паглядзіш, як пра здароўе нацыі клапоцяцца ва ўсіх краінах Еўропы, у Амерыцы і Японіі, а тады падумаеш, як пра сваё фізічнае і маральнае здароўе, пра будучыню Беларусі клапоцімся мы, — можна задушыцца ад крыўды. Ці, прынамсі, упасці ў глыбокую чорную роспач.

Бачачы, куды і як ідзе наша жыццё пасля Чарнобыля, іншы раз думаю: можа, і добра, што не прынялі маю прапанову наконт Дня Нацыянальнай Жалобы і Смутку. Бо прынялі б — і што? Вядома — што. Дзень Жалобы ўжо даўно ператварыўся б у яшчэ адзін афіцыйна ўзаконены дзень усебеларускага п'янства, — як сталі такімі ў нас усе афіцыйна ўкалендараныя Дні. Які ўрачыста-святочны ці жалобна-скрушны Дзень паможа тым, хто не хоча жыць інакш — цвярозым, разумным, нацыянальна арганізаваным і мэтанакіраваным жыццём? Тым — хто няйначай як махнуў абыякава рукою на свой уласны лёс?

# Засведчана лёсам

Упэўнены: ніхто так востра не адчувае невыносныя пакуты, нясцерпны боль ад чарнобыльскай катастрофы, як кожны з нас, хто яшчэ параўнаўча нядаўна жыў на зямлі сваіх бацькоў, у цудоўным, па-сапраўднаму маляўнічым, багатым і унікальным палескім краі, каго бязлітасны лёс, нечаканая аварыя на Чарнобыльскай атамнай станцыі выкінулі з родных котлішчаў, як бяскрыўдных птушанят, і — назаўсёды... Цяпер яны, змушаныя перасяленцы, жывуць у іншых раёнах і гарадах, нехта з іх трапіў нават у Мінск, і мы, землякі, сустракаемся, перазвоньваемся па тэлефоне, размаўляем і, вяртаючыся ў жахлівае мінулае, зноў і зноў перажываем яго...

...Сакавіцкі надвячорак апускаецца на сталіцу. Подых вясны адчувальны: праз адчыненую фортку у пакой урываецца вецярок з невыказна-хвалюючым вясновым пахам паветра. Неяк сумна для сябе, падсвядома, адзначаю, што хутка і магутная Прыпяць узламае лёд і вольна і прыгожа разальецца па палескіх лугавінах, і вернуцца ў родныя мясціны журавы, вось толькі многім маім землякам шлях туды забаронены...

Якраз у гэтым сумным ключы ідзе гаворка за самаварам у маіх добрых знаёмцаў, якім я прэзентаваў такую ж невясёлую кніжку паэта Міколы Мятліцкага "Бабчын". У пакоі мы утраіх: Сяргей Ігумнаў, яго маці-пенсіянерка Наталля Міхайлаўна і я. Зборнік вершаў майго земляка, як трапна назваў яго сам аўтар "кнігай жыцця", мне добра знаёмы, а Сяргей трымае кніжку ўпершыню. Яна яго цікавіць, хвалюе і ён не можа стрымаць гэтага хвалявання, і малады, мяккі голас гучыць узрушана:

*Не дайсці па жаўталісці,*
*Стронцый ногі апячэ.*
*Тут жыццё было калісьці,*
*Памяць цепліцца яшчэ.*

Гэта — пра вёску Бабчын, тую самую родную паэту вёску, якая і дала назву зборніку, вёску, якая апынулася сёння за калючым дротам, у радыяцыйнай зоне. Таму і з'явіліся такія пранікліва-шчымлівыя, хвалюючыя вершы, за кожным радком якіх — боль, боль, боль.

Моўчкі слухаем Сяргея. Цяжка нешта сказаць, нечым суцешыць сябе: малюнак — жудасны. Дай бог, каб не паўплывала радыяцыя на жыхароў трэцяга тысячагоддзя, каб экалогія Палесся зноў стала нармальнай для жыцця нашчадкаў і прыгажуня-Прыпяць дарыла ім радасць. І, безумоўна, каб вучоныя, медыкі памаглі сёння тым хворым, каму яшчэ можна памагчы.

Так, прыкладна, разважаем усе мы. Так разважае і Сяргей Ігумнаў, мой малады прыяцель, якога я ведаю яшчэ шкаляром, і за жыццёвым лёсам якога сачу з прыемным здзіўленнем і радасцю. Чаму здзіўляюся, чаму радуюся? Ніколі не думаў, што са звычайнага, кволага, мяккага характарам хлопчыка можа вырасці такі валявы, мэтанакіраваны чалавек, якім бачу яго сёння. Прырода не пакрыўдзіла Сяргея ні дужасцю, ні ростам — вымахаў пад два метры. Даў бог яму і дапытлівы розум, і добрае, спагадлівае сэрца. Апошняе, мажліва, і вырашыла яго жыццёвы шлях. Я нават не заўважыў за сваімі клопатамі, як юны мінчанін "разлічыўся" з сярэдняй школай і пакінуў за плячыма Мінскі дзяржаўны медыцынскі інстытут... І ўжо зусім быў уражаны, калі даведаўся, што гэты "хлопец з нашага горада", працуючы дзіцячым псіхіятрам у Рэспубліканскім дыспансеры радыяцыйнай медыцыны ў 27 гадоў бліскуча абараніў дысертацыю на званне кандыдата медыцынскіх навук, а потым, усяго за некалькі гадоў, напісаў і абараніў у Маскве яшчэ і дысертацыю на атрыманне вучонай ступені доктара медыцынскіх навук па тэме: "Псіхічнае развіццё дзяцей, што трапілі пад уздзеянне антэнатанальнага абпраменьвання ў сувязі з аварыяй на Чарнобыльскай АЭС". І менавіта гэтая работа Сяргея Аляксандравіча Ігумнава была ацэнена, як буйны ўклад у развіццё айчыннай радыебіялогіі і псіхіятрыі. Помню, як нязвыкла, збянтэжана адчуваў сябе Сяргей у кампаніі ўжо досыць пажылых, шырокавядомых у рэспубліцы і за яе межамі сівых мужоў навукі, калі яго, аднаго з самых маладых дактароў медыцынскіх навук, віншавалі з поспехам... Але здалося мне, што нават у гэтыя радасныя хвіліны вочы Сяргея былі журботныя: нібы тыя чарнобыльскія пакуты, пакуты дарослых і дзяцей, пасяліліся ў іх назаўсёды; знявечаныя радыяцыяй вёскі і гарады, у якія ён выязджаў у доўгатэрміновыя камандзіроўкі ў якасці ўрача-практыка, пакінулі ў яго душы такую ж пякельную боль, як і ў паэта:

*Ты з хаты выйшла —*
*лёгкая касынка,*
*Кавалачак паднебнага блакіту.*
*Куды бяжыш, смяшлівая дзяўчынка?*
*Тут сцежкі ўсе*
*Сатканыя з нябыту.*

*Тут травы ўсе зарошаны атрутай*
*Халодзяць ногі босыя твае*
*сцюжны вецер з горычнай пакутай*
*На кожным кроку згубна паўстае.*

— Паверце, я і сёння бачу ў снах усіх гэтых блакітнавокіх і бялявых дзяўчынак і хлопчыкаў з чарнобыльскай зоны... Сню і, мусіць, усё жыццё сніць буду...

Тое, што ў спагадлівых вачах гэты невыказны сум, — не схаваеш. Красамоўнае прызнанне Сяргея. Уздыхнуўшы, ён зноў схіляецца над кніжкай, а я прыгадваю сваё...

Іншы малюнак, іншы настрой уяўляецца мне, далёкі ад сённяшняга дня, ад рэалій нашага жыцця: трыумфальная паездка беларускіх пісьменнікаў у той самы злашчасны Чарнобыль на спеццеплаходзе па Прыпяці ўсяго за некалькі гадоў да аварыі. Мы тады спыняліся ў вёсках, надпрыпяцкіх гарадках і, поўныя рамантычнай узнёсласці, нейкай першароднай радасці, гаварылі палешукам добрыя і ўдзячныя словы, чыталі вершы, славячы свой час і непарушную дружбу народаў — ехалі ж у госці да сваіх сяброў, украінскіх пісьменнікаў у славуты горад атамнай энергетыкі. Было прыгожае лета, лагоднае сонца залаціла прыпяцкія хвалі, і ніхто з нас не думаў, што здарыцца непапраўнае, і наша душа захлынецца крыўдай і болем, і мы ўжо не зможам, як раней, ездзіць да сваякоў у госці, адпачываць на берагах самай магутнай і славутай беларускай ракі — у ціхіх завадзях, на шырокіх плёсах шукаць свайго рыбацкага шчасця, а ў рэдкасных пушчах — некранутых грыбных мясцін...

Гэта ж нядаўна на старонках нашых газет я з захапленнем і спачуваннем чытаў паведамленні з Германіі: група смельчакоў перакрыла чыгунку, людзі леглі на рэйкі — толькі б не прапусціць састаў са смяротным грузам, не даць закапаць радыёактыўныя адходы на іх роднай зямлі ў могільніку. Падумалася: мужныя і мудрыя людзі! А мы?! Ці ж шанавалі мы так свой па-сапраўднаму унікальны палескі край? Ці баранілі ад бязглуздых гаспадарнікаў? Менавіта тады, калі неабачліва асушаліся балоты, ладзілася поруч атамная станцыя...

Цяпер вось слухаю маладога вучонага, які чытае змрочнае прызнанне-дакор Міколы Мятліцкага, і, як грамадзянін, не магу не прыняць яго і на свой рахунак:

*Ухвальна рыфмай славячы прагрэс,*
*Я думаў: стаў паэтам прагрэсіўным.*
*вось страчае радыёактыўны*
*Надпрыпяцкі мой лес.*
*І сэрца надрываецца, шчыміць:*
*Ты ж мог свой лес*
*хоць вершам бараніць!*

Мажліва, запозненае прызнанне, але шчырае — тое, што ідзе з глыбіні чыстага сэрца. Я па-добраму зайздрошчу і паэту, і вучонаму, якія сёння лепш за мяне выконваюць свой грамадзянскі абавязак. А ў Сяргея, мяркуючы па дасягнутым, наперадзе яшчэ шмат добрых спраў і адкрыццяў. Працуе ў Беларускім дзяржаўным інстытуце ўдасканалення ўрачоў і карыстаецца заслужанай павагай. Запрашаецца і прымае ўдзел у буйнейшых міжнародных навуковых канферэнцыях. Быў нават на ІІ-м Сусветным кангрэсе ўрачоў-псіхіятраў у Гамбургу.

Цёпла, па-таварыску развітваюся я з Сяргеем, вялікім аматарам беларускай паэзіі. І таму не здзіўляюся, калі ён з нейкай цнатлівай сарамлівасцю просіць на развітанне:

— Пазнаёмце мяне з Мікалаем Міхайлавічам Мятліцкім...

Я — абяцаю. Тым больш, што зрабіць гэта не складана: жывём у адным з ім доме. І ўжо ў аўтобусе думаю, разважаю пра кожнага з маіх герояў і знаходжу паміж імі нейкае падабенства. У чым яно? Лёсы ж розныя... А пэўна падабенства ўсё ж ёсць. Мабыць, яно — і тут я ніколькі не сумняваюся — найперш у вялікай і шчырай любві да чалавека і Бацькаўшчыны.

**Яўген КАРШУКОЎ**

**Пятро КОШАЛЬ доўгі час ужо жыве ў Маскве. Для яго, безумоўна, бліжэй тыя працэсы, якія адбываюцца ў пісьменніцкіх арганізацыях Расіі, дакладней, ён іх бачыць знутры. Але паэт, перакладчык твораў многіх беларускіх пісьменнікаў, не аддзяляе сябе і ад нашага творчага саюза. Больш таго, не так даўно ён падаў заяву на ўступленне ў саюз беларускіх пісьменнікаў і аднагалосна на адной з рад быў прыняты ў шэрагі беларускай пісьменніцкай арганізацыі. Таму яго развагі пра тое, што адбываецца ў жыцці творцаў Расіі, прасякнуты клопатам і пра лёс нашага пісьменніцкага саюза. Думаецца, яны будуць асабліва карысныя напярэдадні XIII з'езда пісьменнікаў.**

На Беларусі яшчэ захавалася нейкая павага да пісьменнікаў. Вядома, гэта ўжо не месія, не настаўнік жыцця, не "інжынер чалавечых душаў", але ўсё ж...

На Захадзе пісьменнік даўно ўжо стаіць у шэрагу звычайных прафесій. Медсястра, сантэхнік, пісьменнік, бухгалтар... І ў гэтым шэрагу ён, на жаль, не самы першы ў грамадскай значнасці. Пісьменніцкай працай ён, вядома, пражыць не можа, вымушаны недзе служыць.

тэрміноўа ўсялілі ў гэты будынак праваахоўную грамадскую арганізацыю на чале з былым дысідэнтам Сяргеем Грыгар'янцам.

Такім чынам, у доме знаходзіліся два калектывы, якія злосна пазіралі адзін на аднаго. Абразалі тэлефонныя драты, прыцiскалі ў кутках нетаварыскіх журналістаў, якія забылі паглядзець на варагуючую інтэлігенцыю.

Усе да нечага рыхтаваліся, як у Вароганізацыю. Не заўсёды гэта графаман. Калі я працаваў у прыватным выдавецтве, прыйшоў пажылы чалавек, франтавік, прынёс кнігу выдатных ваенных апавяданняў. Прыкладна, у духу Канстанціна Вараб'ёва. Кнігу пагадзілася аплаціць маскоўская тэлефонная сетка — даволі багатае акцыянернае таварыства. Праўда, між тым высветлілася, што зяць аўтара — намеснік генеральнага дырэктара.

Не ва ўсіх, вядома, ёсць такія зяці. Напрыклад, вядомаму рускаму паэту Юрыю Кузняцову адміністрацыя яго роднага Краснадарскага краю аплаціла ўсяго два аркушы вершаў. Ды хоць і гэта — адзіны зборнік за восем гадоў.

За выключэннем выдавецтва "Просвещение", усе астатнія да дзяржавы не маюць ніякага дачынення. Яны або акцыянерныя, або прыватныя, што ў Маскве адно і тое ж. "Просвещение" выпускае школьныя падручнікі і, значыць, аплачваецца дзяржа

# Пятро КОШАЛЬ: "Саюз пісьменнікаў— гэта і мы таксама"



Так склалася, што я, беларус па нараджэнні, даўно жыву ў Маскве. І беларускія пісьменнікі часта ў мяне пытаюцца: а што ж робіцца там, у пісьменніцкім свеце сталіцы?

У двух словах на гэта адказаць немагчыма. Трэба, відаць, пачаць з гісторыі, куды падзеўся Саюз пісьменнікаў СССР.

Калі ГКЧП у жніўні 1991 г. праваліўся, у Саюз пісьменнікаў наскочыў атрад пісьменнікаў-дэмакратаў на чале з Еўтушэнкам, Чарнічэнкам і Савельевым. Аргсакратар СП Колаў, пастаўлены ЦК КПСС, уцёк, кінуўшы ў паніцы пячатку і ўсе дакументы.

Еўтушэнка з сябрамі аб'явіў сябе сакратаром новага Саюза пісьменнікаў. Пачалі выбіраць старшыню. Еўтушэнка адмовіўся, ён быў на той час дэпутатам, і ў асноўным жадаў вылучацца на палітычнай арэне.

У Маскве ў гэты час знаходзіўся ўзбек Цімур Пулатаў, лепшы сябар маскоўскіх дэмакратычных пісьменнікаў. Яго і выбралі. Нацыянальны кадр, не масквіч, вядомы пісьменнік.

Калі праз чатыры месяцы разваліўся Савецкі Саюз, у вялізным будынку СП на вул. Вароўскага (цяпер Паварская) пачаліся бітвы. "Дэмакраты" і "патрыёты" (назавём іх так умоўна) ішлі адзін на аднаго з кулакамі. Рэч у тым, што ўжо існаваў Саюз пісьменнікаў РСФСР на чале з Ю. Бондаравым, А. Ларыёнавым, Лыкошыным, Бандарэнкам і інш. Калі Расія стала самастойнай дзяржавай і ўся нерухомасць былога СССР перайшла ў яе ўласнасць, Саюз пісьменнікаў Расіі лагічна, з яго пункту гледжання, разважыў, што цяпер будынак на вул. Вароўскага яго. Дэмакраты гэтак, вядома, не лічылі. У калідорах завязаліся бойкі.

У адзін з такіх цудоўных дзён Пулатаў пад шумок паклаў у кішэню пячатку, ключы ад сейфаў, сабраў патрэбныя дакументы і знік. З'явіўся ён праз некалькі дзён, ужо зарэгістраваўшы былы СП СССР як Міжнародную садружнасць пісьменнікаў і сябе, як яго галаву. Пры тагачаснай мітусні можна было зарэгістраваць хоць чорта лысага. Дэмакратам і патрыётам заставалася толькі развесці рукамі.

Неаднаразова потым Пулатаў і нанятая ім ахова адбівалі напады розных груп, і не толькі пісьменніцкіх. Нанятыя ім адвакаты прайшлі праз дзесяткі судоў.

На той жа вуліцы Вароўскага стаяла выдавецтва "Советский писатель" — агромністы гмах на чатыры паверхі з масай пакояў, з тэлефонамі, бібліятэкай, сталоўкай і інш. Пулатаў, сабраўшы "сакратарыят", прызначыў дырэктарам "Советского писателя" свайго прыяцеля Арсенія Ларыёнава, які кіруціўся некалі пры камсамоле, а потым — у журналістыцы. Але тут ужо дэмакраты вырашылі ўзяць рэванш. Яны

нінай слабодцы ў Ільфа і Пятрова. І сапраўды, у класічны час нападу, у 4 раніцы, група баркашоўцаў, нанятая Ларыёнавым, уварвалася ў будынак, выкінуўшы "дэмакратычнага" ахоўніка, і заняла ўсе пакоі, сцягнуўшы "дэмакратычныя" факсы, камп'ютэры і дакументы ў падвал.

Можна было радавацца. Але праз два тыдні, калі пільнасць "патрыётаў" прытупілася, у тыя ж 4 раніцы ў будынак уварваўся наняты Грыгар'янцам атрад "бейтараўцаў". Дзяжурныя баркашоўцы падалі пад ударамі прутоў. Кроў лілася ракой. Хутка прыімчаў нарад міліцыі і схапіўся за галаву. Такога і ў бандыцкіх разборках не бачылі.

Ларыёнаў наняў шматлікую ахову, якая дзяжурыла днём і ноччу. "Дэмакраты" завалілі суды заявамі, патрабуючы прызнаць яго дырэктарства незаконным. І пайшло: суд на суд, ды перасуд, апеляцыя на апеляцыю і г. д. Забаўны малюнак — лаянка інтэлігенцыі: у судзе з аднаго боку Бакланаў, Акуджава, Іскандэр; з другога — Сяргей Міхалкоў, М. Аляксееў, Ю. Бондараў. Але цікавей за ўсё, што і з таго, і з другога боку па беларусу: Алесь Адамовіч і Алесь Кажадуб. На адным з такіх судоў Адамовіча і хапіў інфаркт.

Выдавецтва "Советский писатель" існуе і цяпер. Кіруе ім той жа Ларыёнаў. Здадзена ў арэнду ўсё; там цяпер і прыватны банк, і турагенцтва і т. д. і г. д. Маскоўскія пісьменнікі, праходзячы міма, толькі клацаюць зубамі — "дзе грошы, Зін?"

Выдавецтвам гэты дом называецца таму, што для сродкаў інфармацыі існуюць розныя льготы па аплаце зямлі, камунікацый. Каб пацвердзіць, што гэта выдавецтва, "Советский писатель" для адмазкі выпусціць кнігі тры на год — за кошт аўтара. Нядаўна мне на вочы трапіўся тоўсты двухтомнік гэтага "выдавецтва". Разгарнуў. З фота глянула сытая самазадаволеная пыса. Пачаў чытаць. Можа, і магчыма напісаць больш бездапаможна, ды наўрад ці. Выявілася, што аўтар — ці то дырэктар спіртавога завода, ці то нафтаперагоннага.

Хаця, чаго тут здзіўляцца? Некалі шырока вядомае выдавецтва "Художественная литература", якое выпускала толькі зборы твораў і выбраныя тамы, выдала ў свет том І. Рэзніка, аўтара песенных тэкстаў. Плаці — і можаш выдаваць што заўгодна. Хоць не думаю, што Рэзнік прынёс ім столькі, колькі дае размешчаная там казіно.

Маскоўскія пісьменнікі пра ўсё гэта ведаюць. І цяпер, калі ў выдавецтва прыходзіць хтосьці з рукапісам у руках, то дзевяць з дзесяці, што гэта вар'ят.

Але хацелася б сказаць і пра аднаго з дзесяці. Гэта чалавек, які знайшоў спонсара на сваю кнігу — як правіла, нейкую арвай. Міма такога смачнага кавалка прайсці не маглі. Многія прыватныя выдавецтвы паспрабавалі перахапіць хоць частку дзяржзаказу. Усіх апярэдзіла выдавецтва "Дрофа". Яно цяпер выпускае падручнікаў больш, чым "Просвещение". У магазіне падручнік фізікі, напрыклад, каштуе 2 долары. Прыкіньце тыраж, і зразумееце, якія гэта грошы. Менш удалыя канкурэнты спрабавалі схіліць дырэктара дэпартамента Кезіну, якая размяркоўвае дзяржзаказ, на свой бок. Не атрымалася. "Дрофа" нечым была ёй больш мілай. У Кезіну стралялі; яна засталася жывая, але страціла вока. Цяпер ходзіць у чорных акулярах.

Былі застрэлены два камерцыйныя дырэктары "Дрофы".

Увогуле, у пачатку 90-х прыватных выдавецтваў расплодзілася шмат. Цяпер, вядома ж, не так. Ёсць 5 выдавецтваў-монстраў і з дзесятак маленькіх. Маленькія жывуць за кошт аплочаных кніг. У адным з такіх маскоўскіх маленькіх выдавецтваў выходзіць, дарэчы, сёлета вялікая кніга маёй жонкі "Манастыры Беларусі". Аплаціў Расійскі дзяржаўны гуманітарны фонд.

У вялікіх выдавецтвах сядзяць гаспадары — уладальнікі, яны вырашаюць, якая кніга больш прынясе ім прыбытку. Там вялікае значэнне мае маркетынг, аддзел рэалізацыі.

Выдаецца цяпер больш за ўсё практычна-бытавая літаратура: самалячэнне, дачны ўчастак, кулінарыя, розныя даведнікі. Добра ідзе айчынны дэтэктыў. Замежны не ідзе зусім. Выдавецтвы-монстры раскручваюць сваіх дэтэктыўшчыкаў, робячы ім рэкламу, усялякія паблісіці. Так раскручвалі Марыніну, Нязнанскага і іншых. Плён відавочны. Кожная другая жанчына ў маскоўскім метро з кішэнным томікам Марынінай. І не бяды, што за яе і таго ж Нязнанскага пішуць ужо некалькі брыгад.

Ёсць у Маскве і выдавецтва, так бы мовіць, элітнае. Там выпускаюць кнігі Аксёнава, Петрушэўскай, Садур, Бродскага... Гэта "Вагрыус". Трымае яго ў якасці хобі вядомы ў Маскве тэлемагнат, сябар Чубайса, Лісоўскі.

Даўно ўжо няма выдавецтва "Молодая гвардия". Праўда, будынак стаіць. Што з ім адбывалася — няма патрэбы апісваць. Чытай вышэй — усё тое ж самае.

Але ў гэтым будынку месцілася рэдакцыя серыі "Жизнь замечательных людей" — ЖЗЛ. І пасля сямігадовага маўчання раптам пайшлі кнігі — "Николай II", "Марина Цветаева"... Чытач, помнячы марку ЖЗЛ, кнігі гэтыя бярэ з задавальненнем.

Я ўжо прыгадваў пра Саюз пісьменнікаў Расіі (у Мінску яго называюць ганічаўскім). Пасля развалу СССР яго ўзначальваў Бондараў. Але агрэсіўная моладзь яго скінула, выбраўшы старшынёй шматгадовага функцыянера Ганічава. Сакратарамі пры ім Лыкошын, Баранава-Гончанка, Ляпін. Увесь асабняк здадзены: банк, курсы гербалайфа, ювелірны магазін, рэстаран. "Дзе грошы, Зін?" Любімай работай сакратароў з'яўляецца выбіванне з розных губернскіх адміністрацый грошай пад што заўгодна: юбілей Фета, дзень сталінградскай бітвы, семінар праваслаўных пісьменнікаў...

Ёсць яшчэ ў Маскве дзве гарадскія пісьменніцкія арганізацыі, у асноўным па нацыянальнай прыкмеце. Адну ўзначальвае Уладзімір Гусеў, другую — Рыма Казакова. Адзінае, што ад іх можна ўрваць — гэта стыпендыю з невялікіх, адпушчаных урадам грошай. Стыпендыя даецца на год, увогуле прыкладна дваццаці маскоўскім пісьменнікам. Гэта 30 долараў у месяц на кожнага на працягу года.

Ёсць яшчэ Саюз расійскіх пісьменнікаў (Чарнічэнка, Шклярэўскі) — але яны, бедалагі, без нерухомасці, а значыць без грошай. Просяць іх у асноўным у Захада або ў Беразоўскага. Беразоўскі часам дае (хоць бы ў выглядзе прэмій "Трыумф", "Букер"), Захад — у выглядзе Пушкінскай прэміі.

Ёсць яшчэ нейкія "незалежныя пісьменнікі", Саюз пісьменнікаў марыністаў-баталістаў і інш. Цяпер гэта проста: сабраліся двое, пайшлі ў Мінюст, зарэгістраваліся, вось табе і Саюз пісьменнікаў.

Цяпер пра літфонды. Іх у Расіі два. Міжнародны літфонд і Расійскі літфонд. Паміж сабой яны ў контрах, увесь час судзяцца.

Дом творчасці запоўнены толькі летам. Там любяць адпачываць багатыя адвакаты, акцёры, што дабіваюцца вялікіх поспехаў, бізнесмены з іншых рэспублік. У астатні час — пуста. Для пісьменнікаў жыць там дорага. Ільготная пуцёўка ў старым корпусе — 4 долары за дзень, у новым корпусе — 9 долараў. Летам цана ўздымаецца ўтрая.

Пісьменніцкую паліклініку, што належала Літфонду, ужо не ведаю, якім чынам, прыватызаваў нейкі грамадзянін Ізраіля Хейфіц. Цяпер пісьменнікі павінны плаціць. З выклікам урача на дом — 250 долараў у год, без выкліку — 150. Пісьменнікаў там цяпер і не бачна.

Расійскі літфонд валодае домам творчасці Малееўка і былым домам творчасці Галіцына. Цэны, на жаль, такія ж, як у Перадзелкіне.

Нягледзячы на ўсе гэтыя жарсці, многія яшчэ пішуць. Нават з'явіўся тэрмін: пішучы пісьменнік, непішучы пісьменнік. У малой зале ЦДЛ пастаянна праводзяць творчыя вечары. Цяпер гэта проста: прыходзь да адміністратара, плаці грошы, атрымлівай прызначаны дзень і склікай сяброў на творчы вечар.

Адны з маіх знаёмых пісьменнікаў прадаюць газеты, другія — ходзяць у вартаўніках, трэція спрабуюць гандляваць, чацвёртыя спяваюцца... Але многія пішуць. Асабліва тыя, хто на пенсіі. Аркадзь Савелічаў, напрыклад, год піша раман, потым носіць яго па выдавецтвах, потым кладзе ў стол, "да лепшых часоў" і пачынае пісаць новы. Гэтых раманаў у яго ў сталі ўжо штук восем.

І ён не адзінокі.

Што да часопісаў — шчаслівыя тыя, на каго ўпаў прыхільны пагляд Аўтаваза або Газпрама. Але гэта бывае рэдка.

"Литературная газета" цяпер належыць Маскоўскаму нацыянальнаму банку (г. зн. практычна — Лужкову). Новыя гаспадары папрасілі літаратуру пацясніцца. У "Литгазеты" цяпер іншыя задачы.

Выходзіць "Литературная Россия" за кошт паўночных — чукоцкіх, якуцкіх, краснаярскіх — адміністрацый. Ну і тэкст адпаведны: жывапісныя біяграфіі нейкіх раённых начальнікаў, шмат паўночнай этнаграфіі.

Беларускія пісьменнікі пытаюцца: а як наш Саюз пісьменнікаў, Літфонд? Спытаемся самі ў сябе.

Мэта Саюза пісьменнікаў — берагчы і развіваць беларускую літаратуру. Ці спраўляецца ён з гэтай задачай — адкажа з'езд. Памятайце толькі, што Саюз пісьменнікаў Беларусі — гэта і вы таксама. Гэта не нейкі абстрактны маналіт, гэта Іпатава і Глушакоў, Купрэеў і Гілевіч, Гніламёдаў і Сыс...

І кожны гэтую самую змардаваную беларускую літаратуру любіць.

*а там каля вакна*
*Малінаўка пяе і стукае жаўна...*

 **ЧАСАПІС**

## "Меч князя Вячкі"

**Гэты раман Леаніда Дайнекі, які перавыдала "Юнацтва", добра вядомы шматлікім чытачам, але, як заўсёды бывае ў тых выпадках, калі нейкая мастацкая рэч**





**асабліва зацікавіць і ўсхвалюе, да яе хочацца звяртацца зноў і зноў. "Меч князя Вячкі" — менавіта з падобных твораў. Л. Дайнека змог так глыбока зазірнуць у падзеі, што адбываліся ў XIII стагоддзі і гэтак праўдзіва адлюстраваць іх, што, знаёмячыся з лёсамі герояў, ловіш сябе на думцы, нібыта сам прысутнічаеш сярод іх.**

**Пісьменнік аднолькава плённа выкарыстоўвае два падыходы, без якіх не абысціся ў гістарычна-мастацкім творы. Найперш ён ашчадна ставіцца да фактычнага матэрыялу, якога не шмат, але які нават па крупінках дазваляе многае ўзнавіць. А па-другое, Л. Дайнека дае вялікую волю творчай фантазіі, бо перакананы, што тое, пра што не захавалася звестак, шмат у чым можна ўзнавіць, калі інтуітыўна прадчуваць разгортванне тых ці іншых сітуацый. Таму ў рамане аднолькава пераканаўчымі атрымаліся як канкрэтныя гістарычныя асобы (у першую чаргу галоўны герой князь Вячка), так і літаратурныя персанажы. І гэта нягледзячы на тое, што "цяжка плысці па рацэ, імя якой Гісторыя. Асабліва цяжка дабірацца да вытокаў, да тых мясцін, дзе ракі, па сутнасці, няма, ёсць тоненькія ручайкі, вадзяныя ніткі, з якіх праз колькі дзесяткаў кіламетраў спляцецца, сатчэцца абрус ракі".**

**Упэўнены Л. Дайнека і ў іншым: "Без легенд гісторыя губляе сваю прывабнасць, таямнічасць. Гэта — як неба без зорак". Дарэчы, звароты да чытача — "Слова на дарогу" і "Слова на развітанне" — даюць магчымасць лепш адчуць значнасць таго, пра што хацеў расказаць пісьменнік у гэтым рамане, даведацца аб яго поглядзе на гісторыю ўвогуле і на той час, што адлюстраваны ў "Мячы князя Вячкі". А гэта быў час міжусобіц, а таксама барацьбы з тэўтонцамі. У цэнтры ўвагі князь Вячка, які стаяў на чале Кукейноскага княства. Вячка з тых, каго нельга не згадваць добрым словам: "...ёсць на свеце людзі — і такіх нямала! — якім даражэй за жыццё, даражэй за ўсе зямныя багацці вернасць бацькоўскаму краю..." Раман пастаянна трымае ў напружанні. І гэта нягледзячы на тое, што ў ім нямала лірычных адступленняў, падаюцца разгорнутыя пейзажныя замалёўкі. Але ўсё гэта ўдала працуе на галоўную задуму. Аднолькава ўражваюць эпізоды, дзякуючы якім даведваешся, як мужна і самааддана ваявалі нашы нашчадкі, так і тыя, што, як быццам, і не першаступенныя, але яны падводзяць да галоўнага. А яшчэ, нельга не адчуць, што твор напісаны паэтам, таму ў ім такія яркія, запамінальныя старонкі, якія выклікаюць у душы адпаведны настрой, пачынаючы з першай старонкі:**

**"Рака трывожна шумела ў начным змроку. Пахла гнілымі водарасцямі, рыбай, паляным драўляным вугалем, які штогод выкідвалі ў Дзвіну з дружыннай кузні, што стаяла на самым беразе.**

**Чалавек нячутна, як прывід, вынырнуў з вады. Трымаючыся левай рукой за бервяно (гэта быў разбураны вільгаццю і часам ствол калісьці магутнай ліпы), ён плыў, шырока і моцна падграбаючы правай рукою. За спінаю ў чалавека быў прывязаны шчыт і кароткае кап'ё-суліца. Чалавека вельмі непакоіў месяц, які вось-вось павінен быў выкаціцца з-за хмар на сінюю прагаліну начнога неба. Чалавек хацеў быць нябачным для ўсіх, акрамя Бога".**

**Прырода ў рамане — таксама свайго роду герой. Арганічна ўваходзяць у яго і вобразы-сімвалы ваўкалака, Жэрнасадзіка... А разам узятае ўсё, сведчыць на карысць таго, што першы гістарычны раман Л. Дайнекі (былі і "След ваўкалака", "Жалезныя жалуды") ўдаўся. Цяпер жа, перачытваючы яго, атрымліваеш асалоду і ад таго, што "Юнацтва" падрыхтавала падарункавае выданне. З густам афармленае (мастак Уладзімір Лукашык), выпушчанае на высокім паліграфічным узроўні.**

**Міхась ГЕНЬКА**



# "Веру ў Народ Беларускі..."

### ДА 115-годдзя З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ Змітрака БЯДУЛІ

УВАЖЛІВАЕ назіранне за творчай эвалюцыяй Змітрака Бядулі дазваляе заўважыць, што 1912—1916 гады былі часам выпрацоўкі яго светапоглядных прынцыпаў і мастацка-эстэтычнай праграмы. Важнейшае звяно ў ёй — хрысціянская маральнасць творцы, яго ахвярнае слугаванне людзям. Мы пераконваемся, што З. Бядулю ўдалося выпрацаваць сваю канцэпцыю хараства, уласную мастакоўскую пазіцыю яго сцвярджэння і ўслаўлення. Яго пошукі "чыстай красы", матывы хрысціянскай месіянасці мастака адпавядалі шуканням тагачаснай беларускай літаратуры ("Нашаніўская" дыскусія 1913 года). Аб пісьменніцкіх пошуках і эстэтычных адкрыццях Бядулі сведчаць вершы, проза, публіцыстычныя артыкулы гэтага часу. Паэт-прарок Бядулі выклікае на сябе народныя пакуты, як гэта рабіў Хрыстос.

Тагачасны афіцыёзны перыядычны друк (газета "Северо-Западная жизнь" і нек. інш.) друкавалі тэндэнцыйныя матэрыялы, у якіх зневажалася і высмейвалася сама ідэя беларускага гістарычна-культурнага і нацыянальнага Адраджэння і дзейнасць беларускай патрыятычнай інтэлігенцыі. Такія выпады "Наша Ніва" (1913, 1 сакавіка) назвала "крыжовым паходам" цемрашальскіх сіл на беларускую мову і літаратуру. Артыкул З. Бядулі "Не адным хлебам" стаў нагодай да пачатку на старонках "Нашай Нівы" дыскусіі аб шляхах развіцця, ідэйна-эстэтычных і нацыянальна-культурных каштоўнасцях маладой беларускай літаратуры. З. Бядуля прынцыпова настойваў на далейшым творчым развіцці ўласна беларускай духоўнай спадчыны. Ён спрабуе абгрунтаваць сваё разуменне хараства, праводзіць ідэю гуманістычнага сэнсу мастацтва, у тым ліку і творчасці пісьменніка-патрыёта. У дыскусіі прынялі ўдзел В. Ластоўскі (Юрка Верашчака, артыкул "Сплачвайце доўг!.."), Я. Колас (алегарычнае апавяданне "Кажух старога Анісіма"), Я. Купала ("адзін з "парнасікаў", артыкул "Чаму плача песня наша?"). Па вялікім рахунку, дыспутанты дапаўнялі адзін аднаго і, па сутнасці, акрэслівалі важнейшыя перспектыўныя накірункі станаўлення беларускай літаратуры. Тагачасная маладая беларуская літаратура не магла абыходзіць тэмы горкага жыцця і лёсу краю і народа, беларускага сялянства. Але, разам з тым, гэта літаратура рабіла паспяховыя спробы выхаду "на мерку еўрапейскую" (В. Ластоўскі). Бядуля ў "нашаніўскай" публіцыстыцы настойліва сцвярджаў, што беларуская літаратура, як і беларускі народ, у гэты адраджэнскі час набліжаюцца да сапраўднага самавыяўлення, што беларускае мастацтва дасягне высокай вартасці ацэнкі ў сям'і чалавецтва. Але вяршыні і скарбы трэба шукаць і выпрацоўваць "толькі на беларускім шляху", на шляху "нашага нацыянальнага адраджэння" (артыкул "Купальская ноч", 1913).

З. Бядуля многа і паслядоўна разважае, шукаючы ідэйныя і маральна-эстэтычныя асновы ўсёй тагачаснай беларускай літаратуры і ўласнай творчасці. Кожны беларускі інтэлігент, і найперш пісьменнік, па яго перакананні, павінен стаць прарокам, ахвярнікам, Хрыстом, які і на крыжы верыў у людзей, прымаючы за іх грахі і пакутніцкую смерць, яшчэ больш любіў іх. Адвечныя біблейскія Вера, Справядлівасць, Праўда, Любоў, лічыў ён, павінны кіраваць чалавецтвам. А творца — сын чалавецтва і роду людскога — павінен прыкладаць усе намаганні, каб наблізіць гэты ідэал. Гэта непахіснае перакананне трымае ў жыцці Бядулевага героя-рамантыка (абразок "Христос на кресте". "На берегах Невы", № 5, 1912).

Акрамя публіцыстыкі, асветніцка-патрыятычныя погляды на будучае беларускае грамадскае і літаратурнае жыццё выявіліся ў малой прозе Бядулі гэтага і пазнейшых часоў, якая, на жаль, не знаёмая сучаснаму чытачу і не даследавана літаратуразнаўствам. Па жанравых прыкметах — гэта мастацкая публіцыстыка, філасофскія эсэ, вершаказы, сімволіка-алегарычныя прыпавесці, у якіх Бядуля асэнсоўвае хвалюючыя і надзённыя быційна-філасофскія праблемы беларускага краю і беларусаў. У адной з іх — "Казкі" ("Наша Ніва", № 37, 18 верасня) — Бядуля-рамантык і ідэолаг зноў заклікае набліжаць праз цяжкасці, пакуты і перашкоды ідэальнае грамадства, тварыць гармонію Сілы і Праўды. Змест бядулеўскай прыпавесці быў абумоўлены пратэстам супраць першай сусветнай вайны. Сіла — гэта вайна, разбурэнне, яна даўно стала законам жыцця і топча нагамі слабейшых... У гэтай ненасытнай і бязлітаснай Сілы многа служак і рабоў... А ў чалавецтва ёсць "закляты скарб", нязздзейсненая мара — Праўда, ды людзі стаміліся яе шукаць. Герой Бядулі ўпэўнены, што прыйдзе час, і Сіла з Праўдай "згодзяцца між сабою і будуць служыць чалавеку разам, як два светлыя геніі дабра..."

Гэты твор дасканалы, арыгінальны ў кампазіцыйным плане. Прыпавесць складаецца з пяці перыядаў-строф, якія маюць аднолькавы зачын: "Ёсць казка..." Увесь твор выпраменьвае добрую, светлую энергетыку непахіснай Бядулевай веры ў дабрыню і грамадскую гармонію.

### Казкі

Ёсць казка, якая гаворыць аб ціхай працы аратая на шнуры сваім, аб святочных гульнях з зычнымі песнямі, аб вясёлым горадзе, у якім жыццё шуміць-кіпіць у штодзённай працы, і крок за крокам творыцца, будуецца культура, расце на стараннях ранейшых пакаленняў, як каралавыя паліпы ў моры, дзе мёртвыя служаць падстаўкай жывым... Ладзіцца ўсё гэта ў розных формах, пачынаючы ад каменшчыка на бруку і канчаючы лабараторыяй вучонага, кабінетам філосафа і паэта.

Ёсць казка, якая гаворыць аб грымотах, агні і дыме, што сонца атуляюць, аб жудасных стогнах канаючых... Нішчуцца сялібы, гарады — цэлыя краі. Людзі, разгарачаныя нейкай дзікай воляй, ходзяць цэлымі морамі адважна на смерць. Пах крыві ап'яняе чалавека, вяртае да тога часу, калі ў яго яшчэ не адпалі клыкі звярыныя... У паветры лунаюць крывавыя валькіры — гэтыя злыя духі вайны — і рассейваюць смерць; шакалы і груганы цярэбяць косці ад гнілога мяса, буйны вецер пяском засыпае, і ад усяго гэтага прыбаўляецца толькі некалькі старонак у летапісе людскім...

Ёсць казка аб адной птушцы — Фенікс, якая адвечна жыве, толькі кожныя сто гадоў мяняе сваё пер'е. Гэта птушка ёсць Сіла. Сіла зрабілася законам жыцця; яна, сляпая, раз'юшаная, мяняе свае фарбы. І ў канцы бачым, што ўся культура — ад старасвецкага лука ваякі да навейшага самалёта, кідаючага дынамітныя бомбы, увесь людскі дух — ад першых прысяганняў фальшывых рабоў да шліфаванай кніжнай брахні і маны — служыць Сіле...

А яна ненасытная, як ваўкалак, дзікая, як звер лясны, — робіць руіны ўсюды і топчыць нагамі галовы слабейшых...

Ёсць казка аб заклятым скарбе, які людзі шукаюць і не могуць знайсці, хаця жывуць толькі адной надзеяй — знайсці гэты скарб. Гэта ёсць Праўда. Скуль узялося гэтае слова? Ці яго спарадзіў язык пакутніка ў болю смяротным? Ці гэта далёкая зорка, з катораю людзі загаварыць задумалі? Нашто гэта мёртвае ў дзеях слова ўпісана ў слоўніках усіх чалавечых моваў? Губляецца вера ў Праўду... Думаецца, што гэта жарт пякельнікаў... пацеха лжэпракаў... той жар, што любяць заграбаць чужымі рукамі... Выкрасліць, выкасаваць гэтае слова, каб людзі зусім забыліся аб ім?.. — Не! Усё ж такі ёсць вера ў Праўдзе бо калі аб праўдзе гавораць, то яна патрэбна, а калі патрэбна, то яна жыве, а калі яшчэ цяпер не пануе, то будзе панаваць...

Ёсць казка аб тым, што Сіла і Праўда — гэтыя два волаты-асілкі духу — згодзяцца між сабою і будуць служыць чалавеку разам, як два светлыя геніі дабра, яны будуць хадзіць з паходнямі па бязмерным абшары і пакажуць людзям праўдзівую дарогу жыцця... Што будзе тады?.. — Ой, тут трэба прыдумаць новае слова, якое азначала б пачуццё мацнейшае і праўдзівейшае ад звычайнага шчасця... Трэба прыдумаць... І гэта будзе самая найпрыгажэйшая казка...

•

Сацыяльна-філасофскаму асэнсаванню "трох кітоў", "трох павадыроў" жыцця — зямлі, чалавека і працы — прысвечаны невялікі мастацка-публіцыстычны артыкул "Зямля". Чалавек павінен працаваць на зямлі, а зямля належаць таму, хто на ёй працуе. Гэты актуальны сацыяльна-палітычны тэзіс Бядуля ўкладае ў вусны герояў твора, сівых мудрых хлебаробаў. Аўтар на ўвесь голас абараняе грамадска-сацыяльную значнасць хлебароба-мужыка, чалавека самай патрэбнай, але адвеку самай неаддзячанай чалавецтвам працы. У невялічкім творы пісьменнік стварыў выразныя малюнкі сацыяльных кантрастаў.

У канцы артыкула гучыць маналог самога аўтара, заступніка працаўнікоў беларускай вёскі. Твор заканчваецца лірыка-публіцыстычным зваротам Бядулі да беларускага народа, у якім выказана шчырая вера, што вёска — "карміцелька ўсяго свету" — зойме "першае месца" ў наладжванні новага, здаровага грамадскага жыцця. Магчыма, гэта мара Бядулі-асветніка і ідэолага беларускага адраджэння і збылася б, каб не разбуральныя эксперыменты над Беларуссю і беларускай вёскай наступных дзесяцігоддзяў...

### Зямля

Зямля — рвецца стогн-малітва з хворых грудзей селяніна.



У гэтым слове чуецца сіла, чуецца ўлада, чуецца страшная праўда, што ляжала прыдушаная пад вялікім цяжкім каменем прыгнёту. Тая праўда, што пад зямлёю закапана была, афарбаваная крывёю хлебароба, змочаная яго слязьмі.

Зямля...

Сялянскі сход. Гавораць з пад'ёмам духу. Чуецца ў народных масах, у дзяцей вёскі шмат прыроднага таленту. У думках — талкоўнасць. Хоць часам формы гутаркі вельмі грубыя, але выразныя, ядраныя. Яны нагадваюць біблейны просты, вобразны стыль. Ёсць іскры народнага генія, якія раптам вырваўшыся з цемры, яшчэ болей вабяць сваёй яркасцю.

Думаў я ў гэты час:

О, дзядзькі, колькі спаміж вас магло б быць пры добрых варунках паэтаў, маляроў, вучоных і другіх вялікіх людзей!

Эх, жыццё...

Гавораць аб зямельцы. Памятаю добра словы аднаго сівога дзеда:

"З усіх старон каля маёй хаткі ўбогай стаяць раі панскія, з усіх старон праўдзівыя раі. — Сады цвітуць. Сенажаці пахнуць. Гаі высокія шумяць. Задумаеш выпускаць коніка на пашу, дык проста няма дзе дзецца з ім. Прыходзіцца мне штрафы плаціць за школы. А калі грошы няма, то адрабляй за гэта сваімі мазольнымі рукамі. Цемната наша сялянская ў косці ўелася. Жыву паміж пекных, багатых раёў, але, браточкі, лепей у пекле жыць", — канчае дзед гнеўным голасам.

"Зямля, — кажа другі хлебароб, — стаіць на трох кітах.

— А кіты на чым стаяць?

— Кіты плаваюць у вадзе.

— А вада дзе знаходзіцца?

— Вада — на зямлі.

— А зямля дзе?

— На трох кітах.

— А кіты дзе?

Доўга, — кажа аратар, — я не мог зразумець значэнне гэтай бясконцасці, але потым адзін стары чалавек мне вытлумачыў:

— Тры кіты, — гэта тры павадыры жыцця — зямля, чалавек, праца.

Чалавек павінен працаваць на зямлі, зямля таму, хто на ёй працуе.

Хлебароб агледзеўся, што грашылі шмат перад ім, трымаючы яго ў цемнаце. Ён дакапаўся гэтай праўды і задумаў сам церабіць свой шлях будучыні.

●

Народ Беларускі!

Я веру ў тваю праўду! Я веру ў твае ідэалы!

У новым цяперашнім жыцці першае месца займе вёска. Дзеці лугоў і лясоў пачнуць тварыць новае, здаровае жыццё ўсім!

Дык няхай жыве вёска — карміцелька ўсяго света! Яна перакуе мячы ў сярпы, і жнеі запяюць радасныя песні з вянкамі васількоў на галовах. І весела зажывуць ратаі на роднай зямельцы.

●

Змітрок Бядуля быў настойлівы і паслядоўны ў пошуках шляхоў да наладжвання гарманічных сацыяльна-грамадскіх адносін на Беларусі. Гэта паслядоўнасць доказна выяўляецца ў яго "нашанiўскай" прозе і публіцыстыцы. У "Нашай Ніве" (1913, №41) было змешчана мастацка-публіцыстычнае эсэ "Два словы". Тут аўтар абараняе селяніна, які, нягледзячы на цяжкую працу да крывавых мазалёў, памірае з галаду. Бядуля ставіць вострыя і важныя грамадскія пытанні: да якога часу так будзе? Чаму мужык "анямеў" і здольны толькі на стогн, а не на рашучы сацыяльны пратэст?.. Хто "надзеў" сялянству гэты "наморднік"? Хто вінаваты ў векавой сялянскай цемнаце?..

З. Бядуля не мог у газетным матэрыяле даваць адказы на гэтыя пытанні, але змест твора вымушаў шукаць адказы, абараняць правы народа на годнае жыццё. У падтэксце Бядуля ўказвае на шляхі сацыяльна-духоўнага вызвалення: сялянства павінна духоўна абудзіцца, усвядоміць і адчуць сябе вялікай стваральнай сілай. Хлеб духоўны — прасвятленне духоўнае — зробіць мужыка вольным, барацьбітом, ператворыць яго з жабрака ў змагара не толькі за хлеб надзённы, але і за волю. Гэта — адна з важнейшых ідэй названага твора. Патрабаванне наталіць духоўную прагу сялянства, карміцеля дзяржавы, злачынная палітыка ўладатрымцаў, якія насаджаюць духоўную цемру і адлучаюць народ ад асветы і культуры, — гэтым сэнсам прасякнуты артыкул "Два словы". Бядуля прыкметна працягвае дэмакратычна-асветніцкую традыцыю Багушэвіча, Купалы і Коласа. Вобраз мужыка ў Бядулі, як і ў творчасці Купалы, вырастае і ўзбуйняецца да выражэння грамадскага пратэсту. Матыў бездапаможнасці героя перад крыўдзіцелямі і абставінамі перарастае ў ідэю помсты "злодзеям", што працягваюць абкрадаць вялікага працаўніка і пакутніка — мужыка. Бядуля і тут паслядоўна і бліскуча развівае ідэю заступніцтва свайго вялікага папярэдніка, "мужыцкага адваката" Багушэвіча.

### Два словы

Два словы чую я толькі ад яго: — Я галодзен...

Слабым нясмелым голасам выгаварвае бедны, бяздольны мужык.

Твар яго худы, як шчэпка, і чорны, як галавешка, вусны яго патрэсканы ад пастаяннай смагі... Ён дрыжыць усім целам сваім, трымаючы пад пахай сваю скомканую шапку. Абвешаны ён не то гнілымі анучамі, не то торбамі, і выглядае, як жывая куча шмацця...

— Я галодзен, — шэпча ён. Абліваецца брудным потам; вочы яго мутнеюць, твар робіцца сіне-бледным, галава кружыцца і, дурнавата ўсміхаючыся, парыбіста ўздыхае ён, працягвае рукі для жабрацтва і пачынае ўдушліва кашляць...

— Я галодзен...

Чалавек канае, канчаецца ад голаду ў бязмернай працы.

●

Гэта той самы "сімвалічны мужык", пра каторага шмат гаварылі і гавораць, ідэалізуюць, багатвараць... Той самы, каторы адвечна вісіць на крыжу мук, той самы "корань зямлі", каторы папраўдзе корміць і поіць увесь свет сваёй працай крывавай і потнай... І неяк не хочацца верыць, што ён сам з голаду канчаецца, здаецца, гэта не можа быць, нейкі страшэнны жарт, не хочацца верыць...

Кінуць вокам увакруг — павінна хапіць корму для ўсіх на свеце... ёсць нават лішніцы шмат, праз край пераліваецца ў шчаслівых людзей, у глум ідзе...

З голаду мужыку нельга паміраць тым болей, што ўсё багацце свету не з неба гатовае падае, а дастаецца балючымі мазалямі мужыка. Грэх, каб голад панаваў... А вось, сагнуўшыся ў тры пагібелі, стаіць перад усім светам мужык-хлебароб, галоўны ключар вялікага скарбу зямлі, і енчыць:

— Я галодзен...

●

Але, прыглядзеўшыся добра, то смяяцца не даводзіцца з гэтага страшэннага жарту, бо відаць, што чалавек папраўдзе канчаецца, папраўдзе галадае...

Чаму гэтак, ці не працаваў ён да апошніх сіл?

— Ці не ўставаў ён рана — додніка і не працаваў позна, да першых пеўняў, ці не высмактаў яго здароўе барана і саха?

— Я галодзен...

Болей нічога не можа ён сказаць. Надзелі яму заварожаны, нявідзімы наморднік, і ён анямеў...

Закабалілі яго векавой цемнатой, каторая трымае яго ў сваіх моцных шчэмках і жыць свабодна не дае...

— Я галодзен...

Кажа ён пастаянна і панурымі, жаласлівымі, жабрацкімі робяцца яго вочы, галава хіліцца ўніз, і замест скарынкі хлеба ў запрацаваную руку яго аратаю падаюць адны каменні...

Часамі ён усё ж такі пачынае прачынацца са свайго цёмнага рабства і тады ён гаворыць тыя самыя два словы, але па голасе і постаці нельга яго пазнаць — зусім не той самы мужык. Плечы яго выпрастаюцца, робіцца ён высокім, адважным, вочы сакаліныя маланкі родзяць і голас гучны рэхам аддаецца, кулак яго жалезны цясней сціскаецца і чуецца, што не вечна быць яму цёмным нявольнікам...

Ён пачынае стаяць за сваё, ён пачынае адчуваць сваю крыўду, — ён здагадваецца, што нядоля яго ідзе не ад Бога, а ад сілы нячыстай...

І дух яго пачынае прачынацца і аджывае, быццам тая казачная гідра.

Толькі два словы вырываюцца з яго грудзей:

— Я галодзен...

У гэтай кароткай гутарцы, у шматколерных вібрацыях голасу выліваецца ўся многаслоўная трагедыя бяздольнага мужыка...

— Я не справядліва галодзен, бо змалку працаваў горш скаціны, без адпачынку, усіх хлебам карміў і кармлю. І плод маёй працы, як легкакрылая птушка, вырываецца з маіх рук, і золата, здабытае мною, ручайком ад мяне ўплывае... Я чую вялікую крыўду... адбіраюць у мяне жыццё маё і топчуць нагамі...

Не ведае ён, што рабіць. Не ведае ён, як змагацца са страшэнным злом, і не дзіва, што звяръэ-дзічэе часамі; ён бушуе тады, як ранены тыгр, і разбойнікам пускаецца па свеце...

●

— Я галодзен...

Апрача хлеба, я яшчэ цярплю болей страшны голад духа...

Асвету дайце мне! Выцягвайце мяне з яміны цемры! Тады я сам зразумею, як жыццё сваё папраўіць, як шчасце сваё стварыць, як ярмо зламаць...

Я чую, што канаю... мне гэтак баліць, ажно далей вытрываць не магу... Жалезныя путы да самых касцей уеліся... Свой вялікі доўг, вякамі мне не аплочаны доўг спаганяю ў вас, і на гэты раз не дарую!.."

●

Мы бачым, што Змітрок Бядуля не быў прыхільнікам сацыяльных пераваротаў, ён заклікаў да настойлівай штодзённай культурна-асветнай, маральна-ўсведамляльнай працы, да дбайнага, культурнага і руплівага гаспадарчага жыцця. Але, зразумела, што зусім не кранацца сацыяльна-палітычных праблем ён не мог, бо ў беларускай мастацкай свядомасці і эстэтыцы сацыяльнае было цесна звязана з катэгорыямі этычнага і маральнага (успомнім Ф. Багушэвіча "Ахвяра", "Не цурайся", "Бог не роўна дзеле..."). І творчасць З. Бядулі не была выключэннем, а хутчэй арыгінальным лагічным працягам ідэй пачынальнікаў.

Асэнсаваўшы творчасць З. Бядулі віленскага перыяду, асабліва мастацкую публіцыстыку, эсэістычную і прытчавую прозу, мы, несумненна, маем падставы гаварыць аб цэлай сістэме Бядулевых поглядаў на беларускае Адраджэнне. Яны мелі пераважна асветніцка-маральны і ідэалагічны характар. У творах розных жанраў пісьменнік настойліва гаварыў аб важнасці і неабходнасці самапазнання, а затым самаўсведамлення ўласнай годнасці кожным чалавекам і цэлым народам. Нястомнае змаганне, барацьба за лепшыя, вышэйшыя маральныя якасці ў душы кожнага беларуса прывядзе да вяртання ўсяму народу самапавагі, да шанавання ўласных духоўных каштоўнасцей і павагі да духоўных скарбаў іншых народаў і нацый. У гэта ён верыў непахісна. Дзеля гэтага шчыра руліўся.

**Зоя МЕЛЬНІКАВА,**
**дацэнт кафедры беларускага літаратуразнаўства**
**Брэсцкага дзяржаўнага універсітэта імя А. Пушкіна**

КНІГАРНЯ

# Небылічкі — не толькі для Дамінічкі

Той, хто ўважліва сочыць за творчасцю народнага паэта Беларусі Рыгора Барадуліна, бадай, ведае, што сваю першую кніжку для дзетак "Мех шэрых, мех белых" ён выдаў у 1963 годзе, калі паспеў стаць аўтарам трох "дарослых" кніг: "Маладзік над стэпам" (1959), "Рунець, красаваць, налівацца" (1961) і "Нагбом" (1963). За дзіцячую ж паэзію па-сапраўднаму ўзяўся, калі стаў бацькам. Падрастала дачушка Ілонка, уваходзіла ў загадкавы, невядомы ёй свет жыцця. Штодня паўставалі перад дзяўчынкай усё новыя і новыя пытанні. На іх трэба было даваць адказ. І рабіць гэта зацікаўлена. Бацька і ўзяў на дапамогу паэзію. З ранніх барадулінскіх вершаў для дзяцей найбольш прыцягальныя тыя, дзе ўжо ў загаловак выносіцца пытанне: "Хто там, што там?", "Ці ляцяць вароны ў вырай? " і г. д.

Ілонка падрастала, задаючы новыя пытанні і са шчодрай сявенькі бацькі сыпалася зерне для новых твораў. Неўпрыкмет і дзіцячая літаратура стала для Рыгора Іванавіча — таксама прызваннем. У гэтым лёгка ўпэўніцца, калі пазнаёміцца з яго кнігамі "Красавік", "Экзамен", "Ай, не буду! Не хачу!", "Што было б тады, калі б?", "Ці пазяхае бегемот?", "Індыкала-кудыкала", "Кобра ў торбе" і іншымі. Апошнім жа часам у Р. Барадуліна-дзіцячага пісьменніка з'явілася другое дыханне. Падставай для гэтага стала нараджэнне ўнучкі Дамінічкі. І калі раней Рыгор Іванавіч шмат у чым пісаў з арыенціроўкай на дачушку, дык цяпер дзед Рыгор піша "казкі-пераказкі і небылічкі для Дамінічкі", а менавіта такі падзагаловак мае новая кніга Р. Барадуліна, адрасаваная дзецям дашкольнага і малодшага школьнага ўзросту, — "Як воўк калядаваў", што напрыканцы мінулага года выйшла ў выдавецтве "Юнацтва". А што значыць Дамінічка для Рыгора Іванавіча, добра відаць з гэтага яго "дарослага" верша:

***А цяпер мне і падумаць дзіка,***
***Што цябе калісьці не было.***
***Добры дзень, унучка Дамінічка —***
***Воч маіх апошняе святло.***

Таму і піша Р. Барадулін з такім захапленнем, пяшчотай, замілаваннем творы для Дамінічкі. Таму і імкнецца ў сваіх новых вершах, казках, пацешках быць як мага больш займальным, шчодрым на фантазію, на майстэрства, якім нязменна лучыцца яго-ная творчасць, што з гадамі становіцца яшчэ больш прывабнай, вартай увагі ўдзячнага чытача, у тым ліку і дзетак. А небылічкі — не для адной Дамінічкі, а і для ўсіх дзяўчынак і хлопчыкаў, бацькі, а таксама бабулі і дзядулі якіх разумеюць, што без барадулінскай паэзіі немагчыма выхаваць у дзіцяці сапраўдную любоў да паэтычнага слова, бо яна лучыць дабро, гэтулькі адкрывае незвычайнага ў звычайным — нават здзіўляешся, наколькі бязмежная мастакоўская фантазія паэта, які неабсяжны свет маленства, які спасцігае і адкрывае ён ад твора да твора.

Гэтае барадулінскае ўменне жыць паэзіяй напаўняе ад першай да апошняй старонкі і кнігу "Як воўк калядаваў". Ледзь адкрыеш яе, акунаешся ў свет маленства. Не можаш не захапляцца ўменню паэта ствараць яркія, каларытныя малюнкі, не проста пісаць вершы, і нават не прамаўляць іх, а дыхаць імі. Жыць! Гэта ты, дарослы, знаходзішся нібы ў анямення ад захаплення, што пра, здавалася б, добра вядомае можна пісаць так хораша! А што казаць пра дзетак, якія пазнаёмяцца з вершам "Добры прыклад" — ён кнігу адкрывае?! Сказаць, што яны папросяць прачытаць яго некалькі разоў — толькі наблізіцца да ісціны. Бо, несумненна, з'явіцца нямала пытанняў, каб удакладніць змест таго ці іншага слова. Верш жа і створаны і з падобнай мэтай: даць магчымасць дзеткам зразумець, якімі багатымі магчымасцямі валодае родная мова, наколькі кожнае слова гучыць у ёй свежа, непаўторна, а асобныя маюць і розныя значэнні:

***Ёсць такі садок дзіцячы,***
***Там ніхто***
***Любой парой***
***Не капрызіца,***
***Не плача —***
***Ведае парадак свой.***
***Беленькія трусікі***
***Не губляюць трусікі,***
***Зялёненькія конікі***
***Не праціраюць штонікі,***
***А рыжанькія кошкі***
***Цыруюць панчошкі,***
***Лупаценькія жабкі***
***Не дужа мочаць тапкі.***
***Акуратныя сябры.***
***Добры прыклад***
***З іх бяры!***

У гэтым вершы ўсё да месца. Нічога лішняга ні ў самім змесце, ні падаецца такім чынам, што ў дзетак нязменна з'явіцца пытанне наконт таго, дзе ж знаходзіцца "такі садок дзіцячы". Ні ў завяршэнні верша, дзе дыдактызм апраўданы, але аўтар не злоўжывае ім, задавальняецца толькі простым павучаннем. Робіць гэта ненавязліва, каб дзіця "Не адштурхнулася", не сказала: "Ай! Не буду! Не хачу!" У тым сэнсе, што ад празмернай дыдактыкі ў яго б узнікла жаданне працівіцца таму, што прамаўляецца паэтам, як парада.

Рыгор Барадулін умее быць ненавязлівым. Нават тады, калі назва твора вымагае ад дзіцяці паслушэнства, а адзін з вершаў так і называецца — "Засвой!" І хочаш таго ці не, а засвоіш, бо так цікава гаворыцца пра звычайныя пальцы. У кожнага ж з іх — своя назва, чаму ж у такім разе не засвоіць?! І захочацца дзеткам хутчэй запомніць, што:

***Пяць пальцаў —***
***Моцная радня.***
***І ўсіх трымае***
***Даланя.***

З ярка выяўленымі элементамі дыдактызму падаецца і скорагаворка "Вымаві!" А калі дзядуля Рыгор просіць гэта, чаму б яго і не паслухацца? Дзяўчынка ж Дамінічка, канечне ж, пастаралася гэты твор запомніць. І таму, што яна — гераіня яго. Ды і па іншай прычыне: каму не хочацца паспрабаваць, як літары і словы слухаюцца цябе:

***Вымаві яшчэ лепей:***
***— Шчупаковы шчэлепы***
***Палец коляць***
***Дамініцы***
***А на полі***
***Дым дыміцца.***

Свет дзіцячай паэзіі Р. Барадуліна — гэта і жарт, дасціпная ўсмешка. Але гэта і тая нечаканасць, што нязменна з'яўляецца на мяжы казачнага і сапраўднага. Аўтар кнігі хоць і ставіць сваіх персанажаў у незвычайныя сітуацыі, тое, што адбываецца, часта мае пад сабой рэальную аснову. Іншая справа, што паэт як бы ўзмацняе сітуацыю, як у невялікім вершы "Жмуркі":

***З ліскай Лізкай***
***Куркі***
***Пагулялі ў жмуркі.***
***Як зажмурыліся,***
***Дык***
***З курак рагатаў***
***Індык.***

Яшчэ адна важная адметнасць твораў Р. Барадуліна для дзяцей у тым, што ён у сюжэтную канву асобных сваіх твораў вельмі ўмела ўводзіць элементы фальклору. Гэта найперш тычыцца казак, некалькі з якіх змешчаны і ў гэтай кнізе. Адна з іх — "Чаму ваўкі не чытаюць газет?" Казка, што не выклікае сумнення, менавіта аўтарская, але прысутнічае разам з тым у ёй і знаёмы ход. Гэта калі конь вырашыў правучыць ваўка. Гэтым разам сітуацыя асучаснена. Кабыла, зразумеўшы, што воўк можа яе з'есці, знайшла свой выхад са становішча:

***— З'ясі дык з'ясі.***
***Усё роўна канец ужо***
***Цёпламу лету.***
***Ды перш чым з'есці,***
***Пачытай газету***
***У мяне пад капытом.***

Воўк, які, як вядома, ні ў адной казцы вялікім розумам не вызначаецца, аказаўся цікаўным да газетных навін: "Воўк аж вільнуў Па-сабачы хвастом. Глядзіць, Ашчэрыўшы ляпу. А кабыла Як лясне ў ваўчыную храпу".

Як лёгка здагадацца па назве кнігі, гэты бедалага герой не толькі згаданай казкі. "Як воўк калядаваў" — твор таксама надзіва сучасны і па-барадулінску займальны. А ўвогуле, які твор ні прачытаеш, абавязкова атрымаеш задавальненне. Нават здзіўляешся, наколькі багатая аўтарская фантазія паэта. Кожным разам паэт знаходзіць усё новыя і новыя сітуацыі. І стараецца адштурхоўвацца ад самога жыцця, як у казцы "Улазіны": "Сабака ўлазіны спраўляў І правяраў на слых Свой гаў. І запрасіў У госці ўсіх З хлявоў, З равоў З двароў Сваіх найболей дарагіх Суседзяў і сяброў". А ў тым, што сітуацыя адначасова і казачная, і ў многім звязана з рэальнасцю, — свая прывабнасць. Дзеткі далучаюцца да паўсядзённага жыцця, а казачныя персанажы становяцца для іх яшчэ больш блізкімі і зразумелымі.

Гэтым разам Рыгор Іванавіч на сустрэчу са сваімі маленькімі сябрамі прыйшоў і з творамі, у якіх пераўвасобіў матывы напісанага іншымі аўтарамі, таму ў кніжку арганічна ўвайшлі падборкі "З Костаса Кубілінскаса", "З Ояра Вацыэціса", "З Юрыя Саакяна". А раздзел "Гэты смех з Азербайджана прыбег" атрымаўся такім змястоўным і цікавым, а галоўнае адметным, што пераважае ў ім менавіта барадулінскае майстэрства.

Зайздрошчу хлопчыкам і дзяўчынкам, у якіх знаёмства з кнігай "Як воўк калядаваў" — наперадзе. Зайздрошчу іхнім бацькам, дзядулям і бабулям, якія таксама яшчэ пазнаёмяцца з ёю. Сам жа радуюся, што паспеў ужо па вартасцях ацаніць "казкі-пераказкі і небылічкі для Дамінічкі" і іншых дзетак. Разам з тым крыху і шкадую. А шкадаванне ад таго, што, на жаль, у маім маленстве такіх цікавых кніг не было.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

## Шукаючы сябе ў часе

У Маладзечне, як вядома, пад рэдактарствам Міхася Казлоўскага выходзіць гісторыка-краязнаўчы літаратурна-мастацкі часопіс “Куфэрак Віленшчыны”, што сама па сабе з’ява унікальная. А нядаўна з Маладзечна прыйшла яшчэ адна навіна: “Куфэрак Віленшчыны” вырашыў займець і свой дадатак. Ад задумы і яе ўвасаблення прайшло не так і шмат часу, і з’явілася першая кніжка “Бібліятэчкі часопіса



“Куфэрак Віленшчыны”. Для лімаўцаў гэта тым больш прыемна, што аўтарамі зборніка сталі супрацоўнікі рэдакцыі: першы намеснік галоўнага рэдактара Віктар Шніп і рэдактар аддзела крытыкі і бібліяграфіі Людміла Рублеўская. Абое, як чытач паспеў упэўніцца, у тым ліку і лімаўскі, цікавыя паэты. А для тых, хто гэтага не ведае, адкрыем адзін сакрэт: Л. Рублеўская і В. Шніп — адна сям’я, а да ўсяго, як бачым, паэтычная. А паколькі цяпер паўсюдна эмансіпацыя, дык у гэтай калектыўнай кніжцы першай прадстаўлена Л. Рублеўская (хоць, хто яго ведае, першая, можа, і таму, што аўтары пададзены ў алфавітным парадку). Аднак, як бы там ні было, але Л. Рублеўская выступае яшчэ і як мастак, выканаўшы да кнігі ілюстрацыі. А ў астатнім кожны з аўтараў прыйшоў да чытача, так сказаць, паасобку. Зборнік Л. Рублеўскай называецца “Рыцарскія хронікі”, В. Шніпа — “Воўчы вецер”. Адпаведна і тэматыка ў кожнага свая. Л. Рублеўская, як і ў першай сваёй кнізе “Крокі па старых лесвіцах” (1990), заглыбляецца ў гістарычную праблематыку. Гэта відаць і па самой назве зборніка ды і па вершы “Род”, якім яна адкрываецца:

*Род.*  
*Кроў яго ўбірае, бы рака,*  
*Дабро і зло, і рысы вызначае,*  
*З якімі сын твой будзе ці дачка*  
*Жыць з ганьбаю, са славай*  
*Ці звычайна.*  
*Не выдумка блакітнае крыві,*  
*А ісціна разумнае істоты*  
*Свой ведаць род, і гонар радавы.*  
*І рушнікі захоўваць, і клейноды.*  
*У свеце адасобленых няма.*  
*І ты — камень у бруку ці ў кароне.*  
*Знайдзі свой герб.*  
*І прадзеда імя*  
*Успомні.*

“Рыцарскі турнір”, “Рыцар”, “Два рыцары”, “Радавое гняздо” — гэтыя і іншыя вершы ўспрымаюцца крокам у гісторыю, дзякуючы якому сэрца напаўняецца і настальгічнасцю па незваротнасці таго, што прайшло, але адначасова ў ім з’яўляецца і ўпэўненасць, што яшчэ не ўсё страчана на зямлі. Сярод іншых твораў вылучаюцца “Княгіня” і “Шляхта”, з іх ярка выражанай нацыянальнай падсветкай. Таксама ў меру элегічныя. І гэтаксама — з запрашэннем да роздуму.

Як пазначана ў выхадных звестках, “у кнігу ўвайшлі вершы, якія былі напісаныя ў апошнія гады XX стагоддзя”. У зборніку В. Шніпа “Воўчы вецер” да ўсяго гэтая прывязанасць і тэматычная:

*Мы пражылі дваццатае стагоддзе,*  
*Як дзень адзін, самотны, нібы сон,*  
*І светлы, нібы зорка ў мёртвым лёдзе,*  
*чорны, як на рэштках Храма звон.*

Лірычны герой паэта і шукае свой Храм. Як і ў папярэднім зборніку В. Шніпа, яму даводзіцца прайсці і пад “чырвоным ліхтаром”, расчаравацца ў гарадскім тлуме, але адначасова і зразумець, што ў складанасцях жыцця, а потым у пераадольванні іх і ёсць глыбінны сэнс рэчаіснасці. Як ісціна і тое, што “нічога ў свеце вечнага няма... // І нават Храм не тое што турма // Аднойчы раптам мусіць разваліцца”. Але пошук дарогі да свайго Храма — гэта пошук найперш чалавека ў самім сабе і “воўчы вецер” не перашкода, калі душа зразумее неабходнасць ачышчэння і абнаўлення.

Міхась ГЕНЬКА

ПАЭЗІЯ

Казімір КАМЕЙША



# Белая завіруха

## На парозе веку

*Гаснуць дні апошняга стагоддзя.*  
*Сніцца нават некаму патоп.*  
*На палетку і градзе — бясплоддзе,*  
*Як кіно абрыдлага паўтор.*

*Нам бы з той,*  
*нябеснае, прыслалі*  
*Хоць якога ціхага дажджу.*  
*Мёртвыя ўсе спяць, як вечна спалі,*  
*Дый жывых ніяк не разбуджу.*

*Спяць не ў шапку,*  
*Берагуць кішэню,*  
*Кожны беражон па беражок.*  
*І сірэны нуднай галашэнне*  
*Нашы душы рэжа, як нажом.*

*Нехта копы сніць,*  
*а хтосьці — акопы.*  
*Нехта пальцам натківае нам.*  
*Раскруціла колы так Еўропа,*  
*Каб яе, Амерыку, дагнаць.*

*Цісніце, панове, на педалі,*  
*Каб ляцела кола, аж гуло.*  
*Мы б яе калісьці ўжо дагналі,*  
*Ды ў каровы вымя падвяло.*

*Не пакрыўдзім роднага засеўка,*  
*Бо зямля ні ў нас свая,*  
*адна.*  
*У Еўропу мы акно прасеклі.*  
*Але што пабачылі з акна?!*

*Я заморскіх хітрыкаў не знаўца,*  
*Ды адрозню праўду ад маны.*  
*Нам даляры, як спакой той, сняцца,*  
*А ў кішэні — ДУЛЯры адны.*

*Меў я штосьці,*  
*Нават гонар нейкі,*  
*Маю і саромецца чаго.*  
*Можна ўкленчыць на парозе веку,*  
*Ну а лепш пераступіць яго!*

## Канакрад

*Цемру абхітрыць не ў стане*  
*(А бярог каня),*  
*На замок пудовы стайню*  
*Дзед мой зачыняў.*

*Пушча з хмараю гамоніць,*  
*Спяць гарод і сад.*  
*А не дрэмле занямонец,*  
*З пушчы канакрад.*

*Скралі ноччу ў хутаранца*  
*Звера-скакуна,*  
*Бегаў ён як па маланцы*  
*З грукам перуна.*

*Прададуць яго за злоты*  
*Потым у Міры.*  
*Ты ж пільнуй,*  
*Не спі за плотам,*  
*Чаркі не бяры.*

*Прыйдзе чорны злыдня гэты.*  
*Ды чакаць адкуль?*  
*Ён жа тут пакінуў летам*  
*Правую руку.*

*Ён, як звер, крадзецца пómху,*  
*Па багне,*  
*Ашчаперыўшы за похву*  
*Свой багнет.*

*Асцярожны і цярплівы —*  
*Д’яблу свой, лічы.*  
*Блішчуць вочы-чарнасłівы,*  
*Аж баліць начы.*

*Ён аброць рукой адзінай*  
*Лашчыць ля грудзей.*  
*Шал штурхае пад рабрыну.*  
*Пэўна, быць бядзе.*

*Ноч густая, як аблога —*  
*Чуцен гук любы.*  
*І ў начы тае так многа*  
*Хітрай варажбы.*

*Ціха цень яго з-пад шатаў*  
*Выйдзе і замрэ.*  
*І паветра ваўкавата*  
*Ў грудзі набярэ.*

*Ён сцягу даўно прыкмеціў,*  
*Ён пачуў яе.*  
*Бо ўсе сцежкі ў гэтым свеце*  
*Злодзею свае.*

*“Ну, пайшоў!*  
*Пара, здаецца,*  
*Ночка, памагай!”*  
*Разам з ім сцяга крадзецца,*  
*Собіць і сцяга.*

*Цень прыгнецца і прыўстане,*  
*І бяжыць у змрок.*  
*І калі да грознай стайні*  
*Застанецца крок,*

*Грымнуць з цішыні зляжалай*  
*Стрэл —*  
*адзін, другі,*  
*І два вогненныя джалы*  
*Джыгнуць з-пад страхі.*

*І яшчэ раз трэці грымне,*  
*Аж застогне ноч.*  
*І зямля няўлоўнай грывай*  
*Паплыве з-пад ног.*

*Рэха пушчу разгамоніць,*  
*Што была нямой.*

*Дарагія ў пушчы коні,*  
*Як жыццё само.*

## Страх

*Штодня паўстаеш ты,*  
*як з праху,*  
*Няма табе ўпынку нідзе.*  
*Я ведаю, хто ты,*  
*Ты — страх мой,*  
*Ты ценем за мною ідзеш.*

*Ты сну не даеш майму даху,*  
*Ты градзіны лепіш з дажджу*  
*Хоць я не радзіўся ад страху,*  
*Ды вечна пад страхам хаджу.*

*А доля не райская наша,*  
*Хапае і ліха і страт.*  
*Калі я пяю пра бясстрашша,*  
*Ты іншае цягнеш, мой страх.*

*Ты недзе ў нары заначуеш,*  
*То недзе зап’еш у карчме.*  
*Ты Бога калі і пачуеш,*  
*Баішся размовы з ім мець.*

*Збягаў я ў чужыя імшары,*  
*І ў спратах мяне ты даймаў.*  
*Бо скрозь на зямлі ты ўладарыш,*  
*Цябе толькі ў небе няма.*

*З чаго ты пачаўся?*  
*З дакору?*  
*Ці з пляцу, дзе выбухнуў страйк?*  
*О, як ты ўглядаўся да зораў,*  
*І як ім зайздросціў, мой страх.*

*Ды ў зораў свой зрок*  
*і свой нораў,*  
*Куды табе, браце, да зораў?!*

*А вы, каб свой гонар падвысіць,*  
*Ляцелі да іх і паўзлі.*  
*Ды хто іх хапаў, апякліся,*  
*І рукі й душу апяклі.*

*Дзе ўзлёты,*  
*там ёсць прызямленне,*  
*Даецца не ўсім вышыня.*  
*Ды што вышыня,*  
*мне б з каленяў*  
*Хаця б цябе, страх мой, падняць.*

*Дыміць над маёй сівізною*  
*Вулканная часу гара.*  
*Не ўсё яшчэ страчана мною,*  
*Не страчаны й ты яшчэ, страх.*

## Брама

*Сышліся там гнеў і пакора,*  
*І здрада прыбегла сама.*  
*Там брама стаіць, як падкова,*  
*А шчасця за брамай няма.*

*Не ведаю, сіла якая*  
*Прыспешвае хэнць і хаду,*  
*Чаму ж да той брамы вякамі*  
*Няскончца ідуць і ідуць?*

*Шукаючы рады ці раю,*  
*Ідуць, каму сілы стае.*  
*І сэрца само замірае,*  
*Калі расчыняюць яе.*

*Скрыпяць, ажно плачуць завесы*  
*Настылым жалезам старым.*  
*І коціцца рэха да лесу,*  
*І ў страху цішэюць муры.*

*Заходзьце,*  
*Заходзьце, панове,*  
*Заходзьце вякамі і днесь.*  
*І брамнік у гэтай падкове*  
*Па сэрца жалезны увесь.*

*Там нават і локця не вытнеш,*  
*Хоць часу й прасторы стае.*  
*Свае там і мытня, і мыйня,*  
*Расклад і парадкі свае.*

*Затопчуць, калі пахіснуўся,*  
*Завяжуць, калі развязаў.*  
*Ніводзін адтуль не вярнуўся*  
*І праўды самой не сказаў.*

*Усім там — па норме,*  
*па норцы, —*  
*Відушчым даюць і сляпым.*  
*Там свет ужо іншага творцы,*  
*Там іншая праўда зусім.*

*За светам шукаючы свету,*  
*Падкуты бадзяжнай вярстой,*  
*Таму, што так сумна на г э т ы м*  
*Ты гэтак спяшаешся ў т о й.*

*Ну, што ж ты,*  
*бядак, прыпыніўся?*  
*Чакаеш, а мо падвязуць?*  
*Яшчэ раз зямлі пакланіся*  
*І вытры ў пакоры слязу.*

●

*Давайце яшчэ раз пракруцім*  
*Сцяжыны пушчанскай касету.*  
*Ах, колькі слядоў там знаёмых.*  
*Той, з поскрыпам гумы,*  
*і гэты*  
*З прыкульгам,*  
*і цяжкі бацькаў*  
*Пазнаў я між іншых абцасаў.*  
*Крычу:*  
*— Пачакайце, татусь!*  
*А Час у адказ:*  
*— Няма часу.*

●

*Завіруха,*  
*Завіруха,*  
*Ты забрала мой спакой.*  
*Як жанчына-гаваруха,*  
*Не згаворышся з якой.*

*Завіруха,*  
*Заваруха,*  
*Заварыўся белы вар.*  
*А за ёю — толькі скруха,*  
*Як у смерці белы твар.*

*Завіруха,*  
*Завіруха.*  
*Не відно ні дрэў, ні сцен.*  
*Недзе белая шаптуха*  
*Плёткі пра мяне пляце.*

ПРОЗА

# ДУХ ВОЗЕРА

Юры СТАНКЕВІЧ



З ЦЫКЛА "МІКРАПРОЗА"

***Тэрмін "мікрапроза", або як яшчэ кажуць, "раптоўная проза", ці яшчэ — "short-short" — з'явіўся ў свеце параўнальна нядаўна. Пачынальнікам гэтай плыні стаў выкладчык адной з амерыканскіх навучальных устаноў Джэром Стэрн. Аповеды — невялікага аб'ёму — ад трох-чатырох сказаў да двух-трох старонак машынапіснага тэксту, усяго не больш як 250 слоў — як правіла, могуць несці не толькі прываблівы сюжэт, але і прытчавы змест. Конкурсы "мікрапрозы" праводзяцца зараз ва ўсіх еўрапейскіх краінах, на амерыканскім кантыненце і, вядома, сусветныя.***

**Аўтар**

## Энергія зоркі

Выкладчык Канаш з'явіўся ў нас на курсе нечакана. Гэта быў сярэдняга веку мацак з жывымі вачыма. Казалі, што ён меў шмат прафесій, быў калісьці нават акцёрам. Ён выкладаў палітэканомію. Гэтага прадмета я цураўся і баяўся, што не здам.

Аднойчы мы, чацвёра аднакурснікаў: П., Б., С. і я сядзелі пасля лекцый у сквeрыку і пілі віно. Выкладчык Канаш, які ішоў па алеі, заўважыў нас, пазнаў і спыніўся.

"Што гэта вы п'яце?" — раптам пацікавіўся ён.

Зухаваты С. як мага ветліва прапанаваў:

"А вы прысядзьце, пакаштуйце, калі ласка".

Выкладчык Канаш адпіў віна і ўхваліў.

"Дарэчы, — сказаў С., звяртаючыся да яго, — мы зараз ідзём у інтэрнат, дык, можа, і вы зазірнеце да нас у госці?"

Выкладчык Канаш выпіваў з намі ўвесь вечар, размаўляючы пра нязначныя дробязі. А потым мы вызначылі яго спаць у пустым пакоі, куды часам вадзілі дзевак. У тумбачку мы прадбачліва паклалі яму на раніцу пляшку сухога віна.

"Ну, вы зразумелі, хто гэта?" — спытаў у нас назаўтра С.

"Дзівак, але свой", — зазначыў Б.

"Самотны чалавек", — сказаў П.

"Звычайны алкаголік, — удакладніў С., — але — нікому. Божа ўратуй. Нам здаваць экзамен. Кубатурыце?"

Той экзамен прымалі два выкладчыкі. Мы, цікуючы ў дзверы, разлічвалі так, каб трапіць за стол менавіта да Канаша.

Урэшце, гэта было не так і цяжка.

Я выцягнуў білет, сеў за парту і сустрэўся позіркам з выкладчыкам Канашом.

"Ну, — спытаў ён, — што-небудзь ведаеце? Не маўчыце". Я пачаў нешта пра прыбавачную вартасць.

"Ды лухта гэта, — усміхнуўся выкладчык Канаш. — Няма ніякай прыбавачнай вартасці. Ёсць проста энергія зоркі. Вось і ўсё".

Мы пагаварылі яшчэ і пра футбол. Выкладчык Канаш спытаў:

"Што вам паставіць?"

Нібы ў сне я папрасіў:

"Здавальняюча", калі можна".

Выкладчык Канаш вывеў мне "добра".

За другім сталом у супрацьлеглым кутку залы між тым лютаваў яго калега.

Яшчэ праз месяц выкладчык Канаш знік з факультэта гэтак жа нечакана, як і з'явіўся. Казалі, што яго "залажылі".

Пад восень я сустрэў яго на праспекце. Грыпозны Менск пасыпала халоднай імжой. Я павітаўся. Канаш пазнаў мяне. Віно тады прадавалі з бочак на вуліцы, і мы выпілі па дзве шклянкі. Ён заплаціў. Мы крыху паразмаўлялі аб усім.

"Бывайце, студэнт", — развітаўся ён.

Больш я ніколі яго не бачыў.

Цяпер, праз гады, я неяк падумаў пра выкладчыка Канаша. Наўрад ці ён жывы. Бо нават з нас, маладзейшых, мала хто застаўся. Б. зарэзалі блатнякі. С., як казалі, пачаў "стукаць", і на яго аднойчы наехала машына. П. нядаўна памёр ад сардэчнага прыступу ў сваім гаражы.

Перадусім мы выпадкова сустрэліся з ім і выпівалі. Успомнілі і студэнцкія гады, і выкладчыка Канаша. І П., які любіў пафіласофстваваць, паказаў тады на неба і сказаў, што там мільярды галактык і мільёны квазараў, энергіі аднаго з якіх за якую мільённую долю секунды хапіла б нам на мільярд гадоў. Але Творца, калі ён існуе, не дае нам большага за тое, што ёсць.

І — правільна робіць.

## Далёкае радыё "Люксембург"

Яго прызвалі ў армію, забралі пахапкам, вылавіўшы ў час вандроўкі ў нейкім правінцыйным гарадку, прама з рок-гурта, дзе ён іграў, і спехам скіравалі ў самую суровую і небяспечную на той час Забайкальскую ваенную акругу. Ваенкаматы апантана выконвалі сваё прадвызначэнне, вышукваючы такіх, як ён.

Заканчваліся 60-я. То быў час займення ўсё новых і новых ворагаў. Жаўнерам-першагодкам, ледзь пераапрануўшы іх у шынялі ды кірзавыя боты, так адразу і казалі: рыхтуйцеся да трэцяй сусветнай вайны, бо яна непазбежная. Палітрук, а за ім ротны, узводны і нават старшына, як глушцы, паўтаралі: вайна вось-вось адбудзецца, калі не гэтым днём, дык абавязкова заўтрашнім. Рыхтуйцеся.

Рыхтаванне зводзілася да бязглуздага муштравання. Але ў яго, ледзь не звар'яцелага, раптам з'явілася "адтуліна". У пакоі для так званага культурнага адпачынку стаяла старая паламаная радыёла, у якой працаваў толькі радыёпрыёмнік. І гэта ўвогуле ціхі і рахманы хлопец вечарамі прыпадаў да яго, як да крыніцы ў спёку, хоць на паўгадзіны, хоць на некалькі хвілін, ловячы толькі адну, знаёмую яму музычную хвалю.

"Па прыёмніку трэба слухаць Маскву, а лепш у вольны час чысціць боты, падшываць падкаўнерыкі ды пісаць лісты дадому", — адразу параіў яму ротны.

"А што гэта за станцыю ты ловіш, можа, разумееш па-ангельску?" — цікавіўся падасланы стукач.

"Радыё Люксембург. Яны даюць самы прыкол".

Пераапранутыя пад шараговых асабоўцы некалькі разоў слухалі разам з ім да адбою, а потым адчапіліся. Увогуле яны ўсе адступіліся, калі ўпэўніліся, што "варожыя галасы" яго не цікавяць: ну што возьмеш з "закручанага" меламана, былога музыкі?

Спахапіліся яны зноў толькі за паўгода перад дэмабілізацыяй, пасля здарэння на палітзанятках. Хаця, у рэшце рэшт, ніякага здарэння, можна лічыць, амаль што не было. Жаўнер-меламан няўважліва, як і ўсе, слухаў звыклае балбатанне батальённага палітрука. Той казаў, што вайсковымі і навукоўцамі даказана, што адно пакаленне не можа весці дзве вайны запар, і гэта значыць (далей ішлі вылічэнні), што першая сусветная вайна пачалася ў 1914 годзе, другая — у 1939-м, то і трэцяя пачнецца дзесьці прыблізна праз 30 ці, няхай, нават якіх 50 гадоў. Значыць, яе трэба чакаць штодня, і хаця яна можа пачацца і пазней, нават у дзевяностых, але ў гэтым тысячагоддзі яна адбудзецца абавязкова.

І тут усе пачулі:

"Вайны не будзе".

"Гэта яшчэ чаму? — апамятаўся палітрук, але хутка знайшоў тлумачэнне: "Ага, гэта вы, таварыш салдат, маеце на ўвазе нашы мірныя ініцыятывы? Так?"

"Не, я іх не маю на ўвазе", — сказаў жаўнер.

"А што ж вы маеце?" — ласкава, але насцярожана пацікавіўся палітрук.

"Я маю на ўвазе адхіляючы фактар".

"Гэта яшчэ які?" — па-ранейшаму мякка (ім, пэўна, назаўсёды было забаронена злаваць) спытаў палітрук.

"Збавіцеляў. Праз іх вайны не будзе".

"І хто яны?" — не стрымаў здзіўлення палітрук, хаця нешта ўжо яму падказвала, што трэба хутчэй скончыць гэтую дыскусію.

"Рок-гурт. Музыкі. Ён толькі з'явіўся, — адказаў жаўнер, і твар яго зрабіўся нават пяшчотным. — Яму няма роўных у свеце і, паверце, я ў гэтым нешта разумею".

"Толькі і ўсяго? Нейкія там музыкі?"

"Ніхто з маладых не пойдзе на вайну, пакуль яны не створаць і не праспяваюць усіх сваіх песень".

У той жа вечар радыёлу з пакоя адпачынку знеслі. Жаўнера агледзеў урач і яшчэ паапыталі ў асабовым аддзеле, але так нічога і не высветлілі. Урэшце надышоў так званы "дэмбель": "закручанага" аматара радыё "Люксембург" адправілі дамоў.

Але цяпер, калі тысячагоддзе скончылася, і трэцяй сусветнай вайны ўсё няма, я калі-нікалі таксама цвёрда ўпэўнены — яна не адбылася таму, што быццам з іншага вымярэння з'явіліся яны — чатыры ліверпульскія хлопцы — і заснавалі самы найвялікшы рок-гурт усіх часоў і народаў, і стварылі і спелі свае самыя знакамітыя дваццаць сем песень, дваццаць сем сусветных хітоў, сярод якіх "Жоўтая субмарына", "Дзяўчына", "Учора", "Сунічныя паляны", "Манастырская дарога", "Разам ідзём" і яшчэ многія іншыя.

Так, гэта

"The Beatles"

## Візіт месіі

У лесе Заратустра, як звычайна, сустрэў старца. Магчыма, гэта быў іншы старац, а можа, і той, што сустракаўся яму раней.

"Скажы, — спытаў горац, — ты ідзеш да людзей?"

"Так, я хачу іх пабачыць".

"Не хадзі", — сказаў старац.

"Чаму?" — задаў жаночае пытанне вандроўнік.

"Пагаворым пра гэта тады, калі вернешся", — урэшце знайшоў кампраміс старац.

Праз некалькі дзён Заратустра зноў апынуўся ў лесе. Шлях вёў яго назад, у горы. Старац сядзеў ля вогнішча.

"Я там быў, — сказаў Заратустра. — Я бачыў ангельцаў, немцаў, славян".

"І што? — спытаў старац. — Напрыклад, у славян?"

"Я папрасіў іх: пакажыце мне сваіх герояў. Яны доўга міргалі вачыма, думалі і ўрэшце сказалі: у нас былі дзекабрысты".

"І?"

"Я разумею адно, — заўважыў Заратустра, — гэта калі шаўцы, краўцы і карэтнікі захацелі стаць графамі, віконтамі, князямі ды баронамі. Прыклад таму — французская рэвалюцыя. Але я не разумею, чаму спадчыннікам Рурыкавічаў — князям, графам ды баронам закарцела пераўтварыцца ў шаўцоў, краўцоў і карэтнікаў"

Старац захіхікаў:

"Ты разумееш, што кажаш пра пасмешышча?"

"Так, — зазначыў Заратустра. — Белая раса ўвогуле гіне. У іх няма хаосу, пакутлівая ганьба — вось што такое стаў белы чалавек. Іх маральнасць і законы — ім жа на згубу. Яны здрабнелі і ўсё яшчэ драбнеюць, і прыводзіць іх да гэтага іх вучэнне аб шчасці і дабрачыннасці. У іх гарадах і вёсках усё больш чорных і жоўтых, якія нахабна рабуюць іх, выманьваюць і крадуць грошы, адбіраюць жанчын, гвалцяць дачок, калечаць дзяцей, падсылаюць да іх школ дылераў з гераінам, выкідваюць косці продкаў з іх могілак, і размнажаюцца, як тараканы"

"І што ты параіў ім?" — спытаў старац.

"Ужо вечар, — адказаў Заратустра. — А іх тэлевізары працуюць з раніцы і дапазна".

## Дух возера

Начная электрычка была заўсёды напаўпустая, і яны, як і дамаўляліся, садзіліся на яе ў апошні вагон. Адзін — на адной станцыі, другі — на іншай. Урэшце, іх было трое.

Цягнік неўзабаве вырваўся за горад. Ехаць было з гадзіну, а потым трэба ісці пешшу некалькі кіламетраў — да возера.

Стаяла зіма. Трое мужчын кіравалі на рыбалку. Шлях іх быў правераны — не першы выхадны яны збіраліся разам і праводзілі яго аднолькава: ішлі да лёду, свідравалі праламкі, здаралася, налоўлівалі па некалькі кілаграмаў драбязы, і тым былі задаволены, а ў асобныя моманты нават шчаслівыя.

Начны цыклон прынёс крыху снегу, і яны ішлі адзін за адным са скрынямі за плячыма. Пачынала ўжо світаць.

Неўзабаве ўсе ступілі на запарушаны снегам лёд. Раптам той, хто ішоў наперадзе, спыніўся.

"Сляды, — паказаў ён пад ногі. — Нехта нас апярэдзіў. Сляды свежыя".

Яны на паўхвіліны сцішылі хаду і агледзелі сляды і вакол, але ўсё было надзіва чыстае, белае і маўклівае. Потым прайшлі па следзе яшчэ з паўкіламетра і ўбачылі цёмную пляму.

"Праламка, — сказаў адзін з іх. — Даволі вялікая. Тут ён лавіў?"

Яны падышлі і спыніліся ў роздуме.

"Але ж след тут канчаецца, — урэшце са здзіўленнем сказаў першы. — А назад — няма".

Ён яшчэ не разумеў.

"Ну, — праз паўзу спытаў адзін з трох, — будзем тут сёння лавіць?"

"Не".

"Не".

І трэці таксама падагульніў:

"Не".

Яны перахрысціліся, пастаялі крыху, а потым павярнулі назад, і праз нейкі час электрычка прыняла іх у халоднае, задушлівае, поўнае ўжо людзей чэрава. Усе трое былі з класа "белых каўнерыкаў" і ў дарозе гаварылі пра тое, што кожная субстанцыя мае нейкую вызначаную сутнасць. "Дух возера, напрыклад. Яго нельга лакалізаваць у прасторы, бо сам ён, магчыма, — у іншым вымярэнні, якое складае з гэтым возерам цэлае і праяўляецца праз тое ж возера. І нават тое, што часам успрымаецца як прароцтва — толькі іерогліф сутнасці, зрэз, які праступае ў галіне яе сутыкнення з нашай трохмернай рэальнасцю", — гаварылі яны. — "І заўважана — над кожнай такой рэгіянальнай адзінкай аднолькавая і амаль пастаянная колькасць ахвяр. Нібы нешта гняце і патрабуе час ад часу, каб ноччу чалавек прачнуўся і пайшоў па ранішнім снезе ў свой апошні шлях".

Больш на тое возера яны не ездзілі.

ПОШТА

Алена ГІНЬКО

•

*Ляцець высока —*
*упасці нізка.*
*глядзець далёка —*
*убачыць зблізку.*
*Упасці —*
*і не падняцца,*
*Убачыць —*
*расчаравацца.*
*Што лепей:*
*жаўрук?*
*сініца?*
*Памерці ці нарадзіцца?*

•

*Прыгарні мяне, прыхіні лісцём,*
*вярба ніцая, трапятлівая.*
*Адвядзі нуду, забяры тугу,*
*па рацэ пусці ў плынь вірлівую.*

*Хай адчай-палын больш не будзе мне*
*верадзіць душу горкай памяццю.*
*Хай вятры яго растрасуць ушчэнт,*
*замятуць сляды моцнай замеццю.*

*Крумкачы няхай раздзяруць бяду*
*і не выпусцяць больш на волечку.*
*А я ўгледжуся ў люстра-гладзь вады.*
*Мо убачу там лепшу долечку?..*

•

*Прыгажуняю,*
*чараўніцаю,*
*падарункам чыйгось жытла,*
*яркай зоркаю,*
*мілавіцаю*
*называлі*
*А... ці была?*
*Пекнай ягадкай,*
*гожай краскаю,*
*звонкай песняю ручая,*
*незвычайнай*
*чыёйсьці казкаю*
*называлі*
*Была ж — не я*
*За асокамі,*
*за аблокамі*
*птушка шчасця галёкае?..*
*Мо й галёкае*
*мая птушачка,*
*ды душа — адзінокая.*

•

*Ты забраў-адабраў*
*ручаіны і лівні,*
*васількі і вясёлкі,*
*траўні і жніўні*

*І цяпер не люблю*
*ні світанка, ні вечара,*
*ні іскрынак расы,*
*ні цябе, ні сустрэчы*

### Ты і я

*А ты мяне не зразумеў*
*А я цябе не разгадала*

*Каб змыць з душы кругі тугі,*
*струменных ліўняў будзе мала.*

*Замала будзе гаркаты*
*ад палыновага настою;*
*замала сонца, пекнаты*
*і лістападнага настрою.*

*Замала дзён, вясновых дзён,*
*і ночак летніх, таямнічых,*
*садоў вішнёвых, і агнёў,*
*і безыменных яркіх знічак*

*А ты мяне не разгадаў*
*А я цябе не зразумела*

*Салёна-горкае віно*
*піла адна і не хмялела.*

## Па слядах вандроўніка



Для мастачкі Галіны Горавай персанальная выстава, што адбылася ва ўправе БНФ, не першая. Была выстава і на апошнім курсе навучання ў Беларускай акадэміі мастацтваў, што экспанавалася ў чытальнай зале Шаркаўшчынскай раённай бібліятэкі. Быў удзел у пленэрах "Шляхамі Драздовіча" і адпаведных выставах. А нядаўна Галіну прынялі ў сябры суполкі "Пагоня".

Мроі і фантазіі дзядзькі Язэпа блізкія Галіне. Дзяўчыну натхняюць не столькі ўласна мясціны, дзе блукаў па сцежках



мастак, але асоба Драздовіча, яго фантазіі, балансаванне паміж рэальным і ірэальным, рацыянальным і казачным. Так нарадзіліся яе жывапісныя палотны "Востраў мёртвых", "Зорны вандроўнік", "Смутак чакання" ды іншыя. Зацікавілі творчасцю Драздовіча Г. Гораву яе заўчасна памерлы муж, навукоўца, даследчык творчасці мастака, ураджэнец "драздовічавых" мясцін. Сумныя падзеі здарыліся ў Галіны якраз напярэдадні дыпломных праглядаў. Магчыма, менавіта таму яе дыпломная работа "Вербная нядзеля" напоўнена непрыхаваным жаночым смуткам. Шмат дапамог у той момант ёй Алесь Марачкін, які і зараз цікавіцца творчасцю Галіны.

Апошнім часам Г. Горава зацікавілася жанрам гарадскога пейзажа. Тут яе хвалююць не проста выявы дамоў і вуліц, а чалавек у іх атачэнні, яго жаданне сярод штодзённай мітусні паглыбіцца ў сябе.

Н. Ш.

*На здымках: мастачка Галіна Горава; "Шлях да зор".*

## "Всемирная литература", N 3

Нумар адкрываецца заключным раздзелам з кнігі Т. Бондар "Бог зусім побач". У раздзеле "Славянская садружнасць" прадстаўлена падборка вершаў Л. Галубовіча "Развітальны час" у перакладзе А. Стрыгалёва. Чытач можа пазнаёміцца таксама з вершамі Р.-М. Рыльке, заканчэннем рамана Л. Брыта "Павучэнне Ісаака", пачаткамі раманаў М. Эліядэ "Дзевятнаццаць ружаў" і Я. Ніедра "І вятры гуляюць на папялішчы". Творчасць М. Салтыкова-Шчадрына разглядаецца ў артыкуле М. Герасімовіча "Сцвярджэнне рэалізму". "Голас і слова" — афарызмы Г. Марчука. Прадстаўлены раздзелы "Нітка Арыядны" і "Сярод кніг".

КІНО

# "Тэлефільм" ва ўмовах лесапавалу

Тэлевізійнае кіно на сённяшні дзень з'яўляецца самым запатрабаваным у гледача відам кінапрадукцыі. Тэлевізійны экран ахоплівае вялікую колькасць людзей, і паколькі тэлеканалаў зараз вельмі многа, то прадзюсеры змагаюцца за права паказаць той ці іншы фільм на сваім канале першымі. Таму апошнім часам працэс вытворчасці фільмаў на прасторы былога СССР ажывіўся.

Часта адбываецца так, што не сцэнарый з'яўляецца пачаткам фільма, а падзея — напрыклад, паводка 1999 года на Палессі. Так атрымаўся фільм "Вясна 1999 года". Рэжысёр В. Жыгалка разам са здымачнай групай паехаў, зафіксаваў падзеі, а потым быў створаны фільм. Галоўная рыса дакументальнага тэлевізійнага кіно ў тым, што яно стварае вобраз грамадства і эпохі. Адлюстроўваць і аналізаваць падзеі можа і журналістыка ці публіцыстыка, але тэлевізійнае кіно надае падзеі мастацкія формы.

Галоўным крытэрыем на ТА "Тэлефільм" заўсёды была мастацкая значнасць сцэнарыя ці ідэі будучага фільма. Адбор ці фіксацыя фактаў, гістарычных падзей, паказ людзей, якія надзелены дарам душэўнай шчырасці, стварэнне партрэтаў дзеячаў культуры і мастацтва ўвесь час былі галоўнымі тэмамі фільмаў.

Беларускае тэлебачанне, якім сёння ўсе незадаволены, шукае выйсце з цяжкага становішча. Колішнія рэдакцыі былі рэарганізаваны ў дырэкцыі праграм. Калі раней перадачы вызначаліся па тэматыцы і таму ствараліся ў той ці іншай рэдакцыі, напрыклад, дзіцячай, музычнай, сацыяльнай і г. д., то зараз праграмы вызначаюцца па іх месцы знаходжання ў эфіры. Калі праграма стаіць у сетцы вяшчання — то гэта дырэкцыя мастацкага або спартыўнага вяшчання, там і працуюць тыя людзі, што ствараюць праграму, а такіх праграм сёння вельмі мала, усе астатнія рэдактары, рэжысёры, асістэнты з былых рэдакцый трапілі ў дырэкцыю перспектыўнага вяшчання. Калі будзе стварацца новы праект, і калі ў гэтых людзях будзе патрэба?

Што сталася з ТА "Тэлефільм", які існуе на БТ з 1964 года як асобная творчая структура, і на якім створана амаль 700 фільмаў розных жанраў і тэматык? (Гэтыя фільмы ў сукупнасці складаюць неацэнны фонд экраннай мастацкай культуры беларускага народа). Сёння і ТА "Тэлефільм" трапіла ў дырэкцыю перспектыўнага вяшчання. Чаму? Таму што нашыя фільмы не маюць свайго пастаяннага месца ў сетцы вяшчання (напрыклад, "нядзеля — 15 гадзін"), але, тым не менш, яны кожны тыдзень ідуць і эфіры БТ. А да верасня 2001 года на ТА "Тэлефільм" запланавана стварыць яшчэ 9 карцін.

Але назваць падраздзяленне ТА "Тэлефільмам" сёння можна вельмі ўмоўна, бо такая структура, на жаль, як і іншыя рэдакцыі БТ, ужо скасавана. Калі перад кіраўніцтвам тэлебачання ставілася пытанне наконт таго, каб захаваць марку "ТА "Тэлефільм", бо па ёй нас ведаюць у свеце, то гэта ўспрымалася як непаразуменне: "А навошта? Будзем замест ТА "Тэлефільм" пісаць "Першы нацыянальны канал", хаця, напрыклад, з юрыдычнага боку, мы не маем права так пісаць, гэта назва для ўнутранага карыстання, прыдуманая генеральным прадзюсерам, а афіцыйна мы, як і раней называемся Дзяржаўная Нацыянальная Тэлерадыёкампанія РБ".

Усе новыя фільмы, якія зараз будуць стварацца ў рамках былога ТА "Тэлефільм" разглядаюцца як "новыя праекты". Пад іх стваражоцца творчыя групы на чале з мастацкім кіраўніком, якім можа быць рэдактар, рэжысёр ці дырэктар здымачнай групы, а падпарадкоўваюцца яны аддзелу "новых праектаў", які ўзначальваe былы галоўны рэдактар ТА "Тэлефільм" У. Сцепаненка, які цяпер уваходзіць у структуру генеральнага прадзюсера. Гэта вельмі важна, бо хаця намінальна, але ж дакументальныя фільмы будуць здымацца і далей тымі ж творчымі асобамі, якія шмат гадоў працуюць у беларускім тэлекіно і маюць багаты мастацкі вопыт. Будзем спадзявацца, што такая структура, як "Тэлефільм" выжыве і захаваецца.

Надзею на будучае дае тое, што кіраўніцтва Беларускага тэлебачання, якое апошнім часам вельмі скоса глядзела ў бок "Тэлефільма" і хацела яго зачыніць, бо лічыла, што на яго ідзе вельмі шмат грошай, усё ж гэта не зрабіла. Зразумела, што тое кіно, якое робіцца на "Тэлефільме", — гэта мастацтва, а мастацтва — катэгорыя вечная. Нашыя фільмы, у адрозненне ад перадач, шмат разоў ідуць у эфіры, яны заваёўваюць прызы на міжнародных фестывалях, іх з задавальненнем купляюць іншыя студыі і краіны. Па праве можна сказаць, што гэта марка Беларускага тэлебачання, бо калі трэба аб нечым дастойна расказаць ці паказаць, кіраўніцтва БТ заўсёды звярталася да "Тэлефільма".

На ТА "Тэлефільм" увесь час працавалі лепшыя рэжысёры, аператары, аўтары, рэдактары. З моманту заснавання гэтай структуры, трапіць у яе было даволі складана — бо мастацкая планка тут заўсёды была высокай. Высокай яна засталася і на сённяшні дзень. Руплівая праца з аўтарамі, высокі прафесійны ўзровень здымачных груп прыводзяць да добрых і цікавых фільмаў. Напрыклад, сярод апошніх — "Забароненая зона", "Неман" (В. Жыгалкі), "Мой пачатак", "Несыграная роля" (Н. Гаркуновай), "Вяртанне ў вырай", "Анісімаў" (В. Шышова), "А" (А. Войніча), "Дакрананне да вечнасці" (А Кашэўнікава), "Адзін з многіх" (Т. Вашчанкі), "Край чыстай вады" (Л. Гедравічуса), "Праклятыя ўтульны дом", "Глебаў" (У. Арлоў), "Семнаццаць імгненняў шчасця" (У. Ісата), "Святыні Беларусі" (В. Каралёва), "Вочы вады" (А. Шклярэўскі) і шмат іншых.

Сёння жыццё прымушае рухацца і лічыц-

# Пецярбургскае кіно

16 красавіка ў кінатэатры "Перамога" распачаліся "Дні кіно Санкт-Пецярбурга ў Мінску"(арганізатары — Міністэрства культуры РБ, кінастудыя "Ленфільм", кінатэатр "Перамога"). Кінапраграму склалі стужкі 2000—2001 гадоў. Адкрыў яе новы фільм А. Сакурава "Цялец", прэм'ерны паказ якога прайшоў у нашай сталіцы. Сёння гэтая карціна, што распавядае пра адзін дзень з жыцця Леніна ў Горках, знаходзіцца ў цэнтры ўвагі еўрапейскай кінапублікі — "Цялец" запрошаны ў конкурсную праграму Канскага фестывалю. Новы фільм А. Сакурава працягвае тэму ягонай папярэдняй карціны "Малох" пра адзін дзень з жыцця Гітлера. Па словах рэжысёра, яго цікавіць лёс людзей, ад якіх залежаць іншыя. "Людзі, ад якіх мы залежым, — таксама людзі. Калі б гэта былі пасланцы з Месяца, то нашая залежнасць не была б такой фатальнай, пакутлівай. Яны таксама людзі, а мы адмаўляем ім у чалавечых слабасцях і не разумеем, што ўсё, што з намі адбываецца, ёсць вынік чалавечых памылак гэтых людзей. Узяўшы вядомы персанаж, я наближаю гледача да лёсу звычайнага чалавека. Не бачу, чаму трэба станавіцца на калені перад Леніным, Сталіным, прэзідэнтам..."



Ролю Леніна ў фільме выконвае акцёр Л. Мазгавы (перад кожнай здымкай ён каля пяці гадзін грымiраваўся). Адметнасцю "Цяльца" з'яўляецца яшчэ тое, што А. Сакураў выступіў і ў якасці аператара. Была выкарыстана унікальная здымачная тэхналогія, унікальная оптыка, спосабы здымкі, якіх у свеце няма.

На працягу тыдня мінчукі змаглі паглядзець яшчэ чатыры фільмы (паказ працяг-

ПАМЯЦЬ

# Выдатны даследчык тэатра

Ужо 20 гадоў няма сярод нас абаяльнага, вясёлага чалавека, руплівага даследчыка беларускага тэатра — кандыдата мастацтвазнаўства Сяргея Пятровіча. У красавіку яму споўнілася б 50. Але імя яго не забытае. Студэнты, аспіранты, навукоўцы пастаянна звяртаюцца да яго кніг, брашур, шматлікіх артыкулаў. Асабліва цікавіла Сяргея Астапавіча народнае мастацтва. І гэта невыпадкова. Дзяцінства і юнацтва яго прайшлі ў невялікім тады Капылі, пад Мінскам. Жыццё простых людзей і іх творчыя захапленні былі яму добра знаёмыя. Таленавіты юнак сам стаў актыўным удзельнікам мясцовай мастацкай самадзейнасці. Потым былі гады вучобы ў беларускай сталіцы — у тэатральна-мастацкім інстытуце і праца акцёрам у Рэспубліканскім тэатры юнага гледача, які ў той час узначальвала славуты рэжысёр і тэатральны педагог Любоў Мазалеўская. Там ён моцна — на ўсё жыццё пасябраваў з Паўлам Дубашынскім — пазней слынным купалаўцам, народным артыстам рэспублікі. З Беларускім ТЮГам энергічны, жвавы Сяргей і далікатны, дасціпны Павел двойчы выязджалі на незабыўныя летнія гастролі ў Паўночны Казахстан — да цаліннікаў. Там з энтузіязмам удзельнічалі ў вялікай канцэртнай праграме, нярэдка выступаючы проста ў полі пад адкрытым небам.

Сяброўства і творчыя кантакты з людзьмі мастацтва, а таксама актыўны ўдзел як крытыка і лектара ў культурным жыцці краіны вельмі спрыялі дапытлівай тэатразнаўчай думцы руплівага даследчыка. У 31 год ён абараніў кандыдацкую дысертацыю. Потым былі гады карпатлівай і плённай працы ў Інстытуце мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Акадэміі навук рэспублікі, а ў 70-я гады — на пасадзе намесніка міністра культуры Беларусі. Рана пайшоў ад нас Сяргей Астапавіч. Яго хворае сэрца перастала біцца ў 50 гадоў. Але засталася дастаткова багатая навуковая спадчына — 6 манаграфій, 5 кніг у сааўтарстве, сотні артыкулаў, а таксама шэраг літаратурных твораў — апавяданні, інсцэніроўкі, сцэнарыі.

Дысертацыя і дзве манаграфіі С. Пятровіча былі прысвечаны даследаванню творчасці таленавітага драматурга, рэжысёра і выхавацеля многіх нацыянальных артыстаў старэйшага пакалення — Еўсігнея Міровіча, імя якога было цесна звязана з першымі гадамі дзейнасці БДТ-1 (тэатра імя Я. Купалы), з развіццём беларускай тэатральнай педагогікі, ростам рэжысёрскага і акцёрскага мастацтва.

Пяру С. Пятровіча належаць таксама грунтоўныя даследаванні: "Народныя тэатры Беларусі" (Мн., 1966 г), "Тэатральная самадзейнасць Савецкай Беларусі" (Мн., 1972 г.), "Якуб Колас і беларускі тэатр" (Мн., 1975 г.). Шэраг прац прысвечаны разгляду творчасці Беларускага ТЮГа. Адна з іх "Дзіцячы тэатр БССР (1931—1941 гг.)" была апублікавана асобнай кніжкай у 1983 годзе — ужо пасля смерці аўтара.

Сяргей Пятровіч унёс значны ўклад у развіццё беларускай тэатразнаўчай навукі. Ён застаўся ў нашай памяці не толькі як таленавіты і нястомны працаўнік, але яшчэ і як чала-

ца з новымі патрабаваннямі часу. Тое, чым "Тэлефільм" мог бы займацца, і чаго ад яго чакаюць тэлегледачы, гэта, канешне, серыялы. Дакументальныя і мастацкія. Творчы "падмурак" для гэтага ёсць. Ёсць і першая спроба мастацкага тэлесерыяла — фільм У. Арлова "Праклятыя ўтульны дом". Але ёсць праблема з аўтарамі. Не хочуць людзі пісаць за тыя грошы, што прапануе тэлерадыёкампанія! Потым — планавае размеркаванне здымак і мантажу — калі на тыдні даецца некалькі гадзін і рэжысёр павінен паспець. Даўно ставілася пытанне перадаць "Тэлефільму" для пастаяннай работы адну мантажную студыю, але гэта не было вырашана. Зараз творчы калектыў "Тэлефільма" перасялілі на старую студыю па вул. Камуністычнай у былы кінакомплекс, дзе раней былі склады — вокны на ўзроўні зямлі, на іх краты, сонца ў пакоі не трапляе, брудныя, жудасныя прыбіральні і калідор.

Сёння на Беларусі вельмі мала структур, якія ствараюць кіно. У народзе кажуць — "ламаць — не будаваць". Тое, што зараз адбываецца на БТ, ягоная рэарганізацыя — гэта калі "ламаюць праз калена". Кажуць, "каб лес быў прыгожым і здаровым — трэба старыя дрэвы спілаваць, а новыя пасадзіць". На БТ адбываецца лесапавал — калі ўсе дрэвы спілавалі абы-як, але скласці і вывезці іх, каб пасадзіць новыя, — немагчыма, можна толькі падпаліць, але на палянай зямлі доўгі час нічога не расце. З БТ зараз пайшло шмат высокіх прафесіяналаў, вельмі таленавітых рэжысёраў і рэдактараў, бо па іх пілою прайшлася гэтая рэарганізацыя. Было закрыта шмат добрых праграм, на змену якім прыйшлі нізкапробныя і нецікавыя. Навошта ўсё гэта рабілася, я не ведаю, як не ведаю і не разумею большасць супрацоўнікаў тэлебачання і тэлегледачоў, бо гледачу зусім не цікава, якія структуры існуюць на тэлебачанні, каму яны падпарадкоўваюцца і г. д. Гледачу цікава глядзець добрыя праграмы. Зараз зусім не занята ніша мастацкага вяшчання, якое на БТ было заўсёды моцным. Таму на плечы былога "Тэлефільма" сёння ўскладзена цяжкая ноша — трымаць высокі ўзровень сваіх фільмаў, шукаць новыя формы існавання, любымі сродкамі захаваць сваё імя — ТА "Тэлефільм", свой калектыў і проста выжыць...

**Наталля СЦЯЖКО**

# Мастацкая адукацыя ў Беларусі

## ПОГЛЯД НА ТЫСЯЧАГОДДЗЕ РАЗВІЦЦЯ

Не так даўно ў Беларускім універсітэце культуры была выдадзена грунтоўная манаграфія Веры Паўлаўны Пракапцовай "Мастацкая адукацыя ў Беларусі" (11 ул.-выд. аркушаў, наклад— 600 асобнікаў). Невялікі тыраж і значная цікавасць спецыялістаў да ўзнятай аўтарам праблемы адразу ж зрабілі амаль немагчымым набыццё гэтай кнігі. Нягледзячы на тое, што ў нашай рэспубліцы існуе шмат даследаванняў па розных галінах беларускага мастацтва, пытанні спецыяльнай мастацкай адукацыі амаль заўсёды разглядаюцца там вельмі абмежавана і толькі ў суадносінах з агульнымі праблемамі таго ці іншага мастацтва. Выключэнне складаюць, бадай, толькі дзве працы. Гэта манаграфія В. Масленнікавай (Пракапцовай) "Музычная адукацыя ў Беларусі" і раздзелы Ю. Сохара "Тэатральная адукацыя" — у шматтомным выданні "Гісторыя беларускага тэатра". У сваёй новай кнізе В. Пракапцова дае вызначэнне такім паняццям, як мастацкая школа, мастацкая адукацыя, разглядае іх цалкам, комплексна і адначасова ў межах розных відаў мастацтваў: выяўленчага, музычнага, тэатральнага, харэаграфічнага. Выяўляюцца асноўныя рысы сістэмы мастацкай адукацыі, якія былі ўласцівы розным перыядам гісторыі Беларусі — сярэднявеччу, Адраджэнню, Асветніцтву, рамантызму, культуры XX ст. Такім чынам, аўтар даследуе гісторыка-тэарэтычныя праблемы фарміравання мастацкай адукацыі на працягу амаль тысячагоддзя: ад вытокаў (XI—XII стст.) да перыяду яе станаўлення ў XX ст. У выніку ў кнізе па сутнасці ўпершыню канцэптуальна разглядаецца праблема функцыянавання мастацкай адукацыі як сістэмы ў гісторыка-тэарэтычным аспекце. Манаграфія мае строгую, можна сказаць, дысертацыйную канцэпцыю і структуру. Яна складаецца з Уводзін, чатырох глаў і Заключэння.

Ва Уводзінах вызначаюцца мэты і задачы даследавання. Падкрэсліваецца, што мастацкая адукацыя разглядаецца поліфанічна, з пункту гледжання сукупнасці спецыфічных характарыстык навучання ў розных відах мастацтва. Аўтар прапануе распрацоўку адной тэмы-задачы — "вызначэнне ідэйна-сацыяльных функцый і метадалагічных прынцыпаў, якія былі ўласцівыя пэўнай гісторыка-мастацкай эпосе".

У Першай главе "Дзейнасць асветнікаў і вытокі мастацкай адукацыі на Беларусі ў XI — першай палове XVII ст." разглядаюцца сінкрэтычныя вытокі мастацкіх навыкаў у эпоху сярэднявечча, гуманістычная скіраванасць агульных прынцыпаў мастацкай адукацыі ў эпоху Адраджэння.

Другая глава "Фарміраванне прынцыпаў падрыхтоўкі мастака, музыканта, акцёра ў межах культавых і прыватна-ўласніцкіх устаноў другой паловы XVII—XVIII ст." выяўляе размежаванне культавых і свецкіх асноў мастацкай адукацыі ў эпоху Асветніцтва, паказвае зараджэнне самастойных відавых (музычных, харэаграфічных) мастацка-адукацыйных устаноў у рэаліях прыватна-ўласніцкіх маёнткаў.

У Трэцяй главе "Мастацкая адукацыя як самастойная галіна культуры ў Беларусі XIX — пачатку XX ст." ідзе гаворка аб фарміраванні спецыяльных музычных, мастацкіх школ, даецца вызначэнне мастацкай адукацыі як самастойнай галіны культуры.

У Чацвёртай главе "Станаўленне сістэмы мастацкай адукацыі ў Беларусі XX ст" аналізуецца працэс сталага існавання мастацкай адукацыі як сістэмы ва ўмовах сучаснасці. Такім чынам, змест дадзенай манаграфіі вызначае логіку яе структуры, якая ў сваю чаргу адлюстроўвае логіку фарміравання мастацкай адукацыі на Беларусі на працягу амаль тысячагоддзя.

У Заключэнні аўтар робіць шмат высноў, разважае аб тым, што, відаць, не было ніводнай эпохі, у якой панавалі бы толькі адзін від мастацтва. Музычнае і выяўленчае мастацтва, драматычны тэатр, харэаграфія заўсёды існавалі побач, сінтэтычна выконвалі функцыі асветніцтва, выхавання, адукацыі. "Мастацкая адукацыя кожнай эпохі абапіралася на дасягненні папярэдняга часу, што сведчыць аб паслядоўнасці прагрэсіўнага развіцця культуры". Адначасова слушна заўважаецца, што мастацкая адукацыя "заўсёды хістаецца паміж арыентацыяй на мінулыя дасягненні (традыцыі) і імкненнем да будучыні, новай і непрадказальнай".

Манаграфія В. Пракапцовай "Мастацкая адукацыя ў Беларусі" грунтоўна закрывае адну з "белых плям" айчыннага мастацтвазнаўства, уносіць заметны ўклад у яго развіццё. Вельмі багаты фактаалагічны матэрыял, шмат ілюстрацый, навуковы, але не сухі прынцып падачы матэрыялу робяць гэтую кнігу яшчэ больш прыцягальнай і значнай. Выданне, безумоўна, зацікавіць шырокія колы беларускай мастацкай грамадскасці, будзе карысным і ў паўсядзённай працы даследчыкам мастацкай культуры, выкладчыкам, студэнтам.

У якасці некаторых заўваг можна адзначыць не вельмі якасныя ў паліграфічным плане ілюстрацыі. Альбо адсутнасць у пераліку імёнаў вядомых беларускіх музыказнаўцаў. Прозвішча аднаго з іх карыфеяў — Бранілава Сільвестравіча Смольскага (дарэчы, былога навуковага кіраўніка кандыдацкай дысертацыі аўтара). Іншы раз слушныя тэарэтычныя высновы даследчыцы амаль патанаюць у гістарычным фактаалагічным матэрыяле, таму кніга ўвогуле здаецца больш гістарычнай, чым тэарэтычнай. Тым не менш вялікая праца аўтара па зборы і асэнсаванні матэрыялу не можа не выклікаць павагі. Кніга выдадзена на грант Прэзідэнцкага фонду падтрымкі літаратуры і мастацтва. Гэта каштоўнае і вельмі патрэбнае даследаванне, безумоўна, зойме сваё адметнае месца ў бібліятэцы беларускай навуковай мастацтвазнаўчай кнігі.

**Людміла ЛЯВОНАВА**

нецца да 22 красавіка) — лірычную меладраму А. Краўчука "Калядная містэрыя", што распавядае пра чулліваe каханне стваральніка лялек (у фільме сыграла вядомая актрыса Ч. Хаматава), "Уласную цэнь" В. Нарыцкай, прысвечаную жаночаму сяброўству (прыз за лепшую рэжысёрскую работу VII фестывалю расійскага кіно "Акно ў Еўропу), "Містэрыю" М. Калатазішвілі, пра вяртанне эмігранта ў родную Грузію, "Цёмную ноч" А. Кавалава — "віртуозную варыяцыю на тэмы нямецкага кінаэкспрэсіянізму". Дарэчы, некаторыя фільмы А. Кавалава раней дэманстраваліся ў Мінску: думаецца, што аматары аўтарскага кіно помняць і "Сады скарпіёна", і "Канцэрт для пацука", і "С. Эйзенштэйн. Аўтабіяграфія".

"Дні кіно Санкт-Пецярбурга ў Мінску" — падстава ўспомніць пра лёс студыі "Ленфільм". Нягледзячы на эканамічныя цяжкасці, тут па-ранейшаму "запускаюцца" новыя фільмы. Напрыклад, сталы ленфільмаўскі рэжысёр А. Герман лічыць, што цяперашняму дырэктару студыі В. Сяргееву ўдалося стварыць нармальную, рабочую атмасферу. А рэжысёра А. Сакурава радуе, што студыя выжыла і не змяніла свайго твару, не здрадзіла сабе, што "Ленфільм" працягвае заставацца студыяй блізкай да літаратуры, да камернай мастацкай формы...

**В.Б.**

*На здымку: кадр з кінафільма "Цялец"*



*Сяргей Астапавіч Пятровіч з сям'ёй, 1961 г.*

век добразычлівы, наўрымслівы, які вельмі любіў жыццё і сваю родную Беларусь.

**Людміла ЛЯВОНАВА**

ТВОРЧАСЦЬ

# Прыгажосць — гэта рух

## НАШ КАРЭСПАНДЭНТ ГУТАРЫЦЬ З МАСТАКОМ Аляксандрам ГРЫШКЕВІЧАМ

***Аляксандр ГРЫШКЕВІЧ нарадзіўся ў 61-м. Закончыў Мінскую мастацкую вучэльню імя Глебава, Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут. Вучыўся ў Шаранговіча і Паплаўскага. Работы знаходзяцца ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі, у галандскай галерэі "Пітэр Брэйгель", у прыватных зборах на Беларусі і за мяжой...***

**— Аляксандр Мікалаевіч, адкуль вы родам?**

— Нарадзіўся я ў Маладзечне. Лета праводзіў у вёсцы, на Вілейшчыне, дзе жылі мае бацькі да пераезду ў горад. Вёска з пяці двароў, з усіх бакоў — лес. Не вёска нават, хутчэй — хутар. Гэта ціхая выспа. Зараз ужо нікога няма. А калі жыццё там буяла, людзі вытваралі для сябе амаль усё, неабходнае для жыцця — ад хлеба і бульбы да адзення і мэблі. У кожнай хаце быў ткацкі станок. Кожны быў па-свойму таленавіты.

**— Раскажыце пра першыя крокі да будучай прафесіі.**

— Марай дзяцінства было маляваць афішы для кінатэатра. Пакольні ў тым узросце з "жывым" мастацтвам нідзе болей не сустракаўся. Значна пазней, калі стаў студэнтам інстытута, ажыццявіў дзіцячую мару. Месяцы два летам працаваў мастаком у кінатэатры. Старанна рыхтаваўся, рабіў эскізы да вялікіх афіш. Часта, акрамя назвы фільма, у мяне не было іншай інфармацыі. Прыходзілася фантазіраваць. Праз вобраз назвы спрабаваў раскрыць змест. Кантакт з гледачом адбываўся, калі вывешваў двухметровыя шчыты на фасадзе кінатэатра. Хваляваўся вельмі....

У 14 гадоў, калі займаўся ў Маладзечанскай студыі, маімі педагогамі ў розны час былі К. Харашэвіч, Ю. Герасіменка— людзі, аддадзеныя мастацтву. І гэта перадавалася нам, вучням.

**— Што было галоўным на той час? Веды?**

— Мабыць, не столькі веды, перададзеныя ад педагогаў, колькі асабістыя адносіны да працы, уражанні ад зносін з гэтымі людзьмі. У вучэльні, інстытуце такіх людзей таксама было дастаткова — В. Васток, К. Шастоўскі, П. Любамудраў. Яны не ўяўлялі сябе без мастацтва.

**— Памятаеце свае першыя работы?**

— Тыя жывапісныя эцюды былі звязаны з наіўнымі спробамі разгадаць "сакрэты" мастацтва, з імітацыяй. Значна пазней я пачаў задаваць сабе пытанні: "Чым я займаюся? Што такое мастацтва? Якая ў яго мэта?"

**— Да якіх высноў прыйшлі?**

— Здаецца, карціна — не хлеб, не адзенне, без яе можна пражыць. Можна, калі ў чалавека адсутнічае душа. Мастацтва (музыка, літаратура ці жывапіс) — напрамую звяртаецца да душы чалавека. Менавіта яно робіць жыццё поўным, шчаслівым. Але! Агляніцеся наўкола — як мы збяднелі! Жывём, нібы на вакзале. Усё чакаем чагосьці. А час мінае. Няма ў гэтай будзённасці насычанасці, паўнаты... Мастацтва — тавар першай неабходнасці. Яно павінна быць запатрабаваным. У кожнай драбніцы. Скажам, у планіроўцы жылых раёнаў, у вітрынах магазінаў... Многія мастакі выязджаюць у іншыя краіны ў пошуках заробку. Працуюць на карысць замежжа. Іх права. Іншыя народы ад гэтага багацеюць, мы — становімся бяднейшымі. Калі мастак не запатрабаваны — гэта не ягоная віна, гэта віна дзяржавы, бяда грамадства.

**— Шмат сказана пра чароўную сілу мастацтва... У чым яго чарадзейнасць?**

— Мастацтва — гэта сусвет сузірання. Яно патрабуе ад гледача актыўнага ўдзелу. Наіўна капіраваць які-небудзь прадмет. Прыгажосць — гэта рух. Падзьмуў вецер,





зашапацела трава, абудзілася сонца, пабеглі промні па вадзе... Жывапіснае палатно — усяго толькі фарба на плоскасці. Для стварэння адмысловага сусвету неабходна карыстацца падуладнымі табе сродкамі. Колерам, пластыкай...

**— Які жанр мастацтва вам бліжэй?**

— Лірычны пейзаж. У ім я адчуваю сябе найбольш свабодна. Пішу работы доўга. Аддаю перавагу фантазіі, падпарадкоўваюся стану душы. Задумка дыктуе кампазіцыйныя рашэнні. За час працы многае мяняецца. І гэты працэс доўжыцца да таго часу, пакуль я не пачынаю адчуваць, што палатно ажывае. У гэты шчаслівы момант галоўнае не спрачацца з ім, а прыслухоўвацца да подыху гэтага таямнічага жыцця. Тады пачынае гучаць нейкая чароўная музыка. Дэталі складваюцца ў цэлае, ёмістае... Як казаў адзін рэжысёр, калі мастак **малюе** мопса, то адным мопсам у свеце становіцца болей. Іншы мастак **стварае** мопаса — і свет атрымлівае яшчэ аднаго мастака. У сучасным свеце, свеце мастацтва роля асобы стваральніка карцін робіцца рашаючай. Рамяство адыходзіць на іншы план. Важна адчуваць дух часу, яго рытм.

**— Хацелася б, каб сын працягнуў вашу справу, стаў мастаком?**

— Было б няблага, каб сын меў творчую прафесію, якую б любіў, якой бы ганарыўся. А кім стане — мастаком, канструктарам ці чырванадрэўшчыкам — не так важна.

Лічу, што ў чалавека павінна быць творчая прафесія. Калі працуеш з любоўю, жыццё набывае сэнс.

**Гутарыла Юлія НАЖЭНКА**

*На здымках: мастак А. ГРЫШКЕВІЧ; "Гаўрыіл Беластоцкі".*

## З кагорты лімаўцаў

### Уладзіміру ФЕДАСЕЕНКУ — 75

**У "ЛіМе" Уладзімір Канстанцінавіч у свой час загадваў аддзелам выяўленчага мастацтва, а перад гэтым нямала перажыў, зведаўшы ў юначым узросце, што такое фашызм.**

**А нарадзіўся У. Федасеенка 22 красавіка 1926 года ў вёсцы Бор Жлобінскага раёна. У партызанскім руху ўдзельнічаў у 1942—1943 гадах, быў цяжка паранены, узнагароджаны ордэнам Чырвонай зоркі і Айчыннай вайны II ступені. Скончыў Гомельскі рачны тэхнікум (1946), Рэспубліканскую партыйную школу пры ЦК КПБ (1951). Быў інструктарам Гомельскага абкама камсамола, ЦК ЛКСМБ. Працаваў у газеце "Піянер Беларусі", часопісе "Сельская гаспадарка Беларусі", "Настаўніцкай газеце", рэдактарам выдавецтва "Беларусь", старшым інспектарам Упраўлення кніжнага гандлю Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па друку, а пасля "ЛіМа" — старшым рэдактарам у рэдакцыі часопіса "Беларусь".**

**Літаратурную працу Уладзімір Канстанцінавіч пачаў у 1951 годзе. Найбольшую вядомасць яму, як празаіку, прынеслі раманы "Дубовая Града", "Віхры на скрыжаваннях", "Пасля смерчу" і "Мутныя росы", асобныя з якіх перавыдаваліся, а таксама выходзілі ў перакладзе на рускую мову. У сваіх творах пісьменнік ідзе ад уласнаперажытага, але моцная дакументальная аснова не перашкаджае яму пераходзіць да значных абагульненняў.**

**Проза У. Федасеенкі — гэта вялікі зрэз жыцця, а героі ўзяты з самой паўсядзённасці. Пра каго б ні расказваў У. Федасеенка — пра абаронцаў Айчыны ў гады Вялікай Айчыннай вайны, ці пра тых, хто адбудоўвае мірнае жыццё, ён прытрымліваецца той праўды, паводле якой кожны чалавек як асоба раскрываецца ў сутыкненні дабра і зла, а яго характар спалучае ў сябе розныя якасці. У. Федасеенка далёкі ад думкі пэўныя сітуацыі вырашаць адналінейна, а гэта яшчэ адно пацвярджэнне жыццёвасці яго твораў. Асабліва надзённа гучыць раман "Мутныя росы", у якіх аўтар звяртаецца да асэнсавання негатыўных момантаў з нашага нядаўняга мінулага.**

**З 75-годдзем, шаноўны Уладзімір Канстанцінавіч! Яшчэ доўгіх год жыцця вам і новых твораў!**

## "Мастацтва", N 3

**Беларускі рэспубліканскі тэатр юнага гледача святкуе свой 45-гадовы юбілей. У сувязі з гэтым часопіс змясціў шэраг матэрыялаў, аб'яднаных назвай "З асаблівай місіяй", а таксама артыкул Д. Стэльмах "З мінулага — у будучыню. Фарміраванне мастацкага асяродка. "Генеалогія" мастацкага музея" — такі падзагаловак артыкула Н. Усавай "Мастацкі Мінск XIX — пачатку XX стагоддзя". В. Вайцяхоўская ("Калядныя мроі") расказвае пра выстаўку "З новым шчасцем!", што працавала напрыканцы мінулага — у пачатку сёлетняга года ў мастацкім цэнтры "Жыльбел" у Мінску. Змешчаны таксама артыкулы Ю. Барысевіча "Чацвёртая сцяна", В. Суславай "Шэкспір у прасторы сімвала", А. Храбровай "Водгулле "Варшаўскай восені-2000", Д. Падбярэзскага "Музыка — без праблем!", Н. Фральцовай "Магічная лічба 7", Д. Віленскага "Усходнееўрапейская фатаграфія ў эпоху глабальнага арт-рынку", гутарка А. Храбровай з дырэктарам фестывалю "Варшаўская восень" Т. Вялецкім ("Змяняецца час, змяняецца музыка...").**

АДГАЛОСКІ

# Праху героя пакланіся

### ЛІСТ АД ДУШЫ ДА НЕ ВЯДОМАЙ МНЕ Зоі ШКЛЯНІК

Мажліва, не прачытаў бы, шаноўная Зоя, ваш не дужа вялікі допіс газетны, каб не кароценькія радочкі пад вашым прозвішчам на чацвёртай старонцы "ЛіМа", які я выцягнуў з свае паштовае скрынкі ў шосты дзень красавіка: "в. Бабынічы, Полацкі р-н".

Бабынічы, Бабынічы, Бабынічы...

Набатны гул біў мне ў скроні, спамін грукаў у сэрца даўнім болем, тугой і скрухай. У Полацкім раёне няма іншай вёскі з гэткай назвай! Бабынічы ёсць толькі на Ветрыншчыне, і Ветрынскі раён былы цяпер уваходзіць у склад Полацкага.

Бабынічы!.. Гэта тыя Бабынічы, дзе болей як палову стагоддзя таму я ўпершыню ў сваім жыцці плакаў горка, плакаў наўзрыд, прыціскаючыся лбом да халоднага цела свайго забітага сябра: у начным баі на чыгунцы каля станцыі Загацце разрыўная фашысцкая куля трапіла яму ў левы бок.

Ён ляжаў на шырокай лаве ў хаце, дзе месціўся штаб нашага партызанскага атрада "Бальшавік", і, прыбегшы туды, я бухнуўся на коленкі, рыдаў, стагнаў ад болю. Потым, калі слёз ужо не было, сядзеў на лаве каля акна, глядзеў, як ясняцца размаляваныя марозам шыбы, на якія то клаўся, то знікаў цень партызана, які вартаваў штабную хату, і плішчылася ў галаву думка — усе пасляваенныя гады яна часцяком прыходзіла да мяне — пра тое, што на месцы Колі Паўлава павінен быў ляжаць я, гэта ён злавіў тую кулю, што смерць пасылала мне.

Мы былі з ім амаль аднагодкі: перад вайной я скончыў восьмы, а ён перайшоў у дзесяты. Ён быў у Маскоўскім апалчэнні разам з бацькам, разам з ім быў паранены, трапіў у палон. У Баравусе, пад Полацкам, бацька ягоны сканаў, а яму пашчасціла ўцячы з лагера, перабрацца на левы бераг Дзвіны і трапіць у партызанскі атрад "Смерць фашызму". У пачатку сорак трэцяга дваццаць камсамольцаў з гэтага атрада былі накіраваны на стварэнне новага атрада "Бальшавік", мяне прызначылі камандзірам падрыўной групы, у склад яе быў уключаны і ён, Коля Паўлаў.

Весялун, спявак, жартаўнік, і яго ўдзел у канцэртах мастацкай самадзейнасці, што ладзілі мы ў Бабынічах, надавалі тым вясёлым вечарынам дзівосную непаўторнасць. А на баявых заданнях — абачлівасць вопытнага паляўнічага, абвостранае адчуванне небяспекі, варожай засады, хітра замаскаванай міны, жалезная вытрымка, калі трэба было закладваць фугас ці скрынку плаўленага ў кузні толу: мініравалі чыгунку, масты, дарогі мы звычайна з ім удвух, і лёс бярог нас — мы не памыліліся аніводнага разу!

Бярог да тае зімовай ночы сорак трэцяга. Ён тады павёў на чыгунку групу, а я сядзеў у хаце басанож. Недзе апоўначы з майстэрні гаспадарчага ўзвода прынеслі адрамантаваны мой абутак. Праз нейкі час у хату прыбег кулямётчык нашай групы Генадзь Прылоўскі, вясёлы і слаўны хлопец з Архангельска. Ён з цяжкасцю разляпіў ссінелыя ад бяды і моцнага марозу губы...

Колю Паўлава пахавалі на кветкавай клумбе каля аднапавярховага будынка бабыніцкай бальніцы. Марозны сонечны дзень, гліністыя, бы ў крыві, чырвоныя глыжы каля магілы... Мне добра помніцца і гэта, і белабелае ад глушанай рыбы бабыніцкае возера вясной сорак чацвёртага: сем снарадаў з фашысцкага бронецягніка, што напярэдадні жахлівай блакады лупіў з гармат па нашых акопах і бліндажах, пераляцелі пагорак, на якім стаяла бабыніцкая школа, і перамяшалі ваду і чараты. У возера, што па правы бок, чамусьці не трапіў аніводны снарад. На вуліцы бабыніцкія — таксама.

Пасля пахавання мы склалі ліст у Маскву, да маці героя, а я напісаў верш, прысвечаны памяці свайго партызанскага сябра. Той верш быў надрукаваны ў насценнай газеце атрада. Лёс, мабыць: некалькі нумароў тых насценных лісткоў і чарнавік ліста да маці масквіча Колі Паўлава ёсць —- захаваліся ў мінскіх фондах архіўных.

Я змог напісаць пра тыя жахлівыя дні ў сваіх кнігах толькі праз трыццаць гадоў. У сваёй партызанскай трылогіі — у яе ўвайшлі раманы "Верай і праўдай", "Літасці не чакай", "Памерці заўсёды паспееш" — мне ўдалося, як здаецца, стварыць вобраз майго добрага партызанскага сябра, што зведаў боль, кроў і бяду...

Прачытаў ваш допіс, паважаная Зоя, спехам, паглыбіцца ў сэнс яго замінала ўсё тое, што абудзіла ў душы адно гэтае слова — Бабынічы. Ужо адвячорак клаўся за вокнамі, і на беразе Свіслачы, у парку, запаліліся электрычныя ліхтары, і мне падалося, што гэта не рачная плынь, а роўнядзь бабыніцкага возера, і гэта адтуль, з глыбін зыркай, як залачонай, гучыць Колеў голас: "А вот здесь, командир, после войны, я поживу-у-у... Скорее всего, навсегда останусь. Баньку и домик во-он там, на берегу у леса, поставлю... Боже-е-е-ественно!"

Ён быў улюбёны ў гэтае слоўца "Божественно". Тады, адхвастаныя ў лазні венікамі да змогі, мы кульнуліся ў азяро і ляжалі на спіне, вольна раскінуўшы рукі. А з лазні ўжо выкаціліся, чырвоныя, як буракі, нашы падрыўнікі — украінец Лёня Запарожац, ліцвінаўскі хлопец Хведар Кулеш, а за ім Генка Прылоўскі — з разгону бухаліся з драўляных масточкаў у дзівосную ваду, і ад рогату і хваляў гайдаліся густыя чараты.

Запарожца фашысты павесілі на таполі на станцыі Загацце — захапілі параненага ў палон і катавалі жудасна.

Куляшу фашысцкая міна адарвала абедзве нагі, калі прарываліся з блакады Матырынскага лесу, і ён, сцякаючы крывёю, прасіў-маліў: "Гранаткі мне пакіньце, прыкрыю вас"...

Генку Прылоўскага невядома куды знёс жудасны агонь фашысцкай блакады вясной сорак чацвёртага.

Аніхто ў тыя гаротныя дні не ведаў, чым абернецца для яго асабіста заўтрашні дзень. Адзін толькі Коля Паўлаў, распараны бярозавым венікам, крыху ачмурэлы ад нязвыклага для маскоўскага хлопца духу напаленага камення лазні — яна стаяла тады ў канцы Бабыніцкай вуліцы, што ўпіраецца ў высакаваты затравелы бераг, — залюляны ласкавай азёрнай вадою, свой лёс дакладна прадбачыў: тут, маўляў, "навсегда останусь..."

І сапраўды: назаўсёды застаўся ў зямлі бабыніцкай. Толькі не жывы, а мёртвы...

Шмат пра што думаў я ў той вечар, растрывожаны подпісам пад вашым артыкулам, развагамі вашымі. Ранкам я перачытаў допіс, прачытаў уважліва, зноў адчуў боль вашае душы, зноў завіхурылі і пачуцці і пытанні. Над адным абзацам допіса разважаў болей ад усяго. Прывяду яго цалкам, хоць ён і даўгаваты.

"У далёкім 87-ым я стаяла ў чарзе па цукеркі ў літоўскім Каўнасе. Шакаладных медалькаў заставалася некалькі штук, калі да мяне падышла чарга. Гандлярка звярнулася да мяне па-літоўску, але я яе не зразумела. Тады жанчына, што стаяла за мною, сказала нешта па-літоўску гандлярцы. Шакаладныя медалькі былі аддадзены маёй суседцы па чарзе. Мусіць здзіўленне ад таго яднання, якое адбылося праз слова на маіх вачах, не дало ходу маёй крыўдзе і абурэнню. Я атрымала ўрок, які не толькі паўплываў на мой светапогляд, але, можа, стаў вызначальным. Ці магчыма нешта падобнае ў нас? Чаму роднае слова не мае такой сілы? Знайсці адказ на гэтае пытанне зусім не проста. Ці адзін толькі складаны гістарычны шлях беларусаў і неабходнасць самазахавання сталі прычынай абыякавых, а часта і варожых адносін да свайго, крэўнага?

Хіба ж не было ўціску, тых жа паразаў у літоўцаў ды ўкраінцаў? Але ж яны пачуваюць сябе народам, а мы — давайце глядзець праўдзе ў вочы — не".

Мяне здзівіла нелагічнасць, паспешлівасць, з якой была зроблена вамі выснова ў той літоўскай краме, выснова, той урок, які "не толькі паўплываў на мой светапогляд, але, можа, стаў вызначальным". Вы ведаеце, пра што гаманілі гандлярка, якая тымі шакаладнымі медалькамі распараджалася, і жанчына, што стаяла ў чарзе з вамі побач? Не ведаеце! І мне тое невядома, і варыянтаў тае гаворкі можа быць процьма. Два магчымыя варыянты я сабе ўяўляю. Яны, мажліва, памылковыя, бо, хутчэй за ўсё, іншыя словы там гучалі.

Першы. "Біруга, галубачка, у бальніцу бягу, дачушка там другі дзень ляжыць, нешта на сэрцайка жаліцца. Можа, калі прынясу гэтыя медалькі, дык і паправіцца хутчэй. Шкада вельмі, што суседцы па чарзе медалькі не дастанецца. Але вочы ў яе разумныя, па ўсім відаць, што душа ў яе спагадлівая. Не павінна ж яна на мяне сердавацца, пакрыўдзіцца. Пакладзі ты гэтыя шакаладкі ў абгортачку якую папрыгажэй. Вунь у тую, дзе сонейка намалявана..."

Другі. "Біруга, галубачка, гэтай прыхадні расейскай аніводнай медалькі не давай! І-іш, маскалька! Паналезла іх тутатка, дыхнуць няма чым. Трасцу ёй! І ўсім астатнім — таксама! Нашы яны, медалькі шакаладныя, мы іх і есці будзем! А гэтых прыхадняў расейскіх — у каршэнь!"

Каб вы пачулі тыя словы, што я змадэліраваў у першым варыянце, вы б — пераканаciv ў гэтым абсалютна! — не толькі саступілі тыя медалькі шакаладныя не вядомай вам літоўскай маці, але і за свае грошы штонебудзь дакупілі той хворай дзяўчынцы. Праўда ж? Так, праўда, бо нашы жанчыны беларускія, — асабліва кабеты бабыніцкія! — аніколі не былі абыякавыя да гора чужога, да бяды людской.

А каб вы пачулі ў той краме словы, якія змадэліраваў я ў другім варыянце? Вось гэта быў бы сапраўды "...урок, які не толькі паўплываў на мой светапогляд, але, можа, стаў вызначальным". Праўда ж?

Цяпер пра апошні сказ абзаца, які я прыводжу.

У далёкім 73-м — даруйце, што скарыстоўваю вашу форму пабудовы сказа — стаяў я на кафедры факультэта славістыкі славутай навучальнай установы ў Вене. Эўропа, як кажуць цяпер, самы цэнтр яе. Былі Дні беларускай культуры ў Аўстрыі і лекцыю для аўстрыйскіх славістаў аб развіцці беларускага мастацкага слова ўнеслі ў план мерапрыемстваў. Студэнты віталі мяне шчыра, слухалі ўважна. Адзін з сівых прафесараў, калі не памыляюся загадчык аддзялення славістыкі, слухаў і паглядаў на мяне з пэўным скепсісам у вачах: малады, маўляў, аніводнай сівой валасіны ў неблагой чупрыне, і калі верыць гэтаму пісьменніку, дык яны там, у Беларусі гэтай, і пішуць шмат, і кніжак панавыдавалі — не злічыць!

Але скепсіс з вачэй той славутасці быццам ветрам знесла, калі пачаў я расказваць пра адно з выданняў, падрыхтаванага ў 1963 годзе Інстытутам мовазнаўства імя Якуба Коласа Акадэміі навук і якое я купіў у акадэмічнай кнігарні. Дыялекталагічны слоўнік? Дыялекталагічны атлас беларускай мовы? Каляровыя карты дыялектаў? Сто трыццаць чатыры друкаваныя аркушы? У вольным продажы? За тры рублі дваццаць восем капеек?

Я пішу вам гэтыя радкі, а ён ляжыць на маім стале, гэты "Дыялекталагічны атлас беларускай мовы". Разгарнуў наўгад. Карта № 123. "Націскны канчатак вінавальнага склону адзіночнага ліку прыметнікаў жаночага роду". Якая папера! Якія фарбы! А гэткіх жа карт у выданні 337!

Трыццаць год таму яны, гэтыя сівыя славутасці вучонага свету ў цэнтры Еўропы, не хацелі мне верыць. У нас, маўляў, багатай краіне, няма такога выдання. Грошы, маўляў, драбяза, мы людзі багатыя. Але ж — праца! Гэта ж дзесяцігоддзі матэрыял на тыя карты трэба збіраць. Плойму вучоных, буйных спецыялістаў падключаць. Як жа змудрылася гэткая маленькая Беларусь, што ў вайну была зруйнавана і абрабаваная да апошняе ніткі, гэткую навуковую працу стварыць і апублікаваць. Гэткае выданне — гонар нацыі!

Стаяў я тады, беларус, перад тымі славутасцямі высокай навучальнай установы — адна ж з самых старадаўніх у Еўропе! — і паглядаў на іх смела і незалежна. Я ганарыўся, што я беларус. Я пачуваў сябе народам. Народам, якому ёсць чым ганарыцца! Народам, якім я ганарыўся і ганаруся!

Я і сёння, нават болей, чым тады ў Венскім універсітэце, пачуваю сябе народам беларускім, маленькай часцінкаю роднай зямлі, Бацькаўшчыны мілай, якая сёння перажывае цяжкую часіну свае гісторыі. У свой народ, у светлую долю яго, у сонечны дзень нашага Заўтра я веру непахісна!

Напярэдадні добрага жаночага свята зайшоў я ў цэнтральную кніжную краму, што на праспекце Скарынінскім — набыў падарункі сваім жанчынам. Жонцы — цікавую вельмі кнігу: "Віцебшчына. Назвы населеных пунктаў паводле легендаў і паданняў". Дачцэ — таксама кнігу цудоўную: "Еўфрасіння Полацкая. Жыццяпіс і даследаванне спадчыны Асветніцы". Унучцы, якая лінгвістычны каледж заканчвае, — кнігу, што памерам напалову меншая за той Атлас, пра які я згадваў вышэй, — "Беларусь на старых паштоўках". Выданне дзівоснае, на беларускай і англійскай мовах.

Да жаночага свята было яшчэ далекавата, і часу хапіла на аналіз майго кашалька і на разгляд таго, што набыў. Падлік грашовы быў невясёлы: заплаціў я за свой набытак падарункавы ў тысячу дзвесце дваццаць пяць разоў больш, чым за той Атлас, якім пахваляўся трыццаць гадоў таму перад аўстрыйскімі славістамі. Але затое як жа ўсцешылася душа: можна і сёння ехаць у якую хочаш краіну свету і гэтымі выданнямі пахваліцца!

Чытаў легенды і паданні роднай Віцебшчыны, разглядаў выявы полацкіх замкаў, намаляваныя Станіславам Пахалавіцкім у 1579 годзе, здымкі ваколіцаў Полацка, дзе 21 мая 1910 года святары неслі раку з мошчамі нашай славутай асветніцы, шмат іншых дакументаў, сабраных у кнізе — на вякі адбілася веліч і слава зямлі Полацкай і ўсяго народа беларускага...

"Беларусь на старых паштоўках" зачаравала надоўга. Углядаўся ў стромыя берагі роднай Палаты і драўляныя прычалы на Дзвіне, што была калыскай майго маленства, у шнуры цагляных будынкаў, на месцы якіх зараз даўжэзны сквер, у шырокія прыступкі велічнага помніка салдатам, што развеялі ў попел славу напалеонаўскай армады, на доўгія ланцугі вакол велічнага абеліска, на якіх мы ў дзяцінстве гайдаліся, бы на арэлях, і сэрца сціскаў нялёгкі одум, і, паўтараючы вашы словы, шаноўная Зоя, быў "у душы рой пачуццяў і пытанняў"... Так, не на адзін дзесятак машынапісных старонак адказ на той "рой пытанняў".

Спадзяюся, што мы пагамонім і не на газетных старонках, а ў Бабынічах і ў Мінску. Дужа ж хочацца з таго пагарба, дзе ля старых бяроз былі нашы партызанскія акопы, зірнуць на бабыніцкія вуліцы, на роўнядзь азёрную, што некалі гэтак ласкава люляла і мяне, і сяброў маіх, і добрага хлопца маскоўскага, прах якога цяпер перанеслі з кветніка каля былога будынка бальніцы на пакаты пагорак, у братнюю магілу, на якой стаіць скамянелы народны мсцівец.

Вельмі прашу вас, не вядомая пакуль што мне Зоя Шклянік, пакланіцеся і ад мяне праху героя, былога падрыўніка, масквіча Колі Паўлава, і праху ўсіх тых, хто ляжыць побач з ім. Асабіста я зраблю гэта ўлетку, калі, спадзяюся, убачу Бабынічы.

**З паклонам і павагай**
**Алесь САВІЦКІ, пісьменнік.**

*Леанід ЛЕВАНОВІЧ*

# АПОВЕДЫ-БЫЛІ

## Развітанне ў Парыжы

Шкада мне тых людзей, якія ніколі не снедалі ў самалёце ў завоблачнай вышыні. У ілюмінатар б'юць зыркія, зусім не гарачыя промні раніцняга сонца, унізе срабрыста-белыя барханы аблокаў, часам яны грувасцяцца нібы лёдавыя таросы.

Унізе Балтыйскае мора. Для мяне яно роднае: служыў матросам на Балтыцы. У прагалінах між аблокаў відаць свінцова-шэрыя хвалі. З вышыні яны здаюцца застылымі, мёртвымі.

Зноў густыя белыя аблокі зацягваюць усё ўнізе, затое сонца свеціць яшчэ ярчэй. І на душы святлее. Сэрца цешыць думка: наперадзе Парыж — культурная сталіца свету. Не бяда, што ўбачу яго толькі з вышыні птушынага палёту, пасаджу дзве-тры гадзіны ў аэрапорце і палячу далей, за акіян, у далёкую Амерыку. Невядома, як яно там будзе. Трывожыць Парыж, каб не заблукаць у велізарным аэрапорце імя Шарля дэ Голя. Ды і пра мяккую пасадку думаецца заўсёды.

Супакойвала тое, што лячу не адзін, а з маладой сімпатычнай Аленай. Яна ўжо была ў Амерыцы, ведае ангельскую мову, цяпер ляціць зноў, бо там працуе ейны муж. Алена скончыла аспірантуру, падрыхтавала дысертацыю і перад абаронаю месяцы на тры вырашыла злётаць да мужа, які "асцепяніўся" раней, стаў кандыдатам навук, а летась стаў і Аленіным мужам. Працуе ён у адной фірме з маім зяцем Алесем, таксама кандыдатам навук. Алесь і даслаў мне запрашэнне. Візу далі — маю права наведаць дачку, унука, зяця. Правы чалавека амерыканцы паважаюць, хоць часам, можа, і спекулююць гэтым.

Каб любавацца аблокамі, я перасеў са свайго месца на вольнае каля ілюмінатара. Глядзеў уніз, а ў думках сігануў у маленства, у далёкі сорак чацвёрты. Тады, стоячы на высокім беразе Бесядзі, я пазіраў на чырваназорныя самалёты і марыў, што некалі буду лятаць...

Сталася так, што да пятнаццаці гадоў я ні разу не быў у горадзе, апрача раённага цэнтра, не ездзіў поездам і ні разу не фатаграфаваўся. Зайздрошчу сваім дзецям і ўнукам: у іх цэлыя альбомы здымкаў — з першых крокаў жыцця. У мяне гэтага няма. Не лятаў я і самалётам. Першы раз ляцеў з Таліна ў Мінск на "ІЛ-14", які падаўся мне вялікім і шыкоўным самалётам. Быў я тады матросам і спяшаўся на экзаменацыйную сесію ў БДУ. Вучыўся нелегальна. Не ведаў, што салдатам і матросам тэрміновай службы завочная вучоба забаронена, даў сабе клятву: буду працягваць вучобу — першы курс скончу да прызыву. Ну, і прабіў здуру гэтую забарону. Чаму здуру? Таму, што сябрукі хадзілі ў звальненні, на танцы, на спатканні, а я сядзеў над кантрольнымі работамі, як той дурань...

Потым, працуючы ў рэдакцыях, пакаласіў па Беларусі, паездзіў і палятаў па былым Саюзе. Але за мяжу першы раз паехаў, калі пераваліла за паўсотню. Апошнія дзесяць гадоў ездзіў мала, нават у блізкае замежжа не выбіраўся. І вось такая далёкая вандроўка.

●

Па мяккім дыванку між крэсел сцюардэса коціць цялежку, на ёй дробненька пазвоньвае шкло. Вяртаюся на сваё законнае месца, адкідваю маленькі столік, прымацаваны да спінкі крэсла. Усмешлівая сцюардэса, цыбатая, русявая, з трошкі даўгаватым носам — тыповая літоўка, і гэта натуральна, бо самалёт належыць Літоўскім авіялініям, пытаецца па-ангельску, што буду піць.

— Ці ёсць у вас каньяк? Калі ласка... — кажу па-беларуску.

— Ест. Но нужно доплачивайт.

Скупярдзяі літоўцы! Пераходжу на ангельскую:

— Рэд вайн, пліз.

І вось на століку маленькая пляшачка — грамаў на дзвесце — чырвонага віна. Зрэшты, мне, чалавеку з адселенай радыяцыйнай вёскі, рэд вайн — чырвонае віно, можа, лепей, чымся каньяк.

Справа ад мяне каля ілюмінатара сядзеў імпазантны мужчына ў цёмным гарнітуры, белай кашулі, пад гальштукам. Рудаватыя валасы былі сабраны на патыліцы ў хвосцік, над вушамі звісалі буклі-рулончыкі. Ён чытаў газету на ангельскай мове, на мяне не звяртаў ніякай увагі. Піў ён апельсінавы сок. Затое сусед злева — цераз праход, малады хлопец з барodкай — таксама папрасіў чырвонага віна.

Са смакам я расправіўся са снеданкам. Мяса на сподачку з фольгі, запакаванае, падагрэтае, было мяккае, сакавітое, зеляніна розная, перац, соль, цукар, масла, нават вяршкі для кавы — усё было запакавана асобна. Французскае чырвонае віно дадавала ўсяму смаку, і я адчуў, як напруга пасля бяссоннай ночы знікае, нібы растае.

Сцюардэса збірала посуд, я сказаў ёй: "áчу" — дзякуй. Каб вы толькі бачылі, як яна расцвіла, пачуўшы гэтае кароткае, усяго тры літары, слова на яе роднай мове.

—Калі ласка! — чароўна ўсміхнулася яна.

Бог мой, як усе людзі на зямлі шануюць сваю мову! А мы?! А мы бязлітасна топчам усё беларускае. І падумалася са скрухаю: калі мы не павернемся тварам да роднай мовы, гісторыі, культуры, то дваццаць першае стагоддзе можа стацца апошнім для беларускай нацыі.

Пачуўшы "ачу", заварушыўся сусед справа, усміхнуўся, але нічога не сказаў. Па старой журналісцкай звычцы мне карцела з ім загаварыць: разам снедалі, сядзім поплеч, за вакно ён амаль што не глядзеў, мабыць, лятаць даводзіцца часта, і выгляд аблокаў з вышыні яго не цікавіў.



—Экс'юзмі, — папрасіў я прабачэння і спытаўся, ці гаворыць ён па-руску.

—Ноу, — пахітаў ён галавой, аж ягоны хвосцік на патыліцы матлянуўся.

—А полянд? — у адказ было тое самае "ноу".

—А дойч?

—Этвас, — неяк сарамліва адказаў сусед.

—Зэр гут! — узрадаваўся я.

І мы пачалі гутарыць па-нямецку. Неўзабаве я пераканаўся, што суседава "этвас" — няшмат, трохі — значна пераважае маё веданне нямецкай мовы. Зрэшты,адкуль мне было яе ведаць? Дзе я мог дасканала авалодаць ёю? У вясковай школе? На завочным журфаку універсітэта? Я стараўся. Аднойчы на сесіі быў кур'ёз: па нямецкай я атрымаў "выдатна", а па беларускай — "здавальняюча".

Карацей, з нашай размовы я тое-сёе дазнаўся: ляціць сусед у Сан-Францыска, па прафесіі — музыка, быў у Вільні, Коўне па творчых справах. У сваю чаргу ён спытаўся, чым займаюся я, якую маю прафесію.Хацеў сказаць: журналіст, але прыкусіў язык — сорамна журналісту не "спікаць" па-ангельску. Вырашыў сказаць праўду, што я "трохі" пісьменнік.

—Ай эн э райтэр, — сціпла прамовіў я.

—О! Зэр гут! — цяпер ужо ўзрадаваўся сусед, з павагай і пашанай паглядзеў на мяне.

Каб канчаткова яго пераканаць, што я — пісьменнік, дастаў з сакваяжа сёмы нумар часопіса "Нёман" за 2000 год з маім раманам "Сіняе лета". Ён пагартаў, уважліва паглядзеў на мой фотаздымак, падзякаваў і вярнуў часопіс.

●

Размова на гэтым абарвалася, але яна зацікавіла хлопца з барадой.

—Будьте добры, дайте посмотреть журнал, — на чысцюткай рускай мове папрасіў ён.

Я падаў яму часопіс, зноў перасеў на вольнае месца каля ілюмінатара. Сонца свяціла яшчэ мацней, ярчэй, белыя аблокі, нібы камякі ваты, плылі ўнізе. Між імі віднеліся азёры рознай канфігурацыі, звілістыя стужкі рэк і рачулак, зялёныя, бурыя квадрацікі палёў, прамыя ніткі дарог, маленькія цацачныя аўтамабілі. Магчыма, гэта была паўночная Нямеччына, а мо яшчэ Польшча. Часта трапляліся паселішчы, белыя дамы, роўныя квадраты-кварталы. Гэтая карціна нагадвала велізарнае пано, сабранае з дэталек дзіцячага канструктара.

Мая спадарожніца Алена спала, падзіцячы падпёршы шчаку кулачком. Менавіта яна ўгаварыла мяне ляцець Літоўскімі авіялініямі. Я быў толькі за "Белавія". Мы з Аленай ездзілі ў офіс гэтай кампаніі. Нас ветліва сустрэлі, далі раздрукоўку: якім рэйсам ляцім да Шэнана — гэта Ірландыя, колькі часу чакаем самалёта на Бостан. Задаволеныя, мы ўзялі тыя паперчыны.

—Цераз пару дзён нам дадуць тарыфы. І вы купіце білеты. Месцы забраніраваны. Усё нармальна. Можаце не хвалявацца.

Алена і я тэлефанавалі — тарыфаў не было. Ветлівы голас абнадзейваў: заўтра пад канец дня расцэнкі будуць. Але дзень канчаўся, пэўнасці не было.

Аднойчы Алена патэлефанавала і ледзь не праз слёзы прамовіла:

—Муж злуецца, што я не бяру білета. І вашы турбуюцца. Трэба вырашаць. Я дазналася, што Шэнан не дае "Белавія" квоты. Званіла ў Літоўскія авіяліні. У іх можна купіць білеты хоць заўтра. І танней...

Давялося пагадзіцца.

У тры гадзіны ночы мы загрузіліся каля Мінскага аўтавакзала ў чырвоны "форд"-экспрэс, і праз дождж і туман, праз мытні і межы ў шэсць раніцы былі ў Вільні. Ішоў дождж, дзьмуў сыры пранізлівы вецер, калі сядалі ў самалёт.

А тут гэткая харашыня! Зыркае сонца, цёмна-сіні купал неба, белыя аблокі ўнізе, сінія стужкі рэк, белыя цацачныя дамкі, зялёныя квадрацікі палеткаў, нібы паштовыя маркі. Прамыя дарогі нагадвалі шпагат, якім зямля ўвязана, спакавана, падрыхтавана да адпраўкі. Засталося толькі напісаць адрас прызначэння.

Наша прызначэнне было вядома: наперадзе чакаў Парыж, да якога тры гадзіны лёту. Хлопец з часопісам заварушыўся, павярнуўся да мяне:

—Інтересно вы пишете. Не могли бы вы дать журнал?

—На жаль...Вязу сваім паказаць. "Нёман" ёсць у Інтэрнэце, пры жаданні можна там знайсці.

—Это мысль... На судне есть компьютер.

Слова за словам — мы разгаварыліся. І я выслухаў цэлую споведзь.

●

Валдзіс нарадзіўся ў Клайпедзе. Зараз яму дваццаць тры. Маці — літоўка, бацька — украінец з Данецкай вобласці. Служыў тут, пазнаёміліся і пабраліся. У сям'і яшчэ малодшы брат і сястра. Скончыў Валдзіс вучылішча марскіх кулінараў, вучыўся два гады з паловай. Парабіў на літоўскім судне — мусіў кінуць, плацілі мала, шторм ён кепска пераносіць. Уладкаваўся ў рэстаран. І тут заробкі былі мізэрныя, а работа цяжкая. Пасябраваў з дзяўчынай, студэнткай фінансавага тэхнікума. Яна не супраць замужжа, але — дзе жыць? Неяк трапілася на вочы аб'ява: нямецкая кампанія шукае повара на судна. Умовы: спецыяльная адукацыя, абавязковае валоданне ангельскай. Падаў дакументы, але тэст па ангельскай не здаў. Выручыла нямецкая мова, якую вучыў у школе, якую выдатна ведае маці, бо Клайпеда-Мемель доўгі час належала немцам. Кантракт заключылі на паўгода. Потым пару месяцаў адпачынак і — новы кантракт.

—Перад гэтым плаваў на сухагрузе. Порт прыпіскі — французскі горад Нант. Каманда шэсць чалавек. Капітан, старпом, механік, боцман, матрос і я — кок. Капітан — немец, усе астатнія — рускія, украінцы. Раней і капітан быў рускі. Талковы мужык. Людскі чалавек. У яго кантракт скончыўся. Прыйшоў немец. І адразу ўсё перамянілася. Лепшыя харчы — сабе. Піва... На судне ніякага алкаголю няма, толькі піва. Дык вось, раней скрынка — гэта дваццаць чатыры малыя пляшкі — каштавала дзевяць баксаў. Ён загнуў дванаццаць. Лепшае мяса — сабе, масла — таксама. Усё яму гатуй асобна... Англійскую я вывучыў. Інакш нельга. Раз у месяц прыязджае чыноўнік з параходства. Хто не здасць тэст, таго капітан мусіць звольніць. Дык вось, капітан з усімі па-ангельску. А мяне пакліча ў каюту: давай пагутарым па-нямецку. А я сабе думаю: гад ты паласаты, усё лепшае з'ядаеш сам, а хлопцам жратвы не хапае. Мала вас, фрыцаў, у вайну калашмацілі... Карацей, скончыўся кантракт. Пабыў дома. Зараз еду на новае судна. Знаёмы боцман, украінец, даў тэлеграму: тэрмінова патрабуецца кок. Я тут у кантору. Заключыў кантракт яшчэ на паўгода.

—Ну, а дзяўчына? Згодна чакаць?

—Згодна. Яна працуе бухгалтарам у адной фірме. Я ўжо трохі сабраў грошай. Але малавата. Страшэнна дарагое жыллё. Камунальныя паслугі — таксама. Няма ў нас у Летуве парадку. Усё распрадалі. Порт Клайпедскі прадалі датчанам, нафтазавод — амерыканцам. Прэзідэнтам абралі старога чалавека. Чужога, з Амерыкі. Думалі, ён прывязе мех даляраў. Дудкі! Капіталісты таму і багатыя, што кожны цэнт палічаць. А калі якую тысячу дадуць, дык злупяць дзесяць... Паўгода паплаваю — там паглядзім. Хочацца сям'ю завесці. Хопіць бадзяцца па свеце. Хачу цвёрдай зямлі пад нагамі. Бо як шторм — ляжу пластом. Глытаю таблеткі ад марской хваробы. А гатаваць трэба. Мяне ніхто не заменіць. Нехта іншы можа сачкануць, прыхварэць. А мне кроў з носа — накармі каманду. Суровая служба... Нядаўна ў Біскайскім заліве трапілі ў шторм. Шчасце, што везлі метал, станкі. Усё замацавана. А калі б зерне? Яно ж рухаецца... Пайшлі б на дно, — уздыхнуў Валдзіс.

Самалёт гайдануўся, уздрыгнуў, быццам пераадолеў нейкія паветраныя калдобіны. Сцюардэса знакамі паказала, што трэба прышпіліць рэмень. Алена прачнулася, соладка пацягнулася, зірнула на мяне, усміхнулася. Я міжволі падумаў: якая ты яшчэ дзяўчо. І такая прыгожая, і разумніца... Купляюць мазгі амерыканцы. Гэтулькі гадоў вучылі ейнага мужа. Бясплатна. Год вучобы ў Гарвардскім універсітэце каштуе трыццаць пяць тысяч долараў. І цяпер ён працуе на чужога дзядзьку. І яна столькі гадоў вучылася. У яе цікавая работа на кафедры. А трэба ехаць да мужа. Бо там ён зарабляе болей. Працуе па дзесяць гадзін. І ў суботу працуе, бывае, і ноч прыхопліваюць, калі нешта тэрміновае... Па дарозе да Вільні мы доўга гутарылі. Урэзаліся ў памяць яе словы: "Буду гатаваць мужу абеды. І ўздыхаць па сваёй рабоце. Якую люблю. І ёсць перспектыва. Шкада, грошай плацяць мала".

Я не пайшоў на сваё месца, зашпіліў рэмень і прыліп да ілюмінатара. Унізе быў Парыж. Мільгануў сілуэт Эйфелевай вежы, бліскучая стужка Сены, роўныя кварталы дамоў, вуліцы, па якіх каціліся рознакаляровыя жучкі-машыны. Самалёт рэзка пачаў зніжацца, вушы як заклала ватай. І вось ужо зялёнае поле аэрадрома Шарля дэ Голя.

Самалёт доўга каціўся па бетоннай дарожцы. Нарэшце спыніўся, здрыгануўся, застылі вінты стомленых турбін. Зашчоўкалі рамяні, пасажыры пачалі падымацца. Я апрануўся, кінуў на развітанне "Гуд бай" суседу з хвосцікам, той прыязна ўсміхнуўся, падаў мяккую, пульхную далонь.

Валдзіс шчыра ціснуў маю руку.

—Шчасліва табе, Валдзіс, плаваць. Хай дачакаецца цябе нявеста. І каб усё ў цябе было добра.

—Шчыра дзякую. А вам жадаю мяккай пасадкі ў Бостане.

Сыходзячы з трапа, я павярнуўся, каб падаць руку Алене, але мяне апярэдзіў рослы, статны негр у сіняй форме з бліскучымі гузікамі, у цёмным капелюшы. Усім кабетам ён падаваў шырокую шакаладную далонь з доўгімі пальцамі, на якіх паблісквалі перламутрава-белыя пазногці. Ён усім казаў: "Бонжур!", шырока ўсміхаўся, акурат белыя гусі з падпечча бялеліся здаровыя прыгожыя зубы. І ягоны твар свяціўся ад радасці: як добра, што вы прыляцелі на французскую зямлю...

О, Парыж! Нават з негрытоса, продкі якога, можа, яшчэ нядаўна былі канібаламі, ты вырабіў, вышкаліў сапраўднага джэнтльмена.

Развітанне адбылося. І я мог бы паставіць кропку, але... У жыцця свае сюжэты. І трэба ж было гэтак здарыцца, што ў Парыжы адбылося і назапланаванае расстанне. Так бы мовіць, расстанне без развітання. Мы разлучыліся з Аленай...

*(Працяг на стар. 14—15)*

## Традыцыі жывуць

**У абласной бібліятэцы імя А. С. Пушкіна з 20 па 30 сакавіка праводзілася свята кнігі. Адбылося ўрачыстае адкрыццё тыдня, які пачаўся днём беларускай кнігі. У мерапрыемстве браў удзел пісьменнік Алесь Савіцкі. Да таго ж быў праведзены агляд новых літаратурных паступленняў у бібліятэку, адбылася вікарына "Кнігі, якія ведаюць усе".**

**Цікава прайшоў дзень бацькоў. Бібліятэкары запрасілі юных чытачоў з татамі і мамамі, каб пазнаёміць іх з тым, што чытаюць дзеці. Была арганізавана выстава "Чытаем разам з дзецьмі", адкрыты прагляд навінак літаратуры...**

**Асобны дзень быў прысвечаны фантастычнай кнізе. Літаратура гэтага жанру выдаецца ў вялікай колькасці, але чамусьці цікавасць да яе значна паменшылася. Для знаёмства з чытачамі выстаўляліся экспазіцыі "Вялікія фантасты", "Касмічнае падарожжа ў свеце мары і прадбачання".**

**Для таго, каб прывіць любоў чытача да класічнай літаратуры, быў праведзены дзень рускай класікі, таксама аздоблены тэматычнымі выставамі. Як і кожны месяц, праходзіў дзень экалогіі. Гэта звязана з тым, што ўжо 2 гады пры бібліятэцы наладжана экалагічная агульная адукацыя на базе 19-й школы для паралелі 6-7 класаў.**

**Была арганізавана кніжная ілюстраваная выстава "Экалогія роднага краю", прысвечаная твору "Падарожжа па краіне беларусаў" В. Вольскага.**

**Закончыўся тыдзень днём перыёдыкі. Можна было пазнаёміцца з выставай "Свет у люстэрку прэсы"...**

**Пра ўсё гэта паведаміла мне загадчыца аддзела абслугоўвання вучняў 6-9 класаў Ірына Рудзянок. Інтэрнэт, зазначыла яна, тэлевізар, усё ж не могуць замяняць непасрэднага кантакту з кнігай.**

**Цяжка не згадзіцца з гэтымі словамі. Таму Дзень кнігі — свята не толькі бібліятэкараў, мастакоў-афарміцеляў, супрацоўнікаў выдавецтваў, але й кожнага з нас. Бо ва ўсіх знаёмства з літаратурай пачынаецца з дзіцячай кніжкі. І свята гэтае будзе жыць так доўга, колькі мы самі будзем памятаць і адзначаць яго.**

**Алена ЖУКАВА**

## Госці юных чытачоў

**У Жодзінскай дзіцячай бібліятэцы, якой ужо трыццаць пяць гадоў, сталі традыцыйнымі сустрэчы з беларускімі пісьменнікамі.**

**Адна з іх адбылася з удзелам дырэктара выдавецтва "Юнацтва" Алеся Камароўскага, у якога нядаўна ў выдавецтве "Ураджай" выйшла кніга прозы "Пенальці". Гасцямі юных чытачоў і супрацоўнікаў бібліятэкі ў гэты дзень былі таксама супрацоўнікі "Юнацтва" Міхась Зарэмба і Уладзімір Мазго. Ішла змястоўная гаворка аб шляхах развіцця нацыянальнай дзіцячай літаратуры, праблемах нацыянальнага адраджэння. Госці пакінулі жадаючым на сваіх кнігах аўтографы. А перад гэтым жодзінцы прымалі ў сябе пісьменнікаў Алеся Бадака і Алеся Наварыча, якія працуюць у рэдакцыі часопіса "Бярозка".**

## "Беларуская думка", N 3

**Раздзел "Літаратура і жыццё" прадстаўлены вершамі М. Віняцкага, апавяданне М. Даніленкі "На зломе ночы" і яго эсэ "Шчасце сееца, жнецца..." Ю. Цвяткоў ("Дзесятая муза" не абуза, калі яна служыць выхаванню") дзеліцца ўражаннямі ад кінафестывалю "Лістапад-2000". З. Лысенка ("Адметны голас краіны") знаёміць са студэнтамі і выкладчыкамі Беларускай акадэміі музыкі. М. Мішчанчук рэцэнзуе кнігу М. Мікуліча "Максім Танк. На скразняках стагоддзя" ("Новае пра Максіма Танка"). Прапануецца падборка афарызмаў Э. Скобелева "Хто мысліць — пашырае прастор свайго лёсу". Начальнік аддзела гуманітарных навук Дзяржаўнага вышэйшага атэстацыйнага камітэта Рэспублікі Беларусь В. Языковіч знаёміць з новымі кандыдацкімі і доктарскімі дысертацыямі, абароненымі апошнім часам па праблемах мастацтва, культуры, літаратуры ("З любові да мастацтва"). А адкрываецца нумар артыкулам акадэміка НАН Беларусі Я. Бабосава "Цывілізаваны выбар Беларусі".**

# АПОВЕДЫ-БЫЛІ

*(Заканчэнне. Пачатак на стар. 13)*

●

А выйшла так... Доўгі эскалатар, нібы вужака, то падымаўся ўгору, то апускаўся ўніз і поўз нястомна далей, несучы на сабе цэлы натоўп пасажыраў. Гэтак ехалі мы, мусіць, метраў дзвесце. І апынуліся на другім паверсе велізарнай круглай залы, падзеленай на ячэйкі-соты. Тут меліся невялікія ярка асветленыя крамы, стойкі для рэгістрацыі пасажыраў і сатэліты-выхады да самалётаў. Такіх сатэлітаў я налічыў сем.

Мы ўладкаваліся на чырвонай квадратнай канапе, у цэнтры яе ўзвышаўся меншы квадрат. На яго людзі ставілі сакваяжы, прыхіналіся галавой і драмалі. Была яшчэ раніца, свяціла негарачае лістападаўскае сонца — на дварэ ўсяго плюс чатыры. Таму было дзіўна бачыць смуглявых афрыканцаў у шортах і тэнісках, арабаў у сандалях на босую нагу, белых сукнях да пят. Шмат было пасажыраў з малымі дзецьмі, асабліва негрыцянак. Дзеці гучна плакалі, незадаволеныя, што іх пабудзілі. Плач стаяў, нібы ў дзіцячых яслях.

Непадалёк свяціўся сатэліт на Багдад, насупраць рэгістравалі пасажыраў на Дзюсельдорф, наступны сатэліт збіраў пасажыраў на Лондан. Перыядычна то Алена, то я хадзілі ў разведку — паглядзець на стэнд-табло, ці не аб'явілі рэгістрацыю на Бостан. Час ішоў, а наш рэйс не "свяціўся". Тады Алена пачала дапытвацца ў дзяжурнай, сімпатычнай ветлівай негрыцянкі, і дазналася, што нам трэба ехаць аўтобусам у тэрмінал "Сі".

Ехалі доўга. Здавалася, што аэрапорт застаўся далёка ззаду, аўтобус усё кружыў між нейкіх пабудоў. Нарэшце над кабінай вадзіцеля пабеглі ліцры — тэрмінал "Сі".

Рэгістрацыя ішла поўным ходам. Мы з Аленай сталі ў чаргу. Справа вызваліўся малады вусаты чыноўнік, і я пакіраваў да яго. Ён доўга разглядаў пашпарт, потым вывучаў білет, нешта спытаўся ў мяне, я адказаў: "ноу спік інгліш". Ён паківаў галавою, азірнуўся, быццам раздумваў, куды мяне накіраваць, потым торкнуў камп'ютэр, пачаў таропка нешта пісаць, затым падняўся, нахіліўся да мяне і паказаў абведзеныя кружком літару "С" і лічбу "34А". Я зразумеў, што гэта выхад Сі і месца ў самалёце. Падышоў да Алены.

—Вам пашанцавала, — уздыхнула Алена. — Гэты чалавек рэгіструе бізнесоўцаў. А ў нас звычайны, эканомікрэйс. Вы ідзіце. Я даганю...

"Свет не без добрых людзей", — падумаў я і пакіраваў далей. Тут маю сумку і мяне зноў "прасвяцілі", бомбы не знайшлі, і я паўстаў перад энергічнай маладой французжанкай, якая ўзяла мае паперы.

—Мінск? Вільнюс? — робячы націск на апошні склад, гаварыла яна і глядзела мне ў вочы.

Я разумеў, што яна пытаецца, чаму я з Мінска лячу праз Вільнюс. Пачаў тлумачыць, што гэта блізка, што мы суседзі. Яна паклікала другую дзяўчыну, сінявокую, з кароткімі густымі валасамі. Тая зірнула ў мой пашпарт, усміхнулася і сказала:

—Май грэнтфазэ... Мой дзеда — беларус, — і падала мне руку. — Орэвуар, масье. До свиданья.

— Орэвуар! Да пабачэння! — я пацалаваў руку этнічнай зямлячцы і з гонарам за сваю Беларусь рушыў далей.

Неўзабаве апынуўся ў чэраве велізарнага "Боінга". Адшукаў сваё месца, азірнуўся па баках — русявай Аленінай галоўкі нідзе не было.

Самалёт зароў турбінамі і пачаў крута набіраць вышыню. Сцюардэса з ветлівай усмешкай падала цэлафанавы пакунак. У ім былі чырвоныя навушнічкі і сіняя маска-акуляры, каб схаваць вочы ад сонца, промні якога нястомна свяцілі ў ілюмінатар. Я ўключыў навушнікі і пачуў прыемную лёгкую музыку.

А тым часам Алена званіла з Парыжа ў Бостан, што яна спазнілася на самалёт, а я згубіўся. Ейны муж пазваніў майму зяцю, а той патэлефанаваў у Мінск. І быў аб'яўлены міжнародны вышук. Нарэшце ў французскай авіякампаніі "Дэльта" ў Парыжы майму зяцю Алесю адказалі: пасажыр Ліяўонаў — так было напісана ў білеце маё сапраўднае, "дзявочае" прозвішча — рэгістрацыю прайшоў і ляціць на борце самалёта.

Нічога гэтага я не ведаў. Слухаў сабе музыку, пазіраў на экран тэлевізара ўверсе над праходам — у гэтым адсеку тэлевізараў было шэсць. На блакітным экране чырвоны самалёцік пункцірна аддаляўся ад Парыжа і ляцеў над сіняй прасторай Атлантыкі.

Міжволі мільганула думка: калі ўсё будзе добра, дык роўна праз трыццаць тры дні зноў прылячу ў Парыж. І зноў развітаюся з ім — магчыма, назаўсёды. Так і не пабачыўшы яго.

### Шорты

У смутку і ў даляраў тая ж масць.

**Данута БІЧЭЛЬ**

—А табе, бацька, шорты. Памерай. Ці падыдуць? У вёсцы, на дачы, будзеш фарсіць... Як п а р е н ь...

Я не стаў казаць, што хварсіць не люблю, і не той ужо ўзрост, каб выглядаць "парнем". Падзякаваў за падарунак. Прыемна, што і за акіянам дачка думала пра мяне. Шорты падышлі. Нідзе не ціснулі, колер светла-жоўты, прыемны, спакойны. Першае, што ўразіла, былі кішэні. Іх налічыў ажно шэсць! Чатыры спераду і дзве ззаду. А другое — матузкі, каб мацаваць шорты на поясе — на жывот любога памеру.

Практычны народ амерыканцы. І напакаваць у кішэні можна багата чаго і з'есці колькі ўлезе. Дачка і жонка ў адзін голас гаварылі: шорты хоць куды! І ўнук Міколка ўсунуў свае тры грошы, як жа без яго:

—Дзеда, у мяне падобныя шорты. Я ўсё лета ў іх бегаю. У Бостане цяплей, чым у Мінску. А пляж які на беразе акіяна! Пясок такі гарачы! Яйка можна спячы.

Я цішком уздыхнуў: якое там "хоць куды", калі на дварэ зіма — дачка прыляцела пад Новы год. Які там пляж? Дзе і калі загараць? Зрэшты, хай паляжаць да лета.

Але неяк і ўлетку не выпадала адзець шорты. У лес у іх не пойдзеш — абдзярэш калені аб розныя патырчакі, ды і заедзі ў лесе поўна, камароў. На сяло не надта кінешся — бабулькі языкамі абмыюць. А галоўнае — няма калі ў іх швэндацца. А за пісьмовым сталом у вясковай хаце зусім не горача. Ды ўлетку дужа не пасядзіш за сталом, дармо, што ні каровы, ні свінчаці няма ў хляве. Усё роўна клопат знойдзецца.

●

Аднойчы я з раніцы касіў у садзе. Вядома ж, у гумовіках, у штанах-спяцоўках з кішэнямі, каб не трымаць асялок у руках. Трава вымахала высокая, і я добра ўпарыўся. Закончыў касьбу, калі сонца ўжо даволі высока ўскацілася на неба, выпіла расу.

Скінуў мокрыя знутры ад поту гумовікі, падкасаў штаны і адчуў, якая гэта радасць — прайсці басаном па мяккім халаднавата-пяшчотным мурагу. У засені кустоў парэчак на траве яшчэ трымалася раса і гэтак прыемна халадзіла ногі.

Што ні кажы, багата радасцяў на свеце! Нават прайсці басаном па траве — вялікая асалода. А па гарачым пяску марскога пляжа! Згадаў незабыўны Кактэбельскі пляж і ласкавае Чорнае мора. Пашкадаваў, што даўно там не быў. А яшчэ падумалася, што ў Кактэбелі я хадзіў у шортах, а на пляжы, вядома, і ў плаўках. Купаўся ўранні і ўвечары, а калі ўдавалася добра пашчыраваць за пісьмовым сталом, дазваляў сабе купанне і перад абедам. Затое па абедзе ішоў у горы. І таксама ў шортах.

І тады я ўспомніў, што ў мяне ёсць навюткія шорты! Адзеў, пахадзіў па двары. Выдатна! Паўшчуваў сябе, што раней не ўспомніў пра іх — меў бы загар да каленяў, як у вясковых жанчын.

Успаміны агарнулі мяне. Некалі, гадоў трыццаць таму, купіў венгерскі гарнітур: зеленаватыя, у дробныя рудаватыя кветачкі шорты і такую ж тэніску. У шортах не было ніводнай кішэні, а тэніска мела дзве. У гэтым гарнітуры я любіў ездзіць з жонкай і дочкамі ў Дом творчасці "Дубулты". Потым купіў іншы гарнітур — нямецкі, з ГДР. Шорты жоўтыя, тэніска цёмна-сіняя ў жоўтыя кветачкі і з жоўтым каўнерыкам, на кішэнях тэніскі жоўтыя клапаны.

Тэніскі насіў і ў Мінску, таму яны хутка знасіліся, а шорты засталіся. Асабліва любіў жоўтыя, сонечныя гэдээраўскія з адной кішэнькай ззаду, нават без гузіка. не тое, што замок-маланка. Можа, таму, што яны нагадвалі пра маю маладосць...

У новых амерыканскіх шортах у той дзень пакрасаваўся я нядоўга. Неўзабаве падкаціў на сваёй Лысцы, прыгожай, шакаладна-чырвонай гнядой кабыле, дзядзька Ігнась. Я прасіў яго прыехаць абагнаць бульбу. Дамовіліся на канец дня, калі спёка ападзе, і пчолы меней будуць лётаць, а яны не любяць коней у гародзе. А конь, дарэчы, вельмі баіцца пчаліных укусаў — калі два дзесяткі пеканучь, дык здараванны каняка можа і капыты адкінуць.

—Ты знаеш, братка, пазней не выпадае. Сена трэба прывезці, — растлумачыў Ігнат Пятровіч сваё дачаснае з'яўленне.

Ігнат мала за мяне старэйшы, але заву яго дзядзькам, як і многія вяскоўцы. Чалавек ён самавіты, масцеравіты і вельмі працавіты. Любіць і пагаварыць, асабліва "пра паліціку". Тэлевізар увечары глядзіць часцяком, а зімой — штодня, усіх палітыкаў ведае і ўсё помніць, хто з іх што абяцае свайму народу. Любіць паразважаць і на вечныя тэмы, успомніць жыццё за польскім часам — хоць і быў ён тады шпінгалетам, але шмат чаго памятае.

Быў дзядзька гладка паголены — так ён выглядае толькі ў суботу, бо галіўся адзін раз на тыдзень, зайздросціў мне, што не галюся, нашу бараду, а яму сваё шчэцце не падабаецца, не раз гаварыў, што некалі папросіць у мяне расады для сваёй барады. Кабылку ён прывязаў за хатаю, сеў на лавачку, дастаў скамячаны пачак "Астры". Ад Ігната патыхала трайным адэкалонам і самагонам.

—Учора тапіў лазню. Хлапцы мае нешта не прыехалі. Дык суседа запрасіў. Зачарых мы з ім дроў прывезлі... Нездарма людзі кажуць: свой за гарой, а сусед у вакне... Папарыліся, па чарцы зрабілі. Ды і дабравата ўрэзалі. Уранні давялося пахмяляцца, — дзядзька Ігнась ссунуў на патыліцу палінялую шэрую кепку, пачухаў злямчаныя сівыя валасы. — Зяць, ну, гэты, каторы дацэнт, экзаменты прымае. Праўда, дачка з Маладэчна прыехала. Хоць сена зграбіць падможа... Іншы раз думаеш, на халеру гэтулькі дзяцей гадаваў? Усё роўна ўдваіх з жонкаю засталіся. Ну, улетку часта наязджаюць. З Мінска, з Маладэчна. З Вялейкі сын прылятае. Унукаў поўная хата. А з Літвы ўжо рэдка. Замежжа, хай яго ліха. Мытні, візы дух вышываюць...

У дзядзькі Ігнася шасцёра дзяцей, чатыры сыны і дзве дачкі. Хлопцы надта не ганяліся за навукаю, працуюць хто электрыкам, хто вадзіцелем, хто на будоўлі. Толькі дачка Лёдзя скончыла інстытут, і муж ейны адукаваны — дацэнт. Менавіта ім, зяцем, найбольш ганарыўся Ігнат.

—Хітрыя штаны ў цябе, Кірэевіч. Хоць і кароткія, гэтулькі кішэняў! Ажно шэсць! Як у мяне дзяцей, — зарагатаў дзядзька, паказаўшы жаўтаватыя, з'едзеныя за немалы век, зубы. — Гэта ж колькі чаго ў іх можна напакаваць!

—Штаны не абы-якія. Амерыканскія.

—Яснае дзела. Амерыканцы ўвесь свет абдзіраюць, як ліпку. Куды ні паедуць, дык усё пад мятлу вычышчаюць. А пакідаюць зялёныя паперкі. Зяць кажа, што яны, зялёныя даляры, нічым не пацверджаны...

—Вы хочаце сказаць, не забяспечаны? — пра тое, што долары бываюць толькі зялёныя, я ўжо гаварыць не стаў.

—Во, во, не забяспечаныя. Ні золатам, ні таварам, ні харчамі. Узяць той жа еўра. Дык ён падмацаваны! І немцы, і французы, і там розныя галандцы, бельгійцы на яго працуюць.

—Дык і амерыканцы працуюць. Яшчэ як! Усяго два тыдні адпачынку маюць. І толькі шэсць дзён маюць права хварэць. Ну, аплачаных. А калі болей — хварэй за свае грошы... Быў там месяц. П'яных не бачыў ніводнага.

—А ў нас па п'янцы мужык нагу зламае. І чатыры месяцы качаецца ў бальніцы. І лечаць, і кормяць, шчэ і бальнічныя аплачваюць. Робім абы з рук. П'ём без меры. Таму і бедныя. Распусціліся на сабачую пугу. А раней? Пры Хрушчове долар быў дзевяноста капеек. Ды яго ніхто і ў вочы не бачыў. А цяпер машыну купіць, ці кватэру адрамантаваць... Толькі даляры ў хаду. Што гэта за дзяржава, дзе чужыя грошы гаспадараць? І за адзін зялёны — мільён зайчыкаў! І чаму гэты курс усё расце? Думаю, што скора абваліцца...

Я зразумеў, што дыскусія набывае міжнародны, глабальны і дужа зацяжны характар, мусіў перапыніць дзядзьку:

—Лыску вадзіць трэба? Ці сама?

—Трэба. А то багата кустоў падрэжа...

Я пакіраваў у хату, каб пераапрануцца. Зняў шорты, адзеў трыко, абуў кірзачы, бо Лыска хоць і рахманая, а неспадзеўкі на нагу можа наступіць. Шорты

